**РОСЫ.** ТАМ, ДЗЕ ЛЯЖЫЦЬ КАЛІНОЎСКІ

**АНШЛЮС.** ЦІ МАГЛА АЎСТРЫЯ ЯГО ПАЗБЕГНУЦЬ?

@Пішам добрыя тэксты ад 1906 www.nn.by

# Наша Гісторыя

№ 12 (17) – 2019

ЗАХАПЛЯЛЬНЫЯ БІЯГРАФІІ
ЦІКАВЫЯ ЗНАХОДКІ
ВАЖНЫЯ АДКРЫЦЦІ

ISSN 2617-2305



**СЕРГІЕВІЧ —** НАЦЫЯНАЛЬНЫ РАМАНТЫК

ЛЕЎЧАНКА — МАГУТНЫ МІНСКІ **ГІПНАТЫЗЁР**

ЦЁПЛАЕ МІНУЛАЕ: **ПЛЫТАГОНЫ**

**КОМІКСЫ**: СУПЕРБЕЛАРУСЬ, ПЛАСТЫЛЯНДЫЯ…

# КАРАТКЕВІЧ
## САКРЭТЫ

16+

Наша Гісторыя
12/2019
history.nn.by

**Навукова-папулярны, літаратурна-мастацкі часопіс**

Выдаецца з 2018 г.

ISSN 2617-2305

Зарэгістраваны Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Пасведчанне аб рэгістрацыі №1921 ад 11.07.2018 г.

**Галоўны рэдактар**
Андрэй Васільевіч Дынько

**Намеснікі галоўнага рэдактара**
Аляксандр Пашкевіч, кандыдат гістарычных навук
Паўліна Скурко, кандыдатка гістарычных навук

**Дызайн і вёрстка** Уладзіслава Губіч

**Карэктура** Таццяна Кур'ян

На першай старонцы вокладкі — фота Уладзіміра Караткевіча аўтарства Валянціна Ждановіча.

Часопіс «Наша гісторыя» выходзіць на беларускай і рускай мовах.
Перыядычнасць — 1 раз на месяц.



**Заснавальнік:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Суродзічы».
Р/р BY84BLBB30120190786828001001 у аддз. 539 ААТ «Белінвестбанк» г. Мінск, вул. Калектарная, 11 код BLBBBY2X,
УНП 190786828.

**Адрас рэдакцыі:** 220030, Мінск, вул. Энгельса, 34А.

**Адрас для допісаў:** 220004, Мінск, а/с 62.

**Тэлефоны:** (017) 316-48-13, (029) 613-32-32, (029) 707-73-29

**E-mail:** nn@nn.by

Цана дамоўная.

**Падпісаны ў друк** 09.12.2019.
Афсетны друк. Папера лёгкакрэйдаваная.
Фармат 60×84/8.
Умоўных друкаваных аркушаў 11,16.
Гарнітура PetersburgC.
Замова 3045.
Наклад 5140.

Часопіс надрукаваны ў ТАА «НАВІТЭХ», друкарня «ГРАДЫЕНТ»®.
Мінск, вул. Бабушкіна, 6А, 220024.
УНП 191415513. ЛД 02330/482 ад 21.02.2017.
Пасведчанне аб рэгістрацыі ў Дзяржаўным рэестры выдаўцоў, вытворцаў і распаўсюднікаў друкаваных выданняў №2/194 от 23.02.2017.

## Ад рэдакцыі

Гэты нумар «Нашай гісторыі» — трэці па ліку, у якім цэнтральнай фігурай з'яўляецца беларускі пісьменнік савецкага часу, адзін з прызнаных класікаў беларускай літаратуры.

Раней быў нумар, дзе цэнтральнай фігурай выступаў Іван Шамякін — сімвалічная постаць сярод тых беларускіх літаратараў, што былі савецкімі не толькі па часе, у якім ім выпала жыць, але і па духу. На яго прыкладзе можна добра вывучаць, як жыла эліта БССР з ліку творчай інтэлігенцыі, цалкам лаяльная да савецкай улады. І як яна пасля дажывала, калі Савецкі Саюз з усімі дабротамі для «інжынераў душ» ляснуўся, а новыя ўмовы былі куды больш суровыя.

Быў нумар і пра Васіля Быкава — чалавека зусім іншага замесу, які ўсёй сваёй творчасцю супрацьстаяў савецкай сістэме, не будучы пры гэтым адкрытым дысідэнтам. І які ў часы краху камуністычнага рэжыму адразу цвёрда і не вагаючыся стаў на нацыянальна-дэмакратычныя пазіцыі.

Уладзімір Караткевіч, які стаў тварам гэтага нумара, — таксама несумненны класік беларускай літаратуры, але зусім іншага характару. У Шамякіне і Быкаве ў іх успрыманні людзьмі шмат бронзавасці, манументальнасці, «правільнасці». Статус высокага чыноўніка, лаўрэата, маральнага аўтарытэта гэтага хоцькі-няхоцькі вымагае. А вось Караткевіч, якога гэта ўсё пры жыцці збольшага абмінула, успрымаецца перадусім як весялун, хуліган, бражнік, вечны шукальнік прыгод. І большасць фотаздымкаў ягоных адпаведныя: сярод іх мала зусім афіцыйных, збольшага пісьменнік у нефармальнай абстаноўцы, з усмешкай на твары, часта з жывёламі на руках. Такія міжволі выклікаюць і давер, і сімпатыю.

Але, натуральна, любім і шануем мы Караткевіча не толькі таму. Бо ўплыў гэтага вясёлага дзядзькі на фармаванне беларусаў як нацыі — каласальны. Ён фактычны пачынальнік беларускай гістарычнай белетрыстыкі, а развіццё гэтага жанру мае выключную важнасць для фармавання нацыянальнай свядомасці. Асабліва ва ўмовах адсутнасці нацыянальнай дзяржавы. Для суседняй Польшчы, напрыклад, на мяжы XIX і XX стагоддзяў такое значэнне мелі творы Генрыка Сянкевіча, перадусім ягоная славутая трылогія. Сам аўтар, скончыўшы яе, адзначаў, што пісаў гэтыя творы перадусім з мэтай «падмацавання сэрцаў» суайчыннікаў. Вось і творы Караткевіча, якія не толькі патрыятычныя, але перадусім цікавыя і захапляльныя, гэтак жа сама падмацоўвалі і падмацоўваюць сэрцы ўжо ягоных суайчыннікаў.

Караткевічу давялося жыць і працаваць у часы не зусім спрыяльныя для творчасці на нацыянальным грунце. Але ў той жа час яны былі і не самыя цёмныя. Поўнай свабоды творчасці тады не было, цэнзурныя нажніцы няспынна працавалі, але і часы, калі за неадпаведнасць шаблонам можна было вельмі лёгка і проста заплаціць свабодай і нават жыццём, прамінулі. Таму Караткевіч многае змог і паспеў зрабіць. Пра гэта, як і пра яго таямніцы — а былі і таямніцы, — піша Андрэй Скурко (**старонка 4–19**).










Volksabstimmung und Großdeutscher Reichstag

Stimmzettel

Wiedervereinigung Österreichs mit dem Deutschen Reich

Adolf Hitler?

Ja














44


58


52


86


73














Рабы! Купляйце рабоў!
94

# ТКЕВІЧ

# І

На Прыпяці. Фота з апошняй вандроўкі Караткевіча.
Адсканавана з арыгінала здымка Валянціна Ждановіча, сябра пісьменніка. Арыгінал захоўвае дачка фатографа Рэгіна Ждановіч. Ён трохі пашкоджаны з правага краю.

**Пра культавага пісьменніка піша Андрэй Скурко.**

Канец 1950-х. Глухая вёска на поўначы Беларусі. Лясы да гарызонту. Малады настаўнік гісторыі кідаецца ў народную стыхію, але хутка ягоны асветніцкі запал гасне: калегі па школе п'юць як коні, бытавуха заядае. Каб абстрагавацца, ён купляе зборнікі беларускай паэзіі. Але і там спрэс — «Глыбокае ворыва», «Высокая хваля», «Песня трактарыста»...

«Раптам знаходжу кніжачку ў кардоннай вокладцы "Матчына душа". Дзікая назва, несавецкая назва, што гэта такое? Адкрываю і чытаю першы верш. Чакаю — абавязкова пра партыю ці хоць пра ўдарніка ці даярку. І раптам: "У векавечнай Бацькаўшчыне клёны нячутна пачынаюць аблятаць". Я не веру сваім вачам. Пагартаў. Ні аднаго трактарыста, ні адной даяркі. І я закахаўся ў гэтага аўтара. Уладзімір Караткевіч прозвішча», — успамінаў археолаг Міхась Чарняўскі.

## У літаратуру праз смерць Сталіна

Мала хто з класікаў вучыўся на пісьменніка. Вось і Караткевіч стаў ім выпадкова. Першы сігнал лёсу ён атрымаў ад самога Янкі Купалы — першым сваім друкаваным творам лічыў ліст з уражаннямі ад Вязынкі. Малады Караткевіч даслаў яго жонцы паэта Уладзіславе Францаўне, а тая апублікавала ў зборніку, прысвечаным песняру.

Але хто ў юнацтве не піша? І, махнуўшы рукой на пару соцень нібыта вучнёўскіх вершаў, студэнт рускай філалогіі Кіеўскага дзяржаўнага ►

▶ ўніверсітэта Караткевіч збіраўся быць навукоўцам. Але адбылося нечаканае: памёр Сталін.

Караткевіч прызнаваўся свайму таварышу, літаратуразнаўцу Арсеню Лісу, што не стаў бы пісьменнікам, каб не адліга, не XX з'езд партыі, не руйнаванне сталіншчыны. Ён «ненавідзеў сталінізм, таталітарызм, усялякі прыгнёт, ураўнілаўку», сведчыў варшаўскі прафесар Фларыян Няўважны, ягоны аднакурснік і сябра на ўсё жыццё.

### Броўка і Танк папрасілі

У кіеўскую аспірантуру Караткевіч, на шчасце для беларускай літаратуры, не паступіў. Тады «прымацаваўся» да кафедры і з'ехаў настаўнічаць у вёску на Кіеўшчыне. Тэмай навуковай працы ён заявіў «Паўстанне 1863 года ў рускай літаратуры». Дысертацыя так і засталася ненапісанай, але мала хто іншы больш зрабіў для памяці пра тое паўстанне.

Вярнуцца ж у Беларусь самому Караткевічу дапамаглі Пятрусь Броўка і Максім Танк: праз мясцовага жывога класіка Паўла Тычыну яны папрасілі ўкраінскае Міністэрства адукацыі дазволіць перспектыўнаму маладому паэту паехаць настаўнічаць на радзіму ў Оршу.



**Старэйшы брат Валерый**, які загінуў у 1941-м.

### Агент Высоцкі

Некалькі вершаў Караткевіч аддаў у аршанскую раёнку «Ленінскі прызыў». «Неабачна, бо не падумаў, як іх успрымуць дамарошчаныя "знаўцы". А яны, аказалася, дыхалі яшчэ сталінскім духам», — успамінаў ён. Супрацоўнік рэдакцыі (і паралельна КГБ) Леанід Высоцкі напісаў артыкул «Не в ногу с жизнью», звінавацiўшы аўтара ў чорнай меланхоліі, захапленні гісторыяй і прадказанні гібелі СССР у вершы «Вадарод».



**Надзея Васілеўна Караткевіч** з сынам Валерыем. 1921 год.

### Маці

Арыстакратызмам Караткевіч надыхаўся ў сям'і. Надзея Васілеўна з паўстанцкага шляхецкага роду Грынкевічаў была «тыпам дваранкі» з дарэвалюцыйным выхаваннем. «Прыроджана панавітая і тонкая ў веданні людзей, — пісаў пра яе востры на вока Рыгор Барадулін. — Адным словам магла ацаніць і ўцаніць, запрасіць і загадаць, вылучыць і паставіць на месца. Любога. Перад Надзеяй Васілеўнай і ў сталым узросце пачуваў сябе кожны дзіцём. Як перад маці. Надзея Васілеўна любіла дарагія, тонкага густу рэчы, сямейныя рэліквіі. Гэта перадалося і сыну».



**Сям'я Караткевічаў** з сяброўскай сям'ёй Садавых на адпачынку ў аршанскім наваколлі. У цэнтры — Валодзя Караткевіч, побач з ім справа — маці Надзея Васілеўна і бацька Сымон Цімафеевіч, першая злева – сястра Наталля. 1933 (?) год.



**Хата, у якой вырас Караткевіч.** Орша, вуліца Караткевіча,10. Здымак 1986 года.



**Валодзя ў маленстве.**

Цкаванне разгортвалася як па метадычцы. Не спалохаў аршанскую газету нават Броўка, які спрабаваў бараніць «цікавы голас» Караткевіча.

Шальмаванне напружвала. І Караткевіч падаўся ў Маскву, спачатку на літаратурныя курсы, пасля на сцэнарныя.

Тады ж яго прынялі і ў Саюз пісьменнікаў. І пасля аршанскага настаўніцтва Караткевіч больш нідзе афіцыйна не рабіў. Членства ў творчым саюзе дазваляла так жыць і не лічыцца «дармаедам». «Выходзіць, я павінен нават дзякаваць таму салдафону Высоцкаму», — казаў Караткевіч.

А пільны ветэран, дарэчы, дажыў да 1973 года і яшчэ заспеў росквіт славы аб'екта сваёй крытыкі.

### Такіх герояў яшчэ не было

Караткевіч піша, што «многаму навучыўся» на Вышэйшых літаратурных курсах у Маскве. Масква дала Караткевічу матэрыял для першага рамана «Леаніды не вернуцца да Зямлі», які ён напісаў у 1962-м за 60 дзён. Галоўны герой — не селянін, а інтэлігент у чацвёртым калене. Для беларускай літаратуры тады гэта было, скажам так, нетыпова.

Калі раман рыхтавалі да выдання асобнай кнігай, яго пачытаў ідэолаг ЦК Васіль Шаура — і набор рассыпалі. Цэнзараў асабліва зачапіла назва «Леанідаў...»: так супала, што ў СССР да ўлады тады прыйшоў Леанід Брэжнеў. Асобнай кнігай раман выйшаў толькі праз 22 гады — узімку 1984-га.

### «Маскоўская штучка»

Так, кажуць, Іван Мележ назваў Ірыну Гораву — гераіню «Леанідаў...», у якую быў закаханы галоўны герой. Яна мела прататыпа — выкладчыцу Вышэйшых літаратурных курсаў мастацтвазнаўцу Ніну Молеву. Як у рамане, так і ў рэальнасці тая была замужам — за мастаком Эліем Бялюціным. Гэта яго мадэрнісцкая групоўка «Новая рэальнасць» арганізавала ў Маскве славутую выставу, разагнаную Хрушчовым. Разгон пазначыў канец палітычнай «адлігі» ў СССР.

Напалоханы Бялюцін пасля скандалу пагадзіўся перавучваць мастакоў-абстракцыяністаў на рэалістаў. Караткевіча такі дэмарш абурыў. Магчыма, заядала, што Молева, якую ён кахаў, засталася з такім канфармістам.

«Рамансаванне» з ёй, прызнаваўся Караткевіч сябру Уладзіміру Калесніку, было платанічным. І тым не менш ён — рамантык! — усур'ёз збіраўся зарабіць да лета 1960-га 200 тысяч рублёў (гэта ў часы, калі настаўнік зарабляў 700 за месяц) на кінасцэнарыях і п'есах, купіць пад Масквой дамок і машыну, каб Ніна, сышоўшы ад мужа да яго, не стала жыць горш. ▶



**У інтэрнацкім пакоі.** Кіеў, пачатак 1950-х гадоў.

▶ Аднак Молева, вядома, не кінула Бялюціна і зручную кватэру на плошчы Маякоўскага. У Караткевічу ж яна бачыла правінцыяла, які «да мяне прыйшоў яшчэ не сфармаваным чалавекам... многае з таго, што я гаварыла, літаральна пераварочвала штосьці ў яго душы».

Усё ж такі Караткевіч да канца жыцця сябраваў з ёй, купляў і дарыў карціны. 94-гадовая Молева дагэтуль жыве ў Маскве. Пасля смерці мужа яна адпісала яго і сваю мастацкую калекцыю ў дар Уладзіміру Пуціну. Ёсць у той калекцыі, пэўна, і карціны, падораныя Караткевічам.

І нават такія асабістыя трагедыі, як з Молевай, нараджалі ў пісьменніка беспараўнаную творчую энергію.

### Купала часоў ранняга застою

Гэта сёння Караткевіч — класік. А «на пачатку дарог», у 1960-я, ён выломваўся з дазволенай беларускай літаратуры, хоць нідзе ў творах не сказаў слова ўпоперак камуністычнай ідэалогіі. Наадварот, Леніна цаніў і з Хрушчовым у многім пагаджаўся. Але пісаў штосьці такое, ад чаго беларусы пераставалі рухацца да акрэсленага тым Хрушчовым зліцця з рускім народам.



**Ніна Молева і яе муж, мастак Элій Бялюцін.** У іх сямейнай калекцыі захоўваліся творы Мікеланджэла, Рэмбранта, Веласкеса.



**У Караткевіча былі вочы неаднолькавага колеру** — левае святлейшае, правае цямнейшае.

Гэтую чужароднасць бачылі «органы», таму надзвычай цікавіліся Караткевічам, дапытваючы яго знаёмых навукоўцаў і літаратараў. Як у 1930-я Купалу паставілі на чале сфабрыкаванага «Саюза вызвалення Беларусі», так у 1970-я з Караткевіча хацелі «зляпіць» лідара антысавецкай арганізацыі.

Рычагоў уплыву на самога Караткевіча было вобмаль: ён не быў у партыі, меў задзірлівы, небаязлівы характар, выпіваў, нідзе не рабіў і не быў нават членам прафсаюза. А зусім не друкаваць яго не выпадала: за пісьменніка заступаліся літаратурныя мэтры, кожную ягоную новую кнігу чытачы не тое што размяталі — кралі з бібліятэк.

### Чэчэнка, грузінка, бардэса...

Молева не была адзіным захапленнем 30-гадовага пісьменніка ў часе маскоўскага побыту. Ён падтрымліваў адносіны з чэчэнскай пісьменніцай Раісай Ахматавай, якую называў Руан. У Ахматавай быў малы сын Марат, які Караткевіча вельмі любіў. Той нават казаў жартам: «От, каб можна было Марата без маці ўзяць»... Раіса з часам пачала даймаць Караткевіча рэўнасцю, і яны развіталіся. Таксама, як сведчыць аднакурснік, украінскі пісьменнік Мікалай Амельчанка, Караткевіч сустракаўся з грузінкай Натэлай, якая «прыязджала да яго з Грузіі, таемна начавала ў інтэрнаце». Яшчэ — з бардэсай Навэлай Матвеевай, з якой кляўся ажаніцца. А таксама — са студэнткай Валяй...

### Каласы і сярпы

Галоўнай кнігай свайго жыцця Караткевіч лічыў «Каласы пад сярпом тваім». Раман быў задуманы раней за ўсе іншыя — у жніўні 1959-га, у Азярышчы над Дняпром, дзе пісьменнік пабачыў старую грушу над кручай. «Каласы» выраслі замест так і не напісанай дысертацыі пра паўстанне Каліноўскага.

«Пастараўся заплаціць гэтай кнігай доўг Дняпру, людзям ▶

### Караткевіч сцвярджаў, што «баяўся мець дзяцей»

Бо праз іх мог страціць творчую свабоду. «Яны прымусяць мяне пісаць так, як яны захочуць. І я буду вымушаны з-за дзіцяці», — казаў ён літаратуразнаўцы Валянціне Гапавай.



ФОТА НАДЗЕІ БУЖАН

## Адрасы Караткевіча

Першую мінскую кватэру Караткевіч атрымаў у «выдавецкім» доме па вуліцы **Чарнышэўскага, 7**. Гэта была «халасцяцкая» аднапакаёўка на пятым паверсе блочнай хрушчоўкі. Яна складалася з цеснай кухні і пакоя, які Караткевіч, калі да яго з Оршы пераехала маці, разгарадзіў шафай надвое. Каля акна быў «кабінет» з раскладным крэслам, а бліжэй да дзвярэй — маленечкая спальня з тахтой.
У 1967 годзе Караткевічу выдзелілі двухпакаёўку на другім паверсе (з увагі на старую маці) у пяціпавярхоўцы на **Харужай, 48**. Гэта кватэра на Старажоўцы, дзе тады месціўся калгасны рынак, апісаная ў «Чорным замку Альшанскім». Калі Караткевіч ажаніўся, Валянціна Браніславаўна абмяняла сваю брэсцкую кватэру на пакой у Мінску, а пасля двухпакаёўку на Харужай і той пакой яны абмянялі на трохпакаёвую кватэру ў пісьменніцкім доме па **Маркса, 36**. Там у Караткевіча нарэшце з'явіўся паўнаварты асобны кабінет.

▶ 1863 года, Беларусі», — казаў Караткевіч. Ён, не меўшы навуковай ступені, але «гісторык да глыбіні душы», як сказала аднакурсніца Ніна Сняжко, разумеў значэнне тых падзей.

Тое, што мы сёння ведаем як «Каласы пад сярпом тваім», на самай справе толькі траціна ад задуманага. Караткевіч планаваў напісаць яшчэ дзве часткі рамана: «Брань» — пра само паўстанне і «Галгофа» — пра яго разгром.

Ці існаваў працяг «Каласоў» — загадка. Караткевіч цягам усяго жыцця ў розных інтэрв'ю казаў, што пара б ужо скончыць раман. Але завершаных тэкстаў, апроч дзвюх невялікіх частак-адгалінаванняў, у архівах пісьменніка не знайшлося.

Мо працяг выкралі невядомыя, якія абрабавалі кватэру Караткевіча ў 1982-м? Так часам інтэрпрэтуюць словы Караткевіча: «Білі па самым дарагім». Барадулін так не лічыў. ▶

## Кішэнь у плаўках

з унутранага боку. Такое курортнае ноу-хау Караткевіча. Ён клаў туды металічныя грошы, ішоў у мора і таемна ад жонкі плыў да найбліжэйшага пункту продажу алкаголю. Выпіваў і плыў назад.



▶ Хоць версію, што пад выглядам зладзеяў у кватэру ўлезлі кагэбісты, дапускаў. Скрадзены ў Караткевіча пярсцёнак пасля падкінулі, а ордэн, атрыманы з нагоды юбілею, — не.

Але і першую частку «Каласоў» давялося прабіваць з боем. У «Советской Белоруссии» выйшла рэцэнзія Якава Герцовіча на часопісны варыянт рамана. Крытык вінаваціў Караткевіча ў сімпатыях да арыстакратаў-«эксплуататараў» Загорскіх, адсутнасці ў творы «сацыяльных нізоў» і фактычна патрабаваў перапісаць раман.

Выхад рамана асобнай кніжкай аказаўся пад пагрозай. Каб ўратаваць сітуацыю, Іван Мележ арганізаваў у Інстытуце літаратуры Акадэміі навук абмеркаванне твора. Далучыліся сумленны Брыль, сябар Янкі Купалы Язэп Сушынскі, а Паўліна Мядзёлка, узрушаная раманам, назвала Караткевіча «сынам».

Для выдавецтва «Каласы» рэцэнзаваў старэйшы пісьменнік Максім Лужанін, які, намякалі, у свой час быў «прыстаўлены» органамі да Якуба Коласа (і напісаў адну з найлепшых кніг пра класіка — «Колас расказвае пра сябе»). Лужанін разумеў логіку ідэалагічнай цэнзуры і прапаноўваў праўкі,



ФОТА ВАЛЯНЦІНА ЖДАНОВІЧА

## Залатое пяро, чорнае чарніла

Уладзімір Караткевіч пісаў свае творы, седзячы пры грунтоўным пісьмовым стале ў асобным пакоі, што служыў яму і працоўным кабінетам, і месцам для адпачынку, і дзе таксама быў своеасаблівы «чырвоны кут» з абразамі. Стол — гэта было абсалютна недатыкальнае месца: Караткевіч больш як тыдзень злаваўся, не вітаўся і не гаварыў з суседскімі дзецьмі толькі за тое, што яны ўзялі ў рукі, паглядзелі і — о грэх! — паклалі не на тое месца на стале ягоную ручку з залатым пяром, а пісаў ён заўсёды чорным чарнілам.

## Сіротка

Кватэра Караткевіча была на апошнім, пятым паверсе. Недзе на мяжы 1970–1980-х гадоў зверху сталі чутныя нейкія гукі, шоргат, нібыта крокі. А пазней у куце на столі пачала з'яўляцца вільготная пляма… Там, на гарышчы, пасяліўся чалавек, якога сёння назвалі б бамжом, але тады такога паняцця не было. Ён страціў сям'ю, жытло, працу і знайшоў сабе прытулак пад самым дахам «пісьменніцкага» дома. Караткевічы завочна назвалі яго Сіроткам (пад гэтым іменем яго ведалі і суседзі), у цэлым шкадавалі і ў міліцыю не звярталіся. Як высветлілася пасля, ён быў знаёмым Валянціны Браніславаўны яшчэ са студэнцкіх гадоў, яны вучыліся ў адзін час на гістарычным факультэце БДУ. А запозненае з'яўленне працёкаў на столі тлумачылася проста: у пэўны момант зачынілі на рамонт размешчаную непадалёк славутую грамадскую прыбіральню ў Аляксандраўскім скверы (цяпер у гэтым будынку касы Купалаўскага тэатра). Куды пасля падзеўся Сіротка — невядома.

## Юрась Братчык

Караткевіч лічыў, што беларускай літаратуры не стае героя кшталту Фаўста ці Уленшпігеля — чалавека эпохі Рэнесансу. Быў адзін Люцыян Таполя ў Танка. І Караткевіч стварыў вобраз Юрася Братчыка — круцяля і авантурыста, які воляй лёсу аказаўся ў ролі Хрыста і ўзвысіўся над сабою. А пасля — яшчэ Гервасія Выліваху, «абагульнены характар беларуса, якому і чорт не брат, якога і смерць не палохае, які больш за ўсё любіць Радзіму, жыццё, весялосць». Каб не лічылі, што «народ наш смірны, баганосны, мехам стукнуты».

якія б яе задаволілі. Караткевіч успамінаў: з-за тых правак яны «кідаліся адзін на аднаго як звяры». Памірыліся ж па дарозе ў Брэст, калі сябры прывялі Лужаніна да Караткевіча ў купэ і дыпламатычна пакінулі сам-насам з бутэлькай каньяку.

Нечакана Караткевіч знайшоў у Лужаніне цікавага суразмоўцу.

## Максім Танк не верыў

у магчымасць стварыць беларускую гістарычную белетрыстыку: «Спазніліся ўжо мы, беларусы, запозненыя кураняты не жыццяздольныя». А Караткевіч яшчэ ў час настаўніцтва ў Оршы пабачыў, што дзеці зусім не арыентуюцца ў гісторыі Беларусі, з якой зрабілі заідэалагізаваную нудную схему. «Мне б вельмі хацелася, — пісаў ён Танку, — каб людзі раптам адкрылі мора паэзіі ў беларускай гісторыі, як калісьці адкрылі ў шатландскай. Думалі сабе, што там адзін верас ды скалы, а тут пайшлі, загаварылі, заспрачаліся розныя Роб Роі, і ўвесь свет стаў і толькі цёр вочы, думаючы: “Хіба я сляпы быў да гэтага часу?”».



**З Валянцінам Ждановічам і Пятром Драчовым** каля Мірскага замка. 1980 год.



**Графіці з Уладзімірам Караткевічам** у Мінску.

Яны сышліся ў поглядах на лёс старой мінскай архітэктуры, на беларускую літаратуру 1920-х, пра легенды і характары якой «мы недаравальна мала ведаем». Караткевіч напісаў пра Лужаніна эсэ «Цёплы жнівеньскі поўдзень». А Надзея Васілеўна, велічная мама Уладзіміра, гуляла з галантным Лужанінbackup у прэферанс. І, скрушна казаў Караткевіч, «прайграла аж тры рублі».

Лужанін напісаў 72 старонкі заўваг, і многія яго праўкі Караткевіч мусіў унесці. «Да пераразання жылаў твору не дайшоў», — каротка падсумаваў працу рэцэнзента Барадулін.

Асобная гісторыя была з выхадам «Каласоў» па-руску. Выданне гатовага перакладу, які хацелі ўжо «зарэзаць» за нібыта малацікавасць для небеларускага чытача, уратаваў вядомы гісторык-беларус Мікола Улашчык, які пасля сталінскіх лагераў працаваў у Інстытуце гісторыі АН СССР у Маскве. Пачатак рэцэнзіі Улашчыка канстатуе каланіяльны стан беларускай савецкай культуры: «Мастацкія творы на гістарычныя тэмы з’явіліся ў беларускай літаратуры толькі ў самы апошні час. Галоўнай прычынай такога запазнення з’яўляецца відавочна не столькі маладосць літаратуры, колькі да крайнасці слабая распрацаванасць гісторыі гэтай краіны...» ▶

## Відушчы Ісус

Галоўны фасад пахавальнай капліцы Святаполк-Мірскіх у Мірскім замку аздоблены вялікім шматколерным мазаічным пано «Хрыстос Уседзяржыцель». Асаблівасць гэтай выявы ў тым, што, дзе б ні знаходзіўся назіральнік, здаецца, што Хрыстос глядзіць непасрэдна на яго. «Сакрэт у тым, што трэба, каб зрэнкі былі дакладна па цэнтры вачэй, міліметр у міліметр, тады погляд становіцца сапраўды відушчым», — тлумачыў нам, суседскім дзецям, Уладзімір Караткевіч падчас паездкі ў Мір у 1980 годзе, калі да рэстаўрацыі замка было яшчэ далёка.

## Беларусь без СССР

Караткевіч бачыў, што сялянская стыхія меншае, беларуская мова нівеліруецца, таму і пачаў пісаць дэтэктывы. «Мы ўсё пішам пра тое, як “Ганна завіхалася ля печы”. А трэба — пра незвычайнае, яркае, таямнічае. Каб нельга было б адарвацца ўсю ноч», — казаў ён. І «Чорны замак Альшанскі» лічыў проста дэтэктывам. Але ўхітрыўся паказаць у рамане Беларусь, якой яна магла б быць, калі б па фантастычным збегу абставін не трапіла ў СССР, а засталася ў статусе «народнай рэспублікі», накшталт савецкай Польшчы ці Венгрыі. Беларусь паказаная самадастатковай — са сваімі элітамі і спецслужбамі.
Дарэчы, прататыпаў мелі не толькі галоўныя героі «Чорнага замка» — Косміч і Сташка, — але і палкоўнік Шчука. Гэта быў работнік міліцыі, з якім сябраваў пісьменнік. Караткевіч называў яго Жэнем, прыгадвае Мальдзіс.

## Пішу толькі пра тое, што магло быць

Караткевіч страшна не любіў, калі яго называлі рамантыкам. Ён казаў, што піша толькі пра тое, што было або рэальна магло быць. Янка Брыль пакепліваў: «Ад Любчы да Уселюба 9 кіламетраў, а ў цябе два сутачныя конныя пераходы... Ад Наваградка да Валеўкі 19 кіламетраў, а ў цябе князь літоўскі тры дні дабіраўся». «У вас адно мысленне, а ў мяне — другое», — парыраваў Караткевіч. «Жыццё падсоўвае мне і такіх людзей, і такія выпадкі, якія не назавеш штодзённымі. ...на маім шляху егеры, змеяловы, чабаны, начлег на Марыяцкай вежы ў Кракаве, скалалазы, ганчары, свяшчэннікі, народныя майстры скрыпак, следчыя», — так Караткевіч тлумачыў, адкуль бярэ сюжэты.

### Чаму Караткевіч геній

- Стварыў з нуля беларускую гістарычную прозу. Яго раманы і аповесці пра мінулае неперавзыдзеныя дагэтуль.
- Замацаваў у беларускай культуры вобраз Кастуся Каліноўскага, разумеючы яго важнасць (дэкларацыі Каліноўскага сталі адпраўным пунктам фармавання сучаснай беларускай нацыі).
- Стварыў у літаратуры магутныя вобразы арыстакратаў і іх нашчадкаў: Рамана Ракуты, Алеся Загорскага, Андрэя Грынкевіча... Тым самым паказаў, што беларусы ў мінулым мелі ўласную эліту, а не былі абязлічаным людам.
- Стварыў вобразы герояў эпохі Рэнесансу — Юрася Братчыка і Гервасія Выліваха, — абвяргаючы ідэалагічны пастулат, што гісторыя Беларусі пачалася з 1917 года.
- Напісаў захапляльны падручнік-даведнік па гісторыі Беларусі — «Зямля пад белымі крыламі».
- Пачаў пісаць па-беларуску дэтэктывы, ствараючы «гарадскую» масавую літаратуру.
- Пры ўсім цэнзурным ціску змог захаваць свае творы і данесці іх да чытача.

ФОТА ВАЛЯНЦІНА ЖДАНОВІЧА

### Капуснік замест «філасофіі»

Стомлены тузанінай вакол «Каласоў», Караткевіч надоўга пераключыўся на кіно. Кінематограф вабіў яго як фата-маргана. Нязнятыя кінасцэнары займаюць цэлы том ягонага новага збору твораў.

«Ні чорта вы не шупіце ў кіно! — злаваў ён на сяброў. — Гэта ж магутная сіла! Раман у беларускіх умовах прачытае ну дзесяць, ну дваццаць тысяч чалавек. А добры фільм паглядзяць мільёны».

Славуты раман Караткевіча «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» пачынаўся як кінасцэнар. І шмат сілаў давялося змарнаваць на баданне з цэнзурнымі «худсаветамі», з рэжысёрамі-«вара́гамі». Мальдзіс прыгадваў, як Караткевіч вярнуўся з Крыма, дзе здымалі «татарскую» частку «Хрыста», а ён мусіў уносіць бясконцыя змены ў сцэнар. Вярнуўся пахмурны, бо прапанавалі змяніць назву фільма на «Жыццё і ўзнясенне Юрася Братчыка», выкідалі ўсю «філасофію», увесь здаровы сэнс. «Вечна ім здаецца, што мой Хрыстос нешта не тое гаворыць, — скардзіўся. — Занадта сучасны».

Светапоглядны фільм ператваралі ў капуснік, пакідаючы адны камічныя сцэны. Нават на галоўную ролю Юрася Братчыка вызначылі акцёра Льва Дурава, неадпаведнага паводле тыпажу і амплуа. Хоць ён надзіва няблага справіўся з роляй «мужыцкага Хрыста», але, адзначаў Караткевіч, у фільме перавагу над Уленшпігелем атрымаў Ламэ Гудзак. Зрэзалі нават фінальную сцэну ўкрыжавання Братчыка, пакінутага сябрамі. І ўсё адно фільм не пусцілі ў пракат: ён праляжаў «на паліцы» да 1989-га.

Рэжысёр Бычкоў прызнаўся пасля, што ў сцэне ўкрыжавання камусьці ўбачыўся намёк на... Хрушчова, якога таксама пакінулі верныя паплечнікі. «І хаця аналогія была абсурдная, давялося канцоўку скараціць». А Караткевіч паліў нервы, сілы і час на барацьбу з перастрахоўшчыкамі.

### Як пісаць: сакрэты Караткевіча

Перш чым пісаць твор, ён складаў план. Пасля план удакладняўся, рабіўся падрабязнейшым, аж да асобных рэплік. Урэшце план утрымліваў амаль увесь твор, але выглядаў так, што ніхто, апроч аўтара, не мог яго зразумець. Паралельна вяліся запісныя кніжкі для назваў, імёнаў, пісаліся біяграфіі герояў, якія ў твор не траплялі, але былі патрэбныя аўтару для работы. Часам героі пачыналі «хуліганіць», паводзіць сябе не так, як задумана. Аўтар даваў ім волю: «Калі яны ўжо робяцца самастойныя — гэта азначае, што рэч удаецца, што яна жыве».

У пэўны дзень Караткевіч уставаў раніцай, галіўся, прымаў ванну, адзяваў белую кашулю, выпіваў кубак кавы, сядаў за стол — і перапісваў твор начыста без правак. Абавязкова — на добрай паперы, паркераўскай ручкай з залатым пяром. Звычайна ён загадваў: калі першы аркуш напішацца без адзінай памаркі, значыць, і далей пойдзе добра.



Уладзімір Караткевіч і Рыгор Барадулін **трымаюць на руках жонку Барадуліна Валю.**

### Не выпіць не магу

«Ён настолькі тонка адчувае, што часам побач з ім робіцца як на рэнтгене, здаецца, прасвечвае... А на выгляд — доўгі, доўгі хлапчук з вялізнымі вачамі, высокім лобам. П'е многа, але ратуе тое, што засынае, а раніцай — зноў свежы...» — такім запомніла Караткевіча ў 1962-м літаратуразнаўца Валянціна Гапава.

«Жаль Валодзю і яго светлы талент... Вам цяпер з ім не справіцца... розных алкаголяў усюды — аж полкі гнуцца... Дрэнныя сябры, якія патураюць ягонай згубнай слабасці.

### Дваццаць пяць рублёў у цымбалах

У лістападзе 1967 года ў мястэчку Ракаў бралі шлюб Вячаслаў Рагойша і Таццяна Кабржыцкая, пазней сам Караткевіч назаве гэтую падзею «вяселлем веку». Пры ўваходзе ў хату гасцей віталі маладыя і музыкі. Ніякай «адплаты» за гэтае вітанне не патрабавалася, але Уладзімір Караткевіч вырашыў аддзячыць і дастаў з кішэні пінжака грошы. Гэта была купюра ў 25 савецкіх рублёў, вялікая на той час сума. Магчыма, ён разлічваў на нешта сціплейшае, але ж... Імгненне павагаўшыся, ён па-рыцарску падняў дваццаціпяцірублёўку над галавой, а пасля шырокім жэстам паклаў яе ў дэку цымбалаў. Інакш не выпадала, трэба было трымаць марку: тады ён у першы раз, як ён сам казаў, «вывеў у людзі» знаёміць з пісьменніцкім асяродкам сваю будучую жонку Валянціну.



ФОТА НАДЗЕІ БУЖАН

## Крэслы, дрот і форткі

Разам з Уладзімірам Караткевічам у «пісьменніцкім» доме ў цэнтры Мінска, на вуліцы Маркса, 36, жыла і маці пісьменніка Надзея Васілеўна. Кватэра была на высокім пятым паверсе, і немаладой жанчыне было няпроста падымацца дадому. Караткевіч на пляцоўках паміж паверхамі паставіў старыя крэслы — узяў пару штук у суседзяў, у каго былі непатрэбныя, — каб маці магла прысесці і перапачыць. А каб крэслы нідзе не падзеліся, грунтоўна прыкруціў іх дротам да батарэй цэнтральнага ацяплення. Так яны і засталіся стаяць на доўгія гады. Звяртае ўвагу, што нават у самым цэнтры Мінска ў савецкі час старое крэсла даводзілася прыкручваць: кралі тады ўсё. Дарэчы, там жа жыў іншы класік беларускай літаратуры — Іван Навуменка, які вельмі не любіў скразнякоў і, падымаючыся або спускаючыся па сходах, заўсёды шчыльна зачыняў форткі, калі яны раптам былі адчыненыя. Так што перастыць у тым пад'ездзе было нерэальна.

▸ Танныя сябры гэта!» — пісала да маці Караткевіча Ларыса Геніюш. Яна і сама мела падобную бяду з сынам Юркам.

За п'янку на Караткевіча і Барадуліна сварыўся строгі Зянон Пазняк (і яны яго, маладзейшага, пабойваліся). «Я — хачу п'ю, а хачу — і не п'ю месяцамі», — бравіраваў перад Геніюш Караткевіч у 1960-я. А ў пачатку 1980-х, дастаючы схаваную на стэлажы за кнігамі пляшку «Маскоўскай», казаў госцю — Уладзіміру Калесніку: «Я не выпіць не магу!»

Даходзіла да галюцынацый. Васіль Быкаў так успамінаў, як падчас сумеснага адпачынку на поўдні Караткевіч «на змярканні пачаў скардзіцца, што ўнізе ў кустоўі сядзіць цмок, пільнуе за ім. Кажа: ідзі, пакажу. Я ішоў у іх нумар, і Валодзя паказваў уніз: во,



Уладзімір Караткевіч з жонкай Валяй.

## Ганарары і пазыкі

Доўгія перыяды жыцця Караткевіч, які нідзе не працаваў, быў без грошай, пазычаючы ў сяброў — найперш у Брыля. Атрымаўшы ганарар, разлічваўся з пазыкамі, а рэшту спускаў «на таварыскія выдаткі». Агулам, пісаў Калеснік, «Валодзя быў у жыцці непрактычным, не звяртаў увагі, а часам нават бравіраваў матэрыяльнымі цяжкасцямі». Лягчэй стала, калі Караткевіч ажаніўся: Валянціна мела стабільны заробак, які дазваляў «гаціць прорвы» ў сямейным бюджэце.

во... Выглядвае!.. Не, схаваўся. Ну, чакай, я цябе падпільную...»

Ён звяртаўся да псіхатэрапеўтаў, але гэта не дапамагала.

Караткевіч загінуў бы многа раней, каб не Валя Нікіціна.

### Жонка для Караткевіча

Караткевіч у адным сваім вершы патлумачыў, чаму доўга не жаніўся: «ёсць дзясяткі, з кім можна спаць, прачынацца — ніводнай няма». Жаніцьба Караткевіча была справай усенароднай. Арсень Ліс вазіў яго ў Вільню «выпадкова» знаёміць з дочкамі старога беларускага дзеяча Янкі Багдановіча — аспіранткай-хіміцай і студэнткай кансерваторыі. Караткевіч цэлы вечар весяліў кампанію, а потым развітаўся і збег.


ФОТА ВАЛЯНЦІНА ЖДАНОВІЧА

«Мне трэба такая жонка, каб мела добры запас цярплівасці, — тлумачыў ён няўдаламу свату па дарозе ў гатэль. — Напрыклад, будзем ісці з ёю вуліцаю, і мне раптам так захочацца, разумееш, так неадольна зажадаецца ўзлезці на дрэва або на дах дома, то каб здолела чакаць, пакуль я адтуль злезу. А потым як нічога ніякага пайсці далей».

**Ёсць дзясяткі, з кім можна спаць, прачынацца — ніводнай няма**

Чарняўскі згадваў, што свядомаму беларусу было практычна немагчыма знайсці блізкую па духу спадарожніцу жыцця ў Мінску 1960-х. Урэшце і ён, і Ліс ажаніліся з рускамоўнымі дзяўчатамі і беларусізавалі іх.

Як Караткевіч пазнаёміўся з будучай жонкай? Версіі разыходзяцца. Адныя кажуць — на літаратурнай сустрэчы ў Брэсцкім педінстытуце: яна сядзела і чытала яго «Дзікае паляванне», не ведаючы, што размаўляе з аўтарам. Паводле іншай версіі, знаёмства адбылося ў купэ цягніка па дарозе з Мінска ў Брэст.

Валянціна Валадковіч была высокай бландзінкай з блакітнымі вачыма, крыху блізарукай, але акуляры ёй пасавалі. Прозвішча Нікіціна яна пакінула па першым мужу, кароткі шлюб з якім успамінаць не любіла. Гаварыла Валянціна па-руску, але беларускую ведала няблага, бо яе школьным настаўнікам быў мовазнаўца Фёдар Янкоўскі.

Паводле спецыяльнасці Нікіціна была археолагам. Яна вучылася ▸

### Чорнага хлеба

У апошнія гады жыцця Валянціна Браніславаўна, жонка Уладзіміра Караткевіча, пакутавала ад анкалагічнай хваробы. Арсенал супрацьпухліннай медыцыны ў тыя часы, на пачатку 1980-х, быў невялікі, і адна з методык, якая даволі шырока выкарыстоўвалася, — лячэнне голадам. Меркавалася, што арганізм будзе ў першую чаргу «паядаць» пашкоджаныя, чужародныя тканкі. Некалькі тыдняў Валянціна Браніславаўна была ў бальніцы, дзе на працягу ўсяго тэрміну не можна было нічога есці, толькі піць ваду. «Я бачыла, як па калідоры везлі абеды іншым пацыентам, але голаду не адчувала. Хацелася толькі чорнага хлеба, — узгадвала яна, вярнуўшыся дадому. — Я прасіла Валодзю прынесці мне кавалачак хлеба, але ён адказваў, што нельга, што вельмі мяне любіць і хоча, каб я хутчэй паправілася». Тое лячэнне, на жаль, не дапамагло.

### За што Караткевіч біў у морду

У час адной з экспедыцый, пад Лепелем, на вячэры з раённым начальствам партыйны сакратар неабачліва запытаў у Караткевіча, чаго гэта яны нейкія цэрквы абмяраюць — Бога ж няма. Караткевіч кінуўся на яго з кулакамі: «Гэта ж вы паўзрывалі ўсё ў Беларусі!» Так уздзейнічалі на Караткевіча штодзённыя карціны — храмы, ператвораныя ў руіны і прыбіральні.

### Цвік народнага пісьменніка

Суседам Уладзіміра Караткевіча па паверсе нейкі час быў Янка Брыль. Аднойчы сябры-літаратары прынеслі ў падарунак Караткевічу карціну і, нягледзячы на даволі позні час, вырашылі абавязкова ўладкаваць яе. Як на тую бяду, цвік, які яны забівалі ў сцяну, трапіў дакладна ў цвік, які быў забіты з боку кватэры Янкі Брыля, і ў таго зваліўся са сцяны і разбіўся гадзіннік.

▶ на мінскім гістфаку, пасля — у маскоўскай аспірантуры. Калі вярнулася ў Мінск, дазваляла сабе паблажлівасць да тутэйшых свяцілаў. І была зрынутая са сталічнага алімпу ў Брэсцкі педінстытут, дзе мусіла выкладаць гісторыю КПСС, бо ніякай іншай працы для яе там не было. А ў летнія адпачынкі прападала на раскопках.

Яшчэ не быўшы замужам за Караткевічам, Валянціна пераехала да яго ў Мінск. Праца ёй знайшлася ў акадэмічным Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору. Тут яна стала рухавіком стварэння «Збору помнікаў гісторыі і культуры» — энцыклапедыі архітэктурнай спадчыны. Ідэолагі праваронілі гэту кніжку, палічыўшы, што там будуць адны партызанскія абеліскі. Тым часам даследчая група абмярала старажытныя драўляныя цэрквы, фатаграфавала помнікі беларускага барока. Разам з жонкай у экспедыцыі часцяком выпраўляўся і Караткевіч.



**Выступ Уладзіміра Караткевіча на юбілейным вечары, прысвечаным ягонаму 50-годдзю.** Дом літаратара, 1980 год. Можна паглядзець па qr-кодзе.

### Вялікі партрэт Каліноўскага

вісеў над працоўным сталом Караткевіча. Пад ім заўжды гарэла лампадка. Той партрэт, перазняўшы з малога фота, падараваў Караткевічу Зянон Пазняк. Калі памерла маці, Караткевіч пераставіў лампадку пад яе здымак.
Ён зрабіў найбольш для таго, каб вобраз Каліноўскага замацаваўся ў беларускай культуры. Апроч «Каласоў», Караткевіч напісаў п’есу, партрэт-эсэ і нават лібрэта балета пра Каліноўскага з дзесяці сцэнаў. Фінал балета пераклікаецца з задуманым фіналам рамана і Новым Запаветам: павешанне Каліноўскага паказанае як укрыжаванне з наступным уваскрашэннем праз абуджэнне беларускага народа.

Анкалогія ўдарыла Валянціну Браніславаўну нечакана. Не стала яе ў лютым 1983-га. Караткевіч пераажыў жонку на няпоўныя два гады. Ён пакінуў гэты свет у глухі застойны пераддосвітак, хоць адна анкета варажыла яму дажыць акурат да нашага часу.

У 1976-м у Варшаве, падчас гасцін у прафесара Фларыяна Няўважнага, жонка заахвоціла Караткевіча прайсці тэст «Ці дажывём да ста год?» з польскага часопіса «*Kobieta i Życie*». Ён пасля склаў пра гэта фельетон у мрожакаўскім стылі. І прамежкавы вынік тае анкеты паказаў, што Караткевіч пражыве 89 год — да 2019-га.

Уявім, як перабудова, Чарнобыль, адкрыццё Курапатаў, атрыманне незалежнасці, беларусізацыя маглі б быць падсветленыя Караткевічам. Можа, тады і нам было б лягчэй і шчаслівей прайсці ўсё гэта. ◆

Шчыра дзякуем Рэгіне Ждановіч, Наталлі Шапран і Віктару Шніпу за дапамогу пры падборы ілюстрацый да артыкула.



З архіва Валянціна Ждановіча

### Дзе пачытаць пра Караткевіча

- Уладзімір Караткевіч. Дарога, якую прайшоў. Дзённік 1965–1966 гадоў («Дзеяслоў» №78)
- Адам Мальдзіс. Жыцце і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча
- Рыгор Барадулін. Дзённікі
- Уладзімір Калеснік. Усё чалавечае
- Арсень Ліс. Уладзімір Караткевіч: З любасцю, думна, годна
- Янка Брыль. Наш Караткевіч
- Васіль Быкаў. Доўгая дарога дадому
- Дзяніс Марціновіч. «Донжуанскі спіс» Караткевіча
- Фларыян Няўважны, Муза Сняжко. «Блаславёнае юнацтва маё...»
- Алена Гапава. Канец адлігі: старонкі з дзённіка маці (альманах «Асоба і час», выпуск 2)



## Угледзьцеся ў аблiччы

Так выглядалі беларусы 50 гадоў таму. На Прыпяці з камандай агітцеплахода «Уладзімір Маякоўскі»: Уладзімір Караткевіч стаіць справа ад кабіны. Злева ад кабіны — фатограф Валянцін Ждановіч. Крайні справа — малады Зянон Пазняк.



ФОТА ХУГА ЕГЕРА

**Як аўстрыйцы спачатку пачалі лічыць сябе «самымі сапраўднымі немцамі», а пасля страцілі дзяржаўнасць**

# Аншлюс

## Аўстрыі 1938 года: ці можна было яго спыніць?

**Трэці рэйх анексаваў Аўстрыйскую Рэспубліку ў 1938-м. У выніку аўстрыйцы прайшлі ў складзе Германіі самазабойчую вайну і заплямілі сябе нацызмам, піша Андрэй Акушка.**

У Першую сусветную вайну Аўстра-Венгрыя ўступіла як адна з найвялікшых дзяржаў Еўропы — і па тэрыторыі, і па насельніцтве. Аднак няўдалая вайна скончылася катастрофай. Тэрыторыя рэспублікі «Нямецкая Аўстрыя», што ўтварылася на руінах былой імперыі ў 1918 годзе, была ў сем з паловай разоў меншай за імперыю, а насельніцтва скарацілася амаль у дзевяць разоў. Былі разарваныя ўсе былыя эканамічныя сувязі, а краіна аказалася на мяжы рэвалюцыі і гуманітарнай катастрофы.

**Жыхаркі аўстрыйскага горада Шварцах вітаюць нямецкія войскі**, якія ўступаюць у Аўстрыю, каб акупаваць яе.

Розныя палітычныя сілы бачылі будучыню Аўстрыі па-рознаму. Некаторыя хацелі інкарпарацыі ў склад Германіі — у Аўстрыі таксама гавораць па-нямецку, — але такі план праваліўся, бо вялікія дзяржавы, якія перамаглі ў вайне, забаранілі аб'яднанне. Аўстрыі давялося прыбраць з назвы слова «Нямецкая» і пайсці асобным шляхам.

### Замежны крэдыт і Айчынны фронт

Не паспела Аўстрыя выйсці з пасляваеннага раздраю і прадухіліць небяспеку сацыялістычнай рэвалюцыі, як на пачатку 30-х гадоў XX стагоддзя выбухнуў сусветны эканамічны крызіс. Прамысловая вытворчасць упала на 38 працэнтаў, экспарт паменшаў удвая, без працы засталася пятая частка насельніцтва, а найбуйнейшы банк быў на мяжы банкруцтва. У такіх умовах знайшоўся чалавек, гатовы ўзяць на сябе адказнасць за лёс краіны, — Энгельберт Дольфус.

Ягоны шлях да ўлады не быў лёгкім: урад Дольфуса меў большасць у парламенце ўсяго ў адзін голас! Аднак Дольфус умеў пераконваць людзей і ў маі 1932 года стаў федэральным канцлерам (кіраўніком урада). Новы кіраўнік знайшоў грошы: пасля доўгіх перамоў з заходнімі дзяржавамі ўдалося атрымаць вялікі крэдыт. Умовы атрыманага крэдыту, праўда, былі вельмі жорсткімі, і нямецкая прэса, якая марыла пра далучэнне Аўстрыі, адразу ж напісала, што «Дольфус прадаў Аўстрыю французам».

Атрыманыя ад Францыі і Вялікабрытаніі грошы дазволілі стабілізаваць нацыянальную валюту і падштурхнулі эканамічнае развіццё. Але гэта не вырашыла ўнутраных палітычных праблем. Нацысты і камуністы рыхтавалі пераварот, не грэбуючы аніякімі сродкамі, у Вене нярэдка стралялі.

І вось тут Дольфус паказаў сваю жалезную руку — у кастрычніку 1932 года ён забараніў сваім палітычным праціўнікам праводзіць шэсці і мітынгі. Паралельна канцлер пачаў будаваць сваю палітычную сілу — сёння мы ведаем яе як Айчынны фронт, фармальна створаны 20 мая 1933 года. І яму гэта ўдалося: калі ўвосень 1932-га ва ўрада было ўсяго 40 тысяч актыўных паплечнікаў, то праз год іх было ў дзесяць разоў болей.




### Энгельберт Дольфус: цвёрдая рука хрысціяніна

Энгельберт Дольфус (1892–1934) з юнацтва быў патрыётам Аўстрыі і марыў, каб у краіне не было падзелу на класы і саслоўі. У гады Першай сусветнай вайны ён служыў на італьянскім фронце і неаднойчы дэманстраваў сваю адвагу. Адзін з перавалаў на мяжы, дзе ваяваў будучы канцлер, нават назвалі «перавалам Дольфуса». Пасля вайны Дольфус быў адвакатам і ўзначальваў сялянскія арганізацыі, а ў 1930-м стаў прэзідэнтам Федэральнай чыгункі. Ён хутка рэфармаваў гэтую арганізацыю, а ў сакавіку 1931-га быў прызначаны міністрам сельскай гаспадаркі і на гэтай пасадзе працаваў таксама эфектыўна. У маі 1932 года Дольфуса абралі канцлерам — кіраўніком урада Аўстрыі. На працягу наступных двух гадоў ён адбудаваў эканоміку і пачаў будаваць дыктатуру, бо не бачыў іншага варыянту захаваць незалежнасць. Шмат хто абвінавачваў яго ў дыктатарскіх памкненнях, але насельніцтва падтрымлівала Дольфуса. У маі 1934-га парламент нават перадаў канцлеру свае заканадаўчыя паўнамоцтвы, пагадзіўшыся на канцэнтрацыю ўлады ў адных руках. Аднак у ліпені таго ж года Дольфуса забілі нацыянал-сацыялісты, якія жадалі далучыць Аўстрыю да Германіі.

**За далучэнне Аўстрыі да Германіі выступалі не толькі нацысты, але і сацыял-дэмакраты**

### Новая Аўстрыя

Канцлер зрабіў стаўку на сялянства, лічачы, што заможны вясковы жыхар здолее забяспечыць Аўстрыю прадуктамі. Дэфіцыт прадуктаў пасля Першай сусветнай моцна паўплываў на мысленне палітыкаў таго пакалення, менавіта ён прывёў да масавага незадавальнення і падзення старога рэжыму і разглядаўся не толькі Дольфусам у якасці галоўнай патэнцыйнай крыніцы нестабільнасці. Адначасова, ▶

## Айчынны фронт

— правая арганізацыя, створаная ў 1933 годзе Дольфусам. Яго мэтай было аб’яднаць усіх грамадзян Аўстрыі, незалежна ад сацыяльнага паходжання і палітычных поглядаў. Падмуркам фронту стала Хрысціянска-сацыяльная партыя, а на піку ў ім былі каля 3 мільёнаў сяброў. Большасць з іх удзельнічала ў працы фронту толькі фармальна, бо не мела іншай альтэрнатывы з прычыны забароны ўсіх партый. Тым не менш фронт заставаўся рэальнай сілай і меў свае ваенізаваныя фармаванні. З 1934 года кіраўніка фронту пачалі зваць лідарам дзяржавы (па-нямецку бундэсфюрарам). У ліпені таго ж года пасады канцлера і лідара фронту былі падзеленыя паміж паплечнікамі забітага Дольфуса: Куртам Шушнігам і князем Эрнстам Рудзігерам Штарэмбергам. Вясной 1936-га Шушніг зноў аб’яднаў дзве пасады пад сваёй уладай і пачаў прымушаць усіх грамадзян уступаць у арганізацыю. Напрыклад, чыноўнікам у Аўстрыі мог стаць толькі член фронту. Пасля аншлюсу Аўстрыі фронт быў ліквідаваны і пасля вайны, у адрозненне ад іншых партый, не аднавіўся.

▶ лічыў Дольфус, развіццё вёскі падштурхне прамысловасць, бо сяляне будуць купляць тавары. Акрамя таго, Дольфус распачаў шматлікія нацыянальныя інфраструктурныя праекты, у тым ліку будаўніцтва сучасных дарог і курортаў, і гэта забяспечыла яму падтрымку рабочых. Аднак калі было трэба, то кіраўнік урада не цураўся і жорсткіх метадаў. Напрыклад, калі ў сакавіку 1933-га нацысты паставілі краіну на мяжу грамадзянскай вайны, Дольфус загадаў арыштаваць іх лідараў і ўвёў абмежаванні для партыйнай прэсы.

Менш чым за год Дольфус істотна змяніў Аўстрыю, хоць гэта было і няпроста. Ён нават забараніў грамадзянам з’яўляцца на вуліцах у партыйнай форме, каб не падзяляць жыхароў краіны па палітычных поглядах. Гэта выклікала жорсткую рэакцыю ў Германіі, дзе ў пачатку 1933-га да ўлады прыйшлі нацысты. Яны патрабавалі зрабіць для нацыянал-сацыялістычнай партыі выключэнне з гэтага правіла. Дольфус адмовіў Гітлеру, і тады Германія абвясціла свайму суседу эканамічны байкот, увёўшы вялізны збор для нямецкіх турыстаў, што ехалі адпачываць у Аўстрыю (больш за 4 тысячы еўра, калі перавесці на сучасныя грошы).

У адказ на гэта дзясяткі тысяч паплечнікаў Дольфуса ў маі прайшлі маршам па Вене, прадэманстраваўшы, што яны падтрымаюць кіраўніка ўрада ў выпадку вайны. Нацысты перайшлі да тэрору — у адказ урад забараніў іх партыю. Гэткія дзеянні канцлера сустрэлі падтрымку на міжнароднай арэне, а хутка ён зрабіў і наступны крок: 11 верасня абвясціў стварэнне Нямецкай карпаратыўнай хрысціянскай дзяржавы.

Гэтая наваствораная дзяржава павінна была аб’яднаць усіх грамадзян, незалежна ад полу, узросту і палітычных поглядаў. Культурныя федэрацыі, эканамічныя арганізацыі, атрады тэрытарыяльнай абароны — усе яны павінны былі стаць апорай канцлера. Наўзамен той абяцаў будаўніцтва краіны новага тыпу, дзе «кіруе закон Бога». Яго праціўнікі ў такі закон не верылі.



Volksabstimmung und Großdeutscher Reichstag

Stimmzettel

Bist Du mit der am 13. März 1938 vollzogenen

Wiedervereinigung Österreichs mit dem Deutschen Reich

einverstanden und stimmst Du für die Liste unseres Führers

Adolf Hitler?

Ja

Nein

WIKIMEDIA COMMONS

Бюлетэнь плебісцыту, які быў для праформы праведзены ў Аўстрыі 10 красавіка 1938 года. На ім напісана: «Ці згодныя вы з уз'яднаннем Аўстрыі з Германіяй, якое адбылося 13 сакавіка 1938 года, і ці галасуеце вы за спіс нашага фюрара Адольфа Гітлера?». Над вялікім кругам надпіс «Так», над маленькім — «Не». **Ужо адной такой формы бюлетэня дастаткова, каб разумець поўную фіктыўнасць гэтага мерапрыемства.**

Камуністы, якіх праз Камінтээрн падтрымліваў СССР, у лютым 1934-га распачалі ў некалькіх буйных гарадах Аўстрыі паўстанне, якое было жорстка задушана.

Кіраўнік урада канчаткова зразумеў, што ні нацысты, ні сацыялісты сябраваць з ім не стануць. І пайшоў сваім шляхам: 1 мая 1934 года была прынята новая канстытуцыя, згодна з якой парламент «добраахвотна» распускаўся, а заканадаўчая ўлада пераходзіла да ўрада. На мітынгу ў гонар гэтага Дольфус заявіў, што «Новая Аўстрыя адбылася». Камуністы з сацыялістамі ў адказ на гэта здолелі толькі гаварыць пра ўсталяванне гэтак званага «аўстрафашызму».

## «Аўстрафашызм» і аншлюс

Аўстрыйскія сацыял-дэмакраты, абураныя адхіленнем ад улады, ахрысцілі палітыку Дольфуса тэрмінам «аўстрафашызм». Аднак калі з часткай слова *аўстра-* цяжка спрачацца, то *фашызмам* палітычны ўклад міжваеннай Аўстрыі назваць нельга. «Фашызм» прадугледжвае мілітарызацыю краіны для знешніх захопаў. Аўстрыя Дольфуса, а пазней ягонага наступніка Курта Шушніга не планавала вяртаць тэрыторыі, страчаныя пасля Першай сусветнай вайны. Адзінае, пра што марылі гэтыя палітыкі з сацыяльна-хрысціянскай партыі, — аб існаванні асобнай краіны ў цэнтры Еўропы, якая развіваецца самастойна. Але іхнія апаненты з ліку нацыянал-сацыялістаў і сацыял-дэмакратаў, якія мелі вялікую падтрымку, жадалі далучэння да Германіі. Гэта можа падацца неймаверным, але ў Аўстрыі сацыялісты і нацысты разам выступалі за ліквідацыю сваёй краіны! І ўжывалі пры гэтым слова *аншлюс*, якое па-нямецку азначала проста «далучэнне» і ў тыя гады не мела негатыўнага сэнсу.




**Парад нацыстаў** у горадзе Клагенфурт.

### Забойства дыктатара

З вышыні гісторыі ясна відаць, што галоўнай пагрозай для Аўстрыі тады была гітлераўская Германія, якая рыхтавала паглынанне паўднёвай суседкі. Супраць такога развіцця падзей былі многія: не толькі сама Аўстрыя як дзяржава, але і Францыя, і нават фашысцкая Італія, якая таксама мела ў краіне свае інтарэсы.

З іншага гістарычнага часу цяжка зразумець, што было магчыма, а што — немагчыма ў пэўны гістарычны момант. Аднак несумненна тое, што праціўнікі нацыстаў былі раз'яднаныя. Камуністы былі ў меншасці і самі неслі пагрозу свабодзе. Сацыялісты ж і лібералы былі малалікія. Многія з іх не разумелі, што рэжым Дольфуса, хай сабе і дыктатура, але ўсё ж процістаяў большаму злу — нацызму.

А нацысты пайшлі па-банку, і 25 ліпеня 1934-га адбыўся паспяховы замах на Дольфуса. Пераапранутыя ў вайсковую форму змоўшчыкі смяротна паранілі Дольфуса і заявілі яму, што паліцыя і армія патрабуюць сфармаваць новы ўрад, які далучыць Аўстрыю да Германіі.

**Хрысціянін Дольфус пакутаваў ад таго, што нацысты не паклікалі да яго святара для апошняй споведзі, аднак здаць краіну адмовіўся**

Канцлер-хрысціянін моцна пакутаваў ад таго, што нацысты не паклікалі да яго святара для апошняй споведзі, аднак здаваць краіну адмовіўся і памёр як герой. План змоўшчыкаў сарваўся. Не толькі дзякуючы стойкасці вернага аўстрыйца. Беніта Мусаліні, які лічыў ▸




**Курт Шушніг**

(1897–1977) нарадзіўся на тэрыторыі правінцыі Трэнта, якая пасля Першай сусветнай вайны адышла да Італіі. Яго продкі былі славенскага паходжання, а бацька быў генералам аўстра-венгерскай арміі. Як і Дольфус, Шушніг ваяваў на італьянскім фронце, дзе трапіў у палон. Далей ён вывучыўся на юрыста і працаваў адвакатам, а ў 1927 годзе стаў самым маладым дэпутатам парламента. Праз тры гады Шушніг стварыў ваенізаваную арганізацыю, якая абараняла правы каталікоў. У 1932-м яго прызначылі міністрам юстыцыі — на гэтай пасадзе ён дабіўся аднаўлення смяротнага пакарання і жорстка распраўляўся як з марксістамі, так і з нацыстамі. З ліпеня 1934-га (пасля забойства Дольфуса) займаў пасады канцлера Аўстрыі і міністра абароны. Спачатку працягваў палітыку папярэдніка, потым перайшоў да спроб залагоджвання Гітлера. Пасля аншлюсу нацысты спачатку трымалі Шушніга пад хатнім арыштам, а потым адправілі ў канцлагер. Пасля вайны ён эміграваў у ЗША, дзе выкладаў палітычныя навукі ў ВНУ. У 1967-м Курт вярнуўся на радзіму, дзе і памёр праз 10 гадоў.

Дольфуса сваім сябрам — яны былі і ідэалагічна блізкія, — пагражаў Гітлеру вайной, калі той увядзе свае войскі ў Аўстрыю. Аўстрыя ж з Італіяй мяжуе на поўдні. У выніку ўлада засталася ў паплечнікаў Дольфуса, а ўрад узначаліў Курт Шушніг.

Смерць Энгельберта Дольфуса стала вялізнай праблемай для краіны. З актыўных палітыкаў толькі ў яго была дастатковая харызма, каб аб'яднаць вакол сябе самых розных людзей і пераканаць іх, што Аўстрыя можа існаваць самастойна. У Шушніга такога аўтарытэту і жалезнай волі не было.

Да таго ж Аўстрыя страціла і саюзнікаў за мяжой. Калі ў кастрычніку 1935-га слабая ў вайсковым плане, але поўная імперскіх амбіцый Італія напала на Эфіопію, усё пайшло не так, як планаваў дучэ. Каб не зганьбіцца, Мусаліні мусіў звярнуцца па падтрымку да Гітлера, а той узамен запатрабаваў вольныя рукі ў Аўстрыі. А ў другой палове 30-х Аўстрыю пакінулі сам-насам з Германіяй і заходнія дзяржавы.

## Сіла прапаганды

Берліну было важна пазбавіць аўстрыйскі ўрад не толькі замежнай, але і ўнутранай падтрымкі. З кожным годам ён узмацняў прапаганду, разлічаную на аўстрыйцаў. Нямецкія радыёстанцыі расказвалі, што мяжа паміж дзвюма нямецкімі краінамі штучная, гэта адзін народ, прадстаўнікі якога змагаліся на адным баку ў гады вайны, а іх асобнае існаванне выгаднае толькі ворагам — Францыі і Вялікабрытаніі. Таму трэба як мага хутчэй аб'яднацца, тым больш што Гітлер падняў сваю краіну з каленяў.

Ліквідацыі дзяржаўнасці Аўстрыі дапамагалі і тыя наіўныя аўстрыйскія палітыкі, якія верылі, што збліжэнне двух «братніх народаў» магчымае без паглынання меншай краіны моцным суседам. Нават прадстаўнікі ўрада любілі паўтараць, што аўстрыйцы — гэта «найлепшыя немцы» ці «самыя сапраўдныя немцы». Гэта размывала нацыянальную тоеснасць, з кожным годам праціўнікаў аншлюсу заставалася ўсё менш.

Эфектыўнасць нацысцкай прапаганды ўразіла нават самога Гітлера. Народжаны ў Аўстра-Венгрыі, ён уважаў аўстрыйскі патрыятызм моцнай ідэяй, з якой давядзецца лічыцца. Спачатку ён планаваў стварыць з суседкі краіну-марыянетку, але, калі пабачыў энтузіязм натоўпаў, што сустракалі нямецкія танкі, канчаткова вырашыў проста далучыць Аўстрыю да Германіі.

## «Гістарычная справядлівасць»

Лавіраваць Шушнігу ўдавалася да 1936 года. Нарэшце ён здаўся і падпісаў пагадненне, згодна з якім арыштаваныя нацысты выходзілі з вязніц і вярталіся ў палітыку. Іншы пункт падаваўся абяцальным: Аўстрыя абавязвалася падтрымліваць Германію ў замежнай палітыцы, а Германія ўзамен «гарантавала ёй» незалежнасць і тэрытарыяльную цэласнасць. Захад маўчаў. Там спадзяваліся Нямеччыну залагодзіць. Ад Італіі да Вялікабрытаніі ў прэсе дамінаваў погляд, што далучэнне Аўстрыі да Германіі — гэта аднаўленне гістарычнай справядлівасці.

12 лютага 1938 года Шушніг наведаў Гітлера ў яго рэзідэнцыі ў Бергхофе. Фюрар запатрабаваў прызначыць аўстрыйскага пранацысцкага палітыка Артура

Зейс-Інкварта міністрам унутранай бяспекі, а іншых нацыстаў на важныя дзяржаўныя пасты. 14 лютага разгублены Шушніг выканаў патрабаванні, але ад яго патрабавалі ўжо большага. 9 сакавіка аўстрыйскі канцлер паспрабаваў выкласці апошні козыр і абвясціў, што 13 сакавіка адбудзецца рэферэндум на тэму незалежнасці.

## Прэзідэнта Міклаcа хапіла ўсяго на некалькі гадзін супраціву

Гітлер, які баяўся, што нават у такой сітуацыі больш за 50 працэнтаў галасоў ён не набярэ, пайшоў па-банку: ён пагражаў вайной. Цяжка сказаць, як у такой сітуацыі дзейнічаў бы Дольфус, але ягоны наступнік быў зроблены з іншага цеста. Увечары 11 сакавіка Шушніг пагадзіўся на ўсе патрабаванні і перадаў уладу Зейсу-Інкварту. Супраць гэтага быў прэзідэнт краіны, Вільгельм Міклас, але і таго хапіла ўсяго на некалькі гадзін супраціву. У выніку незадоўга да таго, як нямецкія войскі на загад Гітлера рыхтаваліся перайсці мяжу, Зейс-Інкварт стаў канцлерам, а праз два дні незалежная Аўстрыя спыніла сваё існаванне на сем гадоў...

Аншлюс прынёс рэпрэсіі: толькі за першыя шэсць тыдняў пасля анексіі краіны былі арыштаваныя да 76 тысяч грамадзян (каля 1% насельніцтва). Далей тэрор толькі мацнеў — забівалі або арыштоўвалі многіх, ад яўрэяў да хрысціянскіх сацыялістаў. У той жа час многія аўстрыйцы верна служылі Германіі і ваявалі супраць яе ворагаў. Аўстрыйцы складалі большасць у многіх структурах СС.

Аўстрыя заплаціла за падтрымку Гітлера дарагую цану.





Вуліца горада Лінц. На расцяжцы лозунг **«Адзін Народ. Адна Імперыя. Адзін Правадыр».**

### Артур Зейс-Інкварт: пакараны смерцю

(1892–1946) з'явіўся на свет у нямецкай сям'і з Штанерне (цяпер гэта Станараў у Чэхіі). У 1907-м разам з бацькамі пераехаў у Вену, дзе атрымаў юрыдычную адукацыю. На франтах Першай сусветнай ваяваў супраць Расіі, Румыніі і Італіі, быў узнагароджаны за мужнасць і паранены. У 1920-я гады Зейс-Інкварт працаваў юрыстам, а ў 1933-м увайшоў ва ўрад Дольфуса. Пасля забойства апошняга Артур стаў дарадцам Шушніга і нечакана для многіх зблізіўся з нацыстамі. Ён пачаў падтрымліваць аншлюс, а таксама зацікавіўся ідэямі пра выключнасць арыйскай расы і прафінансаваў некалькіх экспедыцый у Тыбет. 11 сакавіка 1938-га Зейс-Інкварт стаў апошнім канцлерам Першай Аўстрыйскай Рэспублікі і прабыў на гэтай пасадзе ўсяго пару дзён, бо 13 сакавіка адбыўся аншлюс. Надалей гэты чалавек быў верным паплечнікам Гітлера — спачатку кіраваў правінцыяй Остмарк (былой Аўстрыяй), потым — Паўднёвай Польшчай і Нідэрландамі. Зейс-Інкварт дэпартаваў яўрэяў у канцлагеры, але напрыканцы вайны спрабаваў заслужыць памілаванне: напрыклад, сабатаваў палітыку «спаленай зямлі» ў Нідэрландах. У 1945-м ён стаў апошнім міністрам замежных спраў Трэцяга рэйху, пасля быў арыштаваны і прысуджаны да пакарання смерцю ў Нюрнбергу.

Сотні тысяч аўстрыйцаў загінулі на франтах і пад бамбёжкамі. А пасля вайны Аўстрыя, як і Германія, прайшла балючую працэдуру дэнацыфікацыі. Аднак ёй пашанцавала не толькі вярнуць незалежнасць, але нават не трапіць у сацыялістычны ▶

SHUTTERSTOCK.COM, BY POPOVA VALERIYA


SHUTTERSTOCK.COM, BY TERRYSWORLD

**Мемарыял, пастаўлены да 50-годдзя аншлюсу** ў 1988 годзе на плошчы Альбертынпляц у Вене, памяці ахвяр вайны і фашызму. Яго аўтар — Альфрэд Грдлічка. Мемарыял складаецца з некалькіх частак. Адкрывае яго «Брама ўлады» (*Tor der Gewalt*), на выраб якой пайшоў граніт, здабыты ў гады вайны вязнямі канцэнтрацыйнага лагера Маўтхаўзэн у каменяломні каля Лінца. Паміж дзвюма калонамі пастамента «Брамы ўлады» можна пабачыць распластаную бронзавую фігуру яўрэйскага старога, які шкрабе брук. Левая скульптурная група мемарыяла сімвалізуе ахвяраў пераследу па рэлігійных, этнічных, светапоглядных матывах. Правая частка прысвечаная ўсім ахвярам вайны.

лагер.
У 1955 годзе войскі заходніх саюзнікаў і СССР пакінулі Аўстрыю, якая з тых часоў з'яўляецца нейтральнай дзяржавай і не ўваходзіць у ваенныя альянсы.

Ці мела Аўстрыя шанец сарваць аншлюс? Калі ўлічыць, што нацысцкая Германія здолела раздушыць мацнейшыя і большыя Чэхаславакію, Польшчу і Францыю, — мусіць, не. Але калі Аўстрыя аказала б супраціў, калі б краіна была не «ўз'яднаная», а захопленая, магчыма, не было б і Мюнхена, і Чэхаславакія павяла б сябе па-іншаму, і аўстрыйцы страцілі б менш жыццяў. Толькі гісторыя ніколі не дае шанцаў на паўтор. ◆

**За першыя шэсць тыдняў пасля аншлюсу было арыштавана каля 1% насельніцтва**




**Дэсантнікі стаяць на каленях каля манумента на Востраве Слёз у Мінску.** Усяго афганскую вайну прайшло 28 тысяч беларусаў, з іх 723 загінулі, 12 зніклі без звестак.

ФОТА НАДЗЕІ БУЖАН

## Чаму СССР прайграў вайну ў Афганістане

# Капкан на мядзведзя

**25 снежня спаўняецца 40 гадоў з дня ўводу савецкіх войскаў у Афганістан. Афганскую вайну Савецкага Саюза генерал пакістанскай выведкі Мухамад Юсэф назваў «капканам на мядзведзя». Ягонае ведамства, маўляў, дапамагло паставіць гэтую пастку і ўпаляваць «камуністычную звышдзяржаву». Але гэта ўсяго толькі тыповае самаўзвялічванне сілавіка. Насамрэч, тая вайна была вынікам збегу абставін і памылак розных людзей, піша доктар паліталогіі Сяргей Богдан.**

Першы афганскі маджахед, з якім мне давялося пагаварыць, зусім не адпавядаў стэрэатыпнаму ўяўленню пра барадатых баевікоў. Апантаны мовазнаўца з паўночнаафганскага Мазары-Шарыфа, Мухамад-Салех Расэх прыйшоў у антысавецкі партызанскі атрад разам са сваімі сябрамі. Па перакананнях яны былі сацыялістамі. Мухамад-Салех распавядаў, як небяспечна лёгка націскаецца курок ППШ ды здзіўляўся, што ведае творы Шолахава лепш за мяне.

Пасля я не раз пераконваўся, што ў афганскім супраціве бралі ўдзел людзі самых розных палітычных колераў. Бо канфлікт вынікаў не з «сутыкнення цывілізацый», а са здатнасці савецкай сістэмы настроіць супраць сябе ўсіх. Да гэтага прыводзіла, не ў апошнюю чаргу, яе крывадушнасць, яе двайное дно: савецкі бок на справе рабіў зусім не тое, за што выступаў на словах. І гэтую акалічнасць выкарыстоўвалі маджахеды. Напрыклад, адзін з камандзіраў Ісламскай партыі Гульбедзіна Хекматыяра ў мемуарах распавядае, што загадваў байцам чытаць раман Аляксандра Фадзеева «Маладая гвардыя» ў перакладзе на мову дары — як узор патрыятызму.

### Афганістан — непераможны?

Афганістан па тэрыторыі — прыблізна як тры сённяшнія Беларусі. Але міжнароднае значэнне гэтай краіны заўжды было абмежаваным. Ягоныя суседзі проста хацелі, каб адтуль на іх не нападалі. І не дзіва:

у даўнейшыя часы для пуштунскіх пляёнаў і іх кабульскага каралеўства рэгулярнае рабаванне індыйскіх земляў было нормай. Норавы мяняліся, але і ў XX стагоддзі суседзі — Іран, СССР, Пакістан, Індыя — былі гатовыя матэрыяльна дапамагаць Кабулу, абы той не ствараў клопату.

Высачэзныя горы і слабаразвітая транспартная сетка не толькі ізалявалі Афганістан ад свету, але нават і ўласныя правінцыі былі міжсобку слаба звязаныя. Адсталая сельская гаспадарка, амаль ніякай прамысловасці, пры гэтым малапісьменнае насельніцтва, падзеленае на шмат этнічных груп. Карысных выкапняў няшмат. Іх перапрацоўка і цяпер праблематычная, бо няма інфраструктуры і кадраў, а экспарт — складаны. Афганістан не толькі не мае выхаду да мора, але і не далучаны да чыгуначнай сеткі іншых краін (у самім краі чыгунка існуе толькі сімвалічна).

Афганістан меў значэнне для СССР найперш як сусед сярэднеазіяцкіх рэспублік. Фактычна Афганістан і савецкая Сярэдняя Азія былі ў гістарычным мінулым своеасаблівымі «злучанымі судзінамі». Савецкія вайскоўцы памяталі пра басмачоў 1920-х, якія трымаліся, пакуль мелі базы за мяжой – у тым ліку ў Афганістане.

Крэмль хацеў ад Кабула толькі спакою і ў другой палове XX стагоддзя выступаў за стабільнасць бадай кожнага тамтэйшага рэжыму. Савецкі бок ажыццяўляў у краіне шэраг істотных інвестыцыйных праектаў, але гэта дыктавалася хутчэй імкненнем забяспечыць прыязны нейтралітэт Кабула.

## Саветы супраць камуністаў

Дэстабілізацыя Афганістана пачалася са зрынання манархіі сваяком караля і былым прэм’ерам Мухамадам Даудам у 1973 годзе. Фармальна абвясціўшы рэспубліку, новы кіраўнік ліквідаваў самы мяккі ў рэгіёне палітычны рэжым. Замест таго паўстаў рэжым асабістай улады з радыкальнай нацыяналістычнай пуштунскай платформай (у краіне, дзе пуштунаў толькі палова). ▶

### Таракі, Амін, Кармаль — хто былі па паходжанні, кім працавалі перад рэвалюцыяй яе лідары?

**Нур Мухамад Таракі** быў сялянскага паходжання. Да рэвалюцыі быў на заробках у Індыі і Афганістане, пасля пачаў пісаць — артыкулы, апавяданні ды аповесці. Таракі не ведаў расейскай, але валодаў ангельскай. Марксізмам ён захапіўся падчас працы ў афганскім пасольстве ў ЗША. Калі вярнуўся на радзіму, жыў з працы перакладчыка ў амерыканскім пасольстве.
Яго творы выдаюць дагэтуль, ён стварыў сучасную прозу на занядбанай мове пушту ў краіне, дзе ўсе адукаваныя пласты, нават самі пуштуны, выкарыстоўвалі больш прэстыжную персідскую.
Яго неўзабаве пасля рэвалюцыі забіў паплечнік, міністр абароны Амін.

**Хафізула Амін** нарадзіўся ў сям’і чыноўніка, атрымаў выдатную адукацыю. Ён здабыў магістарскую ступень і пачаў пісаць доктарскую ў Калумбійскім універсітэце (ЗША). У Амерыцы ж стаў марксістам. Пасля вярнуўся дадому і працаваў ва ўніверсітэце, пасля быў дэпутатам у двух апошніх парламентах каралеўскага часу.
Аміна забілі пры штурме ягонага палаца сіламі савецкага КГБ, каб вызваліць месца для савецкай марыянеткі Кармаля.

**Бабрак Кармаль** — сын генерала з заможнай сям’і, які захапіўся марксізмам. Скончыў факультэт права і паліталогіі Кабульскага ўніверсітэта, працаваў у міністэрствах адукацыі і планавання. Пасля быў дэпутатам парламента ў двух апошніх скліканнях каралеўскага часу.
Пасля змяшчэння з пасады Кармаль пераедзе ў Расію і пражыве там да самай смерці ў 1996-м ва ўзросце 67 гадоў.




**Афганістан у 1960-я гады**, пры каралю Мухамеду Захір-шаху, узяў курс на мадэрнізацыю. На фота — афганскія дзяўчаты ідуць на вучобу.



**Вуліца Кабула** на наступны дзень пасля Красавіцкай рэвалюцыі 1978 года.



**Савецкія салдаты ў афганскіх**

Сам Дауд быў скінуты ў выніку т. зв. Красавіцкай рэвалюцыі, арганізаванай камуністычнай Народна-дэмакратычнай партыяй Афганістана (НДПА) у красавіку 1978-га. У выніку рэвалюцыі да ўлады прыйшла не столькі НДПА цалкам, колькі яе фракцыя «Хальк» («Народ»), якая вызначалася пуштунскім нацыяналізмам і радыкальным лявацкім мысленнем. Прамаскоўскія ж камуністы гуртаваліся ў фракцыі «Парчам» («Сцяг») — у ёй было больш таджыкаў, а палітычна яна была не такая радыкальная.

Хоць рэвалюцыя не была арганізаваная з Масквы, у Крамлі ёй радаваліся і звязвалі з ёй вялікія надзеі. З пераходам Афганістана ў савецкую арбіту да Індыйскага акіяна будзе рукой падаць. Краіна будзе як клін, убіты між Іранам і Пакістанам.

Аднак пераўтварэнні, ініцыяваныя гарачымі галовамі ў Кабуле, маскоўскіх куратараў НДПА насцярожылі. «Народнікі» абвясцілі радыкальную аграрную рэформу, пайшлі ў крыжовы паход на духавенства і заляпілі ўсё камуністычнай сімволікай. І ўсё гэта ў рытме маршу. Ад гэтага патыхае авантурызмам, палічылі на Старой плошчы.

### Перад сумным выбарам

Як было і ў СССР, і ў Кітаі эпохі вялікага пералому, «народнікі» разгарнулі масавыя палітычныя рэпрэсіі, на якія праціўнікі рэжыму адказвалі тэрорам. Замест стабілізацыі «сацыялістычнай арыентацыі» пачаўся хаос. Па стане на чэрвень 1979-га ўрад НДПА кантраляваў усяго пяць з 29 правінцый краіны, а тэрарыстычная актыўнасць — з боку не толькі (ці не столькі) ісламістаў, колькі левых, найперш мааісцкіх груповак — дасягнула такога размаху, што ў лютым 1979-га пасярод Кабула быў выкрадзены і застрэлены пасол ЗША. А Кітая ў тыя часы СССР баяўся часам больш за амерыканцаў.

Як вынікае з дакументаў Палітбюро, пры канцы 1979-га Крэмль стаяў перад сумным выбарам. Умяшацца азначала пачаць вайну. Пакінуць справы на самацёк — значыць, ужо заўтра на паўднёвай мяжы СССР узнікне сітуацыя крывавага хаосу («Амін [афганскі дыктатар], бадай, давёў бы краіну да другой Кампучыі» – адзначае ў сваім дзённіку ў 1979 годзе супрацоўнік Міжнароднага аддзела ЦК КПСС Анатоль Чарняеў, маючы на ўвазе тэрор Пол Пота і «чырвоных кхмераў»). У Маскве баяліся, што ўсе іх шматгадовыя высілкі па атрыманні кантролю над краінай пойдуць сабаку пад

### Дурань, гультай і п'яніца

У мемуарах «Правда об Афганскай войне» савецкі военачальнік Аляксандр Маёраў так ахарактарызаваў Кармаля: «У жыцці сваёй я не любіў дурняў, гультаёў і п'яніц. А тут усе гэтыя якасці сабраліся ў адным чалавеку. І гэты чалавек — правадыр партыі і кіраўнік дзяржавы!»

«Я не з'яўляўся кіраўніком суверэннай дзяржавы. Гэта была акупаваная дзяржава, дзе рэальна кіравалі вы ... Я кроку не мог ступіць без вашых дарадцаў ».
Бабрак Кармаль у адным з інтэрв'ю расійскім СМІ пасля адстаўкі







**Афганскі селянін з авечай атарай** і калона савецкай вайсковай тэхнікі.

хвост, калі паслязаўтра левыя радыкалы ў Кабуле дайграюцца і іх скінуць або ісламісты, або праамерыканскія нацыяналісты.

Рашэнне пра ўвод войскаў у Афганістан прымалася ў вузкім коле маскоўскага Палітбюро. Прысутнічалі Брэжнеў, Андропаў, Грамыка, Усцінаў. Суслаў, яшчэ адзін старац, адсутнічаў, ляжаў у бальніцы. Можа быць, хвароба гэтага звышасцярожнага чалавека і стала тым фатальным «матыльком», які прывёў да калапсу Савецкага Саюза. Вядома, што Грамыка, наадварот, быў дзвюма рукамі за інтэрвенцыю.

Герантакраты верылі, што аперацыя будзе праведзена малай крывёю, як увод войскаў у Чэхаславакію за 11 гадоў да таго.

Палітычнае прыкрыццё здавалася ідэальным. Пасля Красавіцкай рэвалюцыі афганскае кіраўніцтва 21 раз само звярталася да Крамля з просьбамі пра вайсковую падтрымку. Хто западозрыць, што насамрэч савецкі спецназ знішчыў кіраўніка Афганістана і змяніў рэжым, калі той рэжым сам нядаўна па наіўнасці прасіў дапамогі?

Як і на любой грамадзянскай вайне, кроў у Афганістане лілася ракою. У правінцыі маджахеды забівалі любых дзяржаўных службоўцаў, нават настаўнікаў. Але і савецкае камандаванне часам не было пераборлівым у выбары цэляў. Як пахваляўся ў тэлеінтэрв'ю міністр абароны ельцынскай Расіі Павел Грачоў, у Афганістане ён пасылаў людзей у атаку, толькі зраўняўшы папярэдне вёску з зямлёй артагнём і авіяцыяй. Разам з тым дысцыпліна ў савецкім войску ў Афганістане была даволі высокай, і вайскоўцаў нярэдка жорстка каралі. За злачынствы падчас праходжання службы ў Афганістане да крымінальнай адказнасці было прыцягнута 4 307 чалавек, асуджана да турэмнага зняволення — 2 540. Некаторыя савецкія салдаты былі нават пакараныя смерцю за злачынствы супраць мясцовага насельніцтва. Для параўнання, пасля сумнавядомай — хоць і не самай вялікай — разні ў в'етнамскай вёсцы Мі Лай амерыканскі афіцэр Уільям Келі адседзеў толькі 3,5 года хатняга арышту.

Поспех аперацыі абяцаў Маскве замену проста рэвалюцыйнага, сацыялістычнага рэжыму на такі самы рэжым, але цалкам ёй падкантрольны. У якасці новага кіраўніка краіны КГБ даставіў з Прагі пасла Афганістана ў Чэхаславакіі, аднаго з ацалелых кіраўнікоў фракцыі «Парчам» Бабрака Кармаля — чалавека слабага, непапулярнага, але даўняга агента савецкіх спецслужбаў.

## Кожны ваюе для сябе

Савецкая армія за пару дзён раздушыла супраціў ахоўнікаў Аміна і пары верных яму падраздзяленняў арміі. Але здарылася тое, чаго ў Маскве не прагназавалі. Супраціў замежнаму агрэсару аб'яднаў тых, хто дагэтуль варагаваў між сабой, — марксістаў, раялістаў, пуштунскіх нацыяналістаў і ісламістаў. Апошнія да 1979 года былі далёка не самай моцнай сілай. І нават НДПА, якая паспела сваім авантурызмам і рэпрэсіямі за паслярэвалюцыйны год сябе дыскрэдытаваць, усё яшчэ карысталася ў правінцыях большай падтрымкай, чым ▶




**Дэлегацыя афганскіх маджахедаў на сустрэчы з прэзідэнтам ЗША Рональдам Рэйганам**, 1983 год.

фундаменталісты, піша выдатны амерыканскі антраполаг, знаўца Афганістана Дэйвід Эдвардс, якога цяжка западозрыць у сімпатыях да камуністаў.

Супраць саветаў партызанілі плямёны ды сяляне, якія хацелі, каб ім далі жыць як раней, без гэтых новаўвядзенняў, манархісты, якія адчувалі сябе вернымі каралю, што жыў у Італіі, нацыяналісты, якім гонар не дазваляў бачыць замежных салдат на вуліцах Кабула. Іран падтрымліваў шыіцкае падполле, а Кітай — узброеныя структуры мааістаў. Ну а пакістанскія спецслужбы гатовыя былі дапамагаць усім, з кім мелі кантакт.

Чаму з часам у гэтай складанай сітуацыі пачалі весці рэй ісламісты? Таму што ва ўмовах партызанскай барацьбы найлепш выжываюць фанатыкі. Дый насельніцтва пачынае схіляцца да самага рашучага праціўніка «акупантаў». Замежныя дзяржавы, якія вялі барацьбу на аслабленне СССР, былі гатовыя рабіць стаўку на любога, хто найлепш выжывае. Амерыканцам і пакістанцам было няважна, каго падтрымліваць. Іх цікавіла адно — нанесці як найбольш шкоды сваім праціўнікам па Халоднай вайне і па магчымасці перакінуць іскры змагання на савецкі бок, дзе таксама жылі мусульманскія народы. Афганскія ісламісты ідэальна надаваліся на гэтую ролю, ім і пацяклі заходняя зброя ды грошы арабскіх манархій. Так у Афганістане сумеснымі намаганнямі была ўзгадаваная ўзброеная сіла, шмат у чым аўтаномная ад тамтэйшага грамадства ў матэрыяльным і ідэйным плане.

## Якая была савецкая тактыка барацьбы з партызанамі?

Савецкія войскі ахоўвалі асноўныя камунікацыі і рабілі рэйды супраць партызанскіх базаў, а таксама ліній забеспячэння маджахедаў. Аднак пасля сыходу савецкіх войскаў з разгромленых зонаў партызаны вярталіся назад. А на месца перахопленых караванаў з забеспячэннем прыходзілі новыя.

## Хекматыяр і Рабані — чаму менавіта яны сталі лідарамі?

Камандзір маджахедаў Гульбедзін Хекматыяр пачаў быў вучыцца на інжынера, але скончыў пару курсаў і пасярод белага дня ва ўніверсітэцкім гарадку застрэліў апанента-мааіста. Пасля гэтага ён кінуў навуку і неўзабаве стаў прафесійным актывістам у ісламісцкім руху. У партызанскага лідара вырас паступова.
Старэйшы за яго па ўзросце Бурханудзін Рабані скончыў найславуцейшы ўніверсітэт ісламскага свету — Аль-Азхар у Егіпце — і абараніў там дысертацыю па ісламскай філасофіі. Пасля вярнуўся ў Афганістан і да вайны быў выкладчыкам факультэта тэалогіі ў Кабульскім універсітэце. Абодва аказаліся палітычна прымальнымі фігурамі з досведам дарэвалюцыйнага змагання і змаглі атрымаць значныя фінансавыя рэсурсы з арабскага свету праз пакістанскія спецслужбы. Хекматыяр стварыў выдатна арганізаваную сучасную партыю і нават эфектыўную адміністрацыю на кантраляванай ім тэрыторыі.

### Чаму саветы прайгралі?

Няпраўда, што Савецкі Саюз апынуўся ў Афганістане, зусім не разумеючы, што гэта за краіна і як вырашаць яе праблемы. Савецкія афганісты яшчэ з 1930-х гадоў сур'ёзна займаліся даследаваннямі Афганістана, у тым ліку паўднёвай яго часткі. Адным з паказнікаў фундаментальнага падыходу з'яўляюцца слоўнікі, якія складаюцца многія гады. Найлепшы перакладны слоўнік пушту — афганска-рускі, складзены Марціросам Асланавым у 1960-х. Аналагаў гэтаму выданню па маштабе ды якасці няма, а гадоў з дзесяць

таму яго нават перарабілі пад англійскую мову.

Не была чымсьці новым для савецкіх вайскоўцаў і партызаншчына. Савецкія сілавыя структуры мелі багаты досвед вядзення вайны з паўстанцамі на ўскраінах імперыі: сярэднеазіяцкае басмацтва, польская Армія Краёва, Украінская паўстанцкая армія ды іншыя.

Савецкаму генштабу было добра вядома, што ў вайне з партызанамі можна дамагчыся поспеху толькі тады, калі вырашыш дзве задачы. Папершае, трэба пазбавіць партызан мабільнасці, не дазваляць ім вольна перасоўвацца. Для таго трэба наладзіць эфектыўную дзяржаўную сістэму, каб адсочваць усе варушэнні. Але рэкрутаваць у яе столькі камуністаў ці некамуністаў, цалкам лаяльных Маскве, саветы так і не здолелі.

**Няпраўда, што Савецкі Саюз апынуўся ў Афганістане, зусім не разумеючы, што гэта за краіна і як вырашаць яе праблемы**

Другая фундаментальная задача ў барацьбе з партызанамі — перарэзаць каналы матэрыяльнага забеспячэння. Для гэтага трэба было перакрыць межы з Іранам і Пакістанам, але і гэтага савецкія войскі не змаглі. І не варта ківаць на рэльеф. Суседнія Іран і Турцыя, напрыклад, здолелі закрыць свае межы ў гарах, калі змагаліся з курдскімі партызанамі.

Мяжу не закрылі, бо ў Афганістане многія і дагэтуль не прызнаюць мяжы з Пакістанам, той самай «лініі Дзюранда», якая аддзяліла сімвалічны цэнтр пуштунаў, пуштунскую Мекку, пуштунскую Вільню — горад Пешавар. А там жыве больш пуштунаў, чым у самім Афганістане.

### З В’етнамам не параўнаць

Каб перакрыць мяжу, што цягнецца на многія тысячы кіламетраў, трэба мець вялізны экспедыцыйны корпус. Між тым савецкі вайсковы кантынгент у Афганістане сапраўды быў «абмежаваным», у гэтым афіцыйны савецкі тэрмін не падманваў. Калі параўнаць памеры вайсковага ўмяшання СССР у Афганістане і ЗША ў В’етнаме, то афганская вайна саступае па ўсіх паказчыках. Савецкая прысутнасць у Афганістане ▶




**Адзін з найбольш таленавітых і папулярных правадыроў афганскіх маджахедаў Ахмад-Шах Масуд са сваімі салдатамі.** У 1990-я ён стане адным з лідараў Паўночнага альянса, які будзе аказваць супраціў радыкальным ісламістам-талібам. Загінуў у тэракце за некалькі дзён да атак на вежы Сусветнага гандлёвага цэнтра ў Нью-Ёрку, якія сталі для заходняга свету штуршком для ваеннага заангажавання ў афганскія справы.

### Абарона Панджшэрскай цясніны

Гонар маджахедаў — абарона Панджшэрскай цясніны ў 1980–1985 гадах. Сілы таджыка Ахмад-Шаха Масуда арганізавана адступалі пры з’яўленні савецкіх войскаў і імгненна вярталіся адразу пасля іх адыходу. Пры гэтым Масуд ніколі не спрабаваў перакрыць тунэль на перавале Саланг, блакаванне якога разразае Афганістан на дзве часткі. Гэта быў аб’ект стратэгічнай важнасці для саветаў, і Масуд узважваў рызыкі. А легендай у асяродку радыкальных ісламістаў стала бітва пры Джаджы, калі ў красавіку 1987 года партызаны тыдзень стаялі насмерць на сваёй горнай базе, аточаныя дзвюма ротамі савецкіх дэсантнікаў. Урэшце савецкія войскі мусілі адступіць.

## Лінія Дзюранда

Так завецца 2640-кіламетровая дзяржаўная мяжа паміж Афганістанам і Пакістанам. Яна была праведзена яшчэ ў 1893 годзе па выніках трох англа-афганскіх войнаў, калі Вялікабрытанія намагалася пашырыць каланіяльныя межы Брытанскай Індыі. Перамовы з афганскім эмірам Абдур-Рахманам вёў тады сакратар індыйскай каланіяльнай адміністрацыі Марцімер Дзюранд, і менавіта ад прозвішча апошняга атрымала назву праведзеная тады лінія падзелу. Але ўсе афганскія ўрады дагэтуль адмаўляюцца цвёрда прызнаць яе за законную мяжу, бо яна па-жывому дзеліць пуштунскую этнічную тэрыторыю. Пуштунаў у Пакістане, па ацэнках, жыве практычна ўдвая больш, чым у Афганістане (28 млн супраць 13 млн).


Савецкія салдаты ў Афганістане.

PINTEREST.COM

▸ складала нават на самым піку максімум 120 тысяч вайскоўцаў, у той час амерыканская ў В'етнаме ў 1968 годзе — 536 тысяч, не лічачы значныя кантынгенты азіяцкіх і аўстралійскіх хаўруснікаў.

Але ў выніку і страты Савецкага Саюза ў Афганістане былі выразна меншыя за страты ЗША ў параўнальнай па маштабах і працягласці в'етнамскай вайне. Саветы страцілі забітымі трохі больш за 15 тысяч, ЗША — 58 286. Амаль 39 тысяч савецкіх жаўнераў былі параненыя, а ў В'етнаме пацярпела больш за 153 300 амерыканскіх салдат.

Саветы не адважыліся зрабіць сваю прысутнасць татальнай. У выніку савецкае войска аказалася няздольнае знішчыць


**Прасавецкі прэзідэнт Афганістана Наджыбула** ўзнагароджвае савецкага салдата афганскім ордэнам. 1988 год.

WIKIMEDIA COMMONS

### Чаму Кармаля замянілі на Наджыбулу?

Паўтаджык, паўпуштун Кармаль адпачатку быў слабой постаццю, «піхні павалюся». Яго прыход на савецкіх танках яму не даравалі і многія афганскія камуністы, аўтарытэту ён не меў ні ў грамадстве, ні ў партыі. Таму савецкія эмісары ўвесь час шукалі больш моцную фігуру. Абралі кіраўніка спецслужбаў Наджыбулу, які яшчэ ў дарэвалюцыйны час меў мянушку Бугай. Яго, дужага хлопца, ставілі наперадзе дэманстрацый, калі чакаліся сутычкі з ісламістамі ці паліцыяй. Чалавек валявы і чыстакроўны пуштун, Наджыбула лідарскія якасці меў.

партызанскі рух. Адкрытыя межы азначалі бясконцыя магчымасці для падсілкоўвання супраціву.

Афганцаў у той вайне загінула, несумненна, значна больш, чым савецкіх вайскоўцаў. Аднак праз адсутнасць вартай даверу статыстыкі ацаніць маштаб страт немагчыма. Перад вайной колькасць насельніцтва ў Афганістане стала прадметам зацятай спрэчкі: ААН настойвала, што афганцаў каля 10 млн, а афганскі ўрад упэўнена казаў пра 20 млн. Сышліся прыкладна пасярэдзіне, але варта ўсведамляць, што ў кожным разе лічба толькі прыблізная. Спрэчка тады была не акадэмічная, бо ішлося пра вызначэнне ВУП на душу насельніцтва і права Афганістана на атрыманне дапамогі.

### Натхненне для ісламістаў

Вынікі вайны кожны бок трактаваў па-свойму.

СССР звяртаў увагу на «нармалізацыю», бо на момант вываду войскаў у лютым 1989-га афганская дзяржава, сапраўды, хоць і кепска, але функцыянавала.

### Беларусаў — вельмі шмат

Вядомы амерыканскі даследчык Марк Галеоці падлічыў удзел розных савецкіх народаў у вайне, параўноўваючы іх страты з доляй гэтых нацыянальнасцяў у насельніцтве СССР. Беларусы апынуліся на другім месцы. Гэта і не дзіва, бо вайна вялася збольшага сіламі больш падрыхтаваных паветрана-дэсантных войскаў, а ў іх было шмат беларусаў. Большы адносны паказчык удзелу ў вайне з народаў СССР быў толькі ў туркменаў, але ў іх выпадку, як зазначае Галеоці, усё звязана з асаблівасцямі ўводу войскаў — проста спачатку туды загналі некалькі часцей са значнай колькасцю менавіта туркменаў.




**Пачатак вываду савецкіх войскаў з Афганістана**, 1989 год.

Ужо ў 1990-м колькасць узброеных аддзелаў апазіцыі скарацілася ці не напалову — яны перайшлі на бок урада. Цікавасць Захаду да афганскіх маджахедаў пачала падаць, а пазіцыі кабульскага ўрада выглядалі трывалымі. Абрынуўся ён толькі ўвесну 1992 года пасля таго, як Масква раптоўна спыніла жыццёва важныя для кабульскага ўрада пастаўкі.

**Страты афганскага цывільнага насельніцтва праз адсутнасць вартай даверу статыстыкі ацаніць немагчыма**

А ісламісты лічаць вывад савецкіх войскаў з Афганістана сваёй перамогай. Больш за тое, нават развал СССР яны адносяць на свой рахунак. Гэты матыў з той пары не сціхае ў ісламісцкім дыскурсе і натхняе яго прыхільнікаў.

Падзенне Наджыбулы ў 1992-м паклала пачатак доўгай грамадзянскай вайне, у якой сышліся сілы груповак, што яшчэ нядаўна разам ваявалі супраць «шураві» (так мясцовыя завуць рускіх). Сітуацыя ў краіне стала настолькі нясцерпнай, што Талібан падаўся многім паратункам. Так пачаўся новы вiток гісторыі Афганістана, што прывядзе да іншага ўварвання — гэтым разам амерыканскага, у кааліцыі з 60 іншымі нацыямі, у рамках аперацыі «Нязломная свабода» ў 2001 годзе. ◆

### Чаму Савецкі Саюз не мог павялічыць колькасць сваіх вайскоўцаў у Афганістане?

Афганскія камуністы ўвесь час прасілі павялічыць колькасць войскаў, але Масква не хацела й чуць пра такое. Для СССР гэтая вайна і так была галаўным болем, бо «цынкавыя хлопчыкі» былі для грамадства шокам.



# Там, дзе ляжыць Каліноўскі

## Што яшчэ пабачыць на віленскіх Росах

**Матэрыялы для артыкула перадалі супрацоўніцы Віленскага беларускага музея імя Івана Луцкевіча Людвіка Кардзіс і Паўліна Вітушчанка.**

Афіцыйна Росы як гарадскія могілкі з'явіліся ў 1801 годзе. Гэта было звязана найперш з пачаткам еўрапейскай практыкі выносіць могілкі за межы горада — дзеля небеспадстаўнага клопату пра санітарыю. Праўда, паводле гісторыка Тэадора Нарбута і ксяндза-беларуса Уладзіслава Талочкі, пахаванні тут адбываліся і дагэтуль, асабліва падчас сярэднявечных эпідэмій. Але да

**Урачыстае перапахаванне** Кастуся Каліноўскага і яшчэ 19 паўстанцаў прайшло ў Вільні 22 лістапада з удзелам урадавых дэлегацый Беларусі, Літвы, Польшчы, Латвіі і Украіны. Труну на Росы суправаджалі тысячы людзей, ці не 90 працэнтаў якіх прыехалі з Беларусі. На фота: труны ўносяць на могілкі.

ФОТА НАДЗЕІ БУЖАН

XIX стагоддзя такая практыка была страчана. Таму нічога дзіўнага, што кансерватыўным жыхарам Вільні могілкі за горадам спачатку былі недаспадобы. З аднаго боку, людзі былі звыклыя да пахаванняў пры касцёлах, больш зручных для наведвання, з другога — гэта здавалася непрэстыжным, бо за межамі горада тады звычайна хавалі тых, хто займаў не надта дастойнае месца ў грамадстве.

## Першым лёг бурмістр

Каб зламаць гэты стэрэатып, самым першым на Росах пахавалі памерлага ў 1801 годзе віленскага бурмістра Яна Мілера. Паступова за ягоным прыкладам пайшлі і іншыя ўплывовыя дзеячы, у выніку чаго могілкі сталі набываць усё большы прэстыж. І калі ў 1801 годзе на могілках было толькі шэсць магіл, то да другой паловы XIX стагоддзя Росы сталі асноўным месцам пахавання выбітных гараджан. Праўда, магіла самога ««пачынальніка»», Яна Мілера, да нашых часоў не дайшла.

**Першым на Росах пахавалі віленскага бурмістра Яна Мілера. Каб людзі не баяліся хаваць блізкіх за горадам**

А тагачасная адлегласць ад горада — не такая ўжо, зрэшты, і вялікая — пасля стала ўспрымацца і як перавага. Па-першае, з цягам часу горад моцна наблізіўся да Росаў. Па-другое ж, дыстанцыя да могілак дала патрыятычна настроеным віленчукам магчымасць пры адпаведных нагодах ладзіць на Росы маштабныя пахавальныя працэсіі, якія часта набывалі характар палітычных дэманстрацый. Знакамітым стала пахаванне ў 1862 годзе, незадоўга да выбуху антырасійскага паўстання, паэта Уладзіслава Сыракомлі. На яго, паводле некралога, надрукаванага ў выданні «Тыгоднік ілюстраваны», сабраліся «і прасцякі, і паны». ▸

### Чаму Росы?

Росы — так называлася мясцовасць, якую адвялі пад могілкі. Чаму такая назва, пакуль ніхто не раскапаў. Вядомы краязнаўца XIX стагоддзя Адам Кіркор выводзіў назву «Росы» з язычніцкіх святкаванняў Расы (літ. *Rasos*) — свята летняга сонцастаяння, што некалі адбываліся на гэтым месцы. Але гэта не адзіная версія. Ёсць таксама меркаванні, што вытокі найменя — ад прозвішча чалавека альбо назвы мясцовай крыніцы.

Зрэшты, яшчэ ў першай палове XIX стагоддзя цяперашнія Росы часта называлі Місіянерскімі могілкамі — з-за каталіцкага ордэна, які імі апекаваўся. Але пасля гэтая назва адышла ў гісторыю.

### Забіты клубкаватаю маланкаю

Найстарэйшыя пахаванні знаходзяцца ў паўночнай частцы Росаў. Таксама там дагэтуль захаваліся рэштткі першапачатковай агароджы 1812 года.

Самай старой магілай, ацалелай да нашага часу, лічыцца магіла сям'і Бэкю. У іх ліку і хірург Агюст Бэкю, запрошаны ў Вільню для вакцынацыі ад воспы. Здабыў ён сабе, праўда, не найлепшую славу: шматлікія філаматы і філарэты лічылі, што ён спрычыніўся да рэпрэсій супраць гэтых нелегальных гурткоў, і нетрывіяльную яго смерць ад клубкаватай маланкі ўспрымалі як доказ таго. Маланка заспела доктара ў ложку, калі ён адпачываў па абедзе.

А неўзабаве пасля пахавання ўжо згаданага Уладзіслава Сыракомлі тая частка Росаў, дзе была яго магіла, атрымала назву «Літарацкай горкі». Там пахаваныя многія славутыя культурныя дзеячы. Сыракомля, дарэчы, быў адным з першых, хто зацікавіўся Росамі і як даследчык. Увосень 1854 года ён пачаў спецыяльна замалёўваць і апісваць могілкі. На жаль, лёс гэтых ягоных запісаў невядомы.

Увогуле, шматлікія даследчыкі Росаў адзначаюць, што структура могілак — своеасаблівая рэпліка горада. Паўтараючы традыцыйную гарадскую дэманстрацыю прэстыжу, пры самых сцежках хавалі самых заможных ды знакамітых людзей, а ў глыбіні — звычайных віленчукоў. Адзін з прыкладаў таму — так званая Алея ▶




**Сярод рэальных пахаванняў ёсць таксама і кенатафы** — гэта значыць сімвалічныя магілы без парэшткаў. На фота: кенатаф Івана і Антона Луцкевічаў. Наяўнасць гэтага кенатафа дазволіла пры магілах братоў Луцкевічаў пахаваць і Антонавага сына Лявона Луцкевіча ды ягоную жонку Галіну Войцік (дачку іншай славутай дзяячкі Зоські Верас), якія шмат рабілі для захавання беларускасці ў Вільні. Сюды перанеслі урну з зямлёй з магілы Івана Луцкевіча ў польскім Закапаным, дзе ён памёр і пахаваны; Антон Луцкевіч быў пахаваны ў Аткарску Саратаўскай вобласці, дзе ён памёр у турме.

SHUTTERSTOCK.COM, BY TAIGI

**Станіслаў Станкевіч,** кнігар

12

**Сям'я Бэкю — САМАЯ СТАРАЯ МАГІЛА РОСАЎ**

**Аляксандр Аскерка** (1830–1911), палітык, паўстанец 1863 года

**Іза Сайманові**ч (1877–1901). Многія лічаць, што гэта **САМЫ ПРЫГОЖЫ ПОМНІК** на могілках

Адвакат **Тадэвуш Урублеўскі**

9

**Капліца**

11

10

**Іван, Антон, Лявон ЛУЦКЕВІЧЫ і Галіна Войцік**

**ЛЯВОН ВІТАН-ДУБЕЙКАЎСКІ,** архітэктар

1 2 3 4 6 7 8

**МІКАЛОЮС ЧУРЛЁНІС** (1875–1911), класік літоўскага мастацтва

5

**ЯДВІГІН Ш.,** пісьменнік, нашанівец

**МАЎЗАЛЕЙ МАРШАЛА ПІЛСУДСКАГА**

LELEWEL

**1. ФРАНЦІШАК АЛЯХНОВІЧ** (1883–1944), беларускі драматург.

**2. Казімір Сваяк (1890–1926).**

**3. Альбін Стэповіч.**

**4. Уладзіслаў Талочка.**

**5.** Аўтар знакамітага набору гравюраў «Віленскі альбом» **Казімір Вільчынскі.**

**6. ЛЮДВІК КАНДРАТОВІЧ** (Уладзіслаў Сыракомля) (1823–1862), літаратар.

**7. Яўстах Тышкевіч** (1814–1873), археолаг.

**8. Сям'я Ямантаў.**

**9. Зыгмунт Нагродскі**, сябар Францішка Багушэвіча, прадпрымальнік.

**10. Ёнас Басанавічус** (1851–1927), літоўскі выдавец і гісторык.

**11. ІААХІМ ЛЯЛЕВЕЛЬ,** прафесар гісторыі Віленскага ўніверсітэта.

**12.** Паэт **Уладзіслаў Паўлюкоўскі** (Ул. Ініцкі)

прафесараў, што адразу пры ўваходзе паварочвае налева, дзе пахаваныя выбітныя выкладчыкі мясцовага ўніверсітэта.

## Росы — месца спачыну многіх знакамітых беларусаў

Прадметам даследавання сучасных навукоўцаў робяцца і эпітафіі на магілах Росаў. Польская даследчыца Ганна Сільвія Чыж у апошняй манаграфіі, прысвечанай гэтым могілкам, адзначае, што эпітафіі на мужчынскіх надмагіллях робяць акцэнт на адданасці Айчыне, грамадскай дзейнасці, пабожнасці і дабрачыннасці, тым часам як жаночыя эпітафіі ўсхваляюць сціпласць ды адданасць сям'і.




**Помнік Францішку Аляхновічу** патрабуе рэканструкцыі.

### Старыя і Новыя Росы

Да 1930-х гадоў могілкі разрасліся настолькі, што праз дарогу ад даўнейшай часткі былі закладзеныя Новыя Росы. Тады ж могілкамі ўпершыню заняліся рэстаўратары, сярод якіх быў і знакаміты мастак Фердынанд Рушчыц. На той момант яны ўжо былі даволі занядбанымі, стаўшы прытулкам для бяздомных.

Пабудаваных яшчэ ў першым дзесяцігоддзі XIX стагоддзя калумбарыяў у стылі класіцызму рэстаўратары, аднак, ужо не здолелі ўратаваць. Адзін з іх быў разбураны яшчэ за палякамі, у 1937 годзе, а другі ўжо за саветамі — у 1957-м.

Увогуле ж, катастрафічны для многіх старых некропаляў савецкі час Росы перажылі адносна няблага, чаму паспрыяла наяўнасць там пахаванняў вядомых прасавецкіх літоўскіх культурных дзеячаў кшталту пісьменнікаў Людаса Гіры, памерлага ў 1946 годзе, і Пятраса Цвіркі, памерлага ў 1947-м. Больш за тое, могілкі тады нават здабылі статус рэспубліканскай гістарычнай каштоўнасці. Але былі ў гэты час і вельмі сумнеўныя з маральнага гледзішча рашэнні: так, для вырабу прыступак на гару былі скарыстаныя надмагіллі з ліквідаваных яўрэйскіх могілак на Зарэччы.

### Сучасны стан

З 1967 года на Росах больш не хаваюць, гэта магчыма толькі ў выключных выпадках. Сучасная тэрыторыя могілак складае 10,8 гектара і ўтрымлівае каля 14 тысяч пахаванняў. Могілкі агулам маюць статус гісторыка-культурнай спадчыны пад дзяржаўнай аховай, такі ж адмысловы статус маюць асобныя 260 магіл на падставе мастацкай, гістарычнай ды мемарыяльнай вартасці.

У 2018 годзе пачалася чарговая рэканструкцыя могілак, якую фінансуюць Еўрасаюз і гарадское самакіраванне Вільні.

SHUTTERSTOCK.COM, BY GIEDRIUS AKELIS

**Асабліва прыгожа на Росах на Дзяды**, калі людзі прыносяць на магілы знічы.

### Як дабрацца да Росаў ад вакзала?

З вакзала ідзе аўтобус 31(выходзіць трэба на прыпынку *Rasų kapinės*, адразу перад могілкамі). Але прасцей туды дайсці пешкі, што займае 20 хвілін, бо аўтобус ходзіць толькі 2–3 разы на гадзіну.



**Росы як гарадскія могілкі з'явіліся** ў 1801 годзе, калі ва ўсіх еўрапейскіх гарадах з санітарных меркаванняў могілкі сталі выносіць за горад. Сучасная тэрыторыя могілак складае 10,8 гектара і ўтрымлівае каля **14 тысяч пахаванняў**.

## Ад Лялевеля да Чурлёніса

Нават простае пералічэнне магілаў славутых людзей на Росах заняло б некалькі старонак. Прытым многія з гэтых людзей, асабліва пахаваныя ў XIX стагоддзі, аднолькава важныя адначасова для трох народаў: беларусаў, палякаў і літоўцаў. У гэтым спецыфіка заўсёды шматэтнічнай Вільні.

Ахвяраванні на ўтрыманне магіл тых беларусаў на Росах, у каго ўжо не засталося сваякоў, можна перадаваць у Віленскі беларускі музей імя Івана Луцкевіча.

Сярод такіх дзеячаў на Росах знайшлі вечны спачын мастак Францішак Смуглевіч (яго магіла знікла разам з калумбарыем, знішчаным у 1957-м), адзін з заснавальнікаў таварыства філаматаў Ануфрый Петрашкевіч, археолаг і калекцыянер Яўстах Тышкевіч, аўтар знакамітага набору гравюраў «Віленскі альбом» Казімір Вільчынскі, той жа Уладзіслаў Сыракомля, адвакат Тадэвуш Урублеўскі, які неаднаразова бараніў у расійскіх і польскіх судах рэдактара і выдаўца «Нашай Нівы» Аляксандра Уласава і іншых беларускіх дзеячаў. Перанесены сюды і прах памерлага і пахаванага ў 1861 годзе ў Парыжы прафесара гісторыі Віленскага ўніверсітэта Іаахіма Лялевеля, які ў свой час выкладаў Адаму Міцкевічу, Тамашу Зану ды Яну Чачоту.

Са славутых літоўскіх дзеячаў варта перадусім згадаць мастака Мікалоюса Канстанцінаса ▸

# Магіла маці Юзафа Пілсудскага. І сэрца самога Пілсудскага.

Кіраўнік польскай дзяржавы завяшчаў пахаваць сваё сэрца ў Вільні. Яно ляжыць побач з маці.




SHUTTERSTOCK.COM, BY BJPHOTOGRAPHS



**Тут пахаваныя Альбін і Кастанты Стэповічы.** Апошні, беларускамоўны святар, больш вядомы пад сваім літаратурным псеўданімам Казімір Сваяк.

▶ Чурлёніса, «патрыярха літоўскага нацыянальнага адраджэння», галоўнага рэдактара першай грамадска-палітычнай літоўскай газеты «Аўшра» («Світанак») Ёнаса Басанавічуса, гаспадароў першай літоўскай кнігарні ў Вільні (дзе, дарэчы, можна было набыць і кнігі па-беларуску) Марыю і Юргіса Шлапялісаў.

Перапахаванне 22 лістапада на Росах 20-ці пакараных смерцю паўстанцаў 1863—1864 гадоў толькі грунтоўна дапаўняе старонку гісторыі гэтых могілак, звязаных з паўстаннем, але ніяк не пачынае яе. Паўстанцы часта карысталіся гарадскімі могілкамі, каб хаваць на іх зброю. А пасля нямала іх знайшло на гэтым некропалі і вечны спачын. На Росах пахавана каля 40 удзельнікаў паўстання (без уліку нядаўна перапахаваных) — нездарма з усходняга боку іх сёння агінае вуліца Паўстанцкая. Праўда, толькі 28 з гэтых магіл захаваліся да нашага часу.

Сярод самых славутых пахаваных на Росах паўстанцаў — адзін з арганізатараў паўстання Аляксандр Аскерка, які памёр у 1911 годзе, а таксама сям'я Ямантаў. Тыя ж паўстанцы, парэшткі якіх перанеслі на Росы ў лістападзе 2019 года, знайшлі сабе супакой у капліцы, пабудаванай у 1841 годзе паводле праекта братоў Тышэцкіх. Будавалася яна як месца развітання з нябожчыкамі.

Сучасныя палякі пры наведванні Росаў абавязкова завітваюць на месца пахавання маці Юзафа Пілсудскага, дзе згодна з завяшчаннем маршалка пахаванае і сэрца яго самога. Не праміналюць яны і магілы добраахвотнікаў, загінулых падчас

сутыкненняў з Чырвонай арміяй у 1919–1920 гадах, а таксама жаўнераў Арміі Краёвай.

## Каля родных магіл

Росы таксама і галоўнае месца спачыну знакамітых віленскіх беларусаў, якіх хавалі тут цягам усяго XX стагоддзя.

Тут магілы пісьменнікаў Ядвігіна Ш. (Антона Лявіцкага) і Уладзіслава Паўлюкоўскага, уладальніка беларускай кнігарні ў міжваеннай Вільні Станіслава Станкевіча, архітэктара Лявона Вітан-Дубейкаўскага, каталіцкіх святароў Кастанта Стэповіча (больш вядомага пад літаратурным псеўданімам Казімір Сваяк), Уладзіслава Талочкі і Паўла Пякарскага, аўтара вершаў на беларускай мове і сябра Францішка Багушэвіча Зыгмунта Нагродскага, грамадскіх дзеячаў Альбіна Стэповіча і Станіслава



Магіла літаратара-нашаніўца **Ядвігіна Ш. (Антона Лявіцкага)**.



POSTIMEES.EE, ФОТА OLGA TUČA

**Літоўскі геній Мікалоюс Канстанцінас Чурлёніс.**

Чыжэўскага, маці Францішка Умястоўскага Ганны Умястоўскай і маці Францішка Аляхновіча Марыі Аляхновіч-Клімавай... Не ўсе, на жаль, з беларускіх магілаў мы сёння ведаем: некаторыя, можа, зусім зніклі, а можа, яшчэ не знойдзеныя. Мясцовай супольнасці застаецца сачыць, каб такі лёс не напаткаў ужо вядомыя нам магілы. Найбольш неадкладнага рамонту патрабуюць надмагіллі Францішка Аляхновіча і братоў Стэповічаў.

Сярод рэальных пахаванняў ёсць таксама і кенатафы — гэта значыць сімвалічныя магілы без парэшткаў — заснавальнікаў і рухавікоў арганізаванага нацыянальнага руху ў пачатку XX стагоддзя Івана і Антона Луцкевічаў, драматурга Францішка Аляхновіча. Наяўнасць гэтых кенатафаў дазволіла пры магілах братоў Луцкевічаў пахаваць і Антонавага сына Лявона Луцкевіча ды




WIKIMEDIA COMMONS

На Росы быў перанесены і прах памерлага і пахаванага ў 1861 годзе ў Парыжы **прафесара гісторыі Віленскага ўніверсітэта Іаахіма Лялевеля**, які быў настаўнікам Адаму Міцкевічу, Тамашу Зану ды Яну Чачоту.

ягоную жонку Галіну Войцік (дачку іншай славутай дзяячкі Зоські Верас), якія шмат рабілі для захавання беларускасці ў Вільні ўжо ў пасляваенны час, а асабліва пасля краху камунізму. Магілу Івана Луцкевіча перанеслі з польскага Закапанага, дзе ён памёр; Антон Луцкевіч быў пахаваны ў Аткарску Саратаўскай вобласці, дзе ён памёр у турме. Аляхновіч быў спачатку пахаваны на Кальвінісцкіх могілках на Туравай гары, але тыя могілкі былі знесеныя ў 1972–1973 гадах, на іх месцы ўзведзены Палац шлюбаў.

Усімі гэтымі пахаваннямі апякуюцца нашчадкі нябожчыкаў, а таксама мясцовая беларуская супольнасць. Штогод на Дзяды і Радаўніцу кожную беларускую магілу саграюць агеньчыкі свечак. ◆

# Сергіевіч: нацыянальны рамантык

**«Мастак ад сэрца» — пра недаацэненага Пётру Сергіевіча піша вядучы навуковы супрацоўнік Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі Надзея Вусава.**

А хто там ідзе па бітай дарозе? А што яны нясуць на сваіх плячах? Жанчына трымае на руках дзіця. Дужы мужчына сагнуўся пад цяжкімі клункамі. Зялёныя ўзгоркі, лагчыны, адзінокая бярозка, справа — вялікае пахілае дрэва з панура-зялёным лісцем, злева, на ўзбочыне дарогі — палявы камень. Удалечыні хмарнае неба, са светлымі палоскамі кволай надзеі*. Гэта беларусы, якія не маюць дзе прытуліцца на роднай зямлі пад чужой уладай.

Спачатку гэтую карціну Сергіевіч назваў «Эмігранты». Яна была напісаная ў 1934 годзе, калі эміграцыя была часам адзіным выйсцем для многіх людзей. Пасля мастак зменіць яе назву на больш філасофскую і больш абагульненую, з Янкі Купалы: «Шляхам жыцця».

Пётра Сергіевіч нарадзіўся у 1900 годзе ў вёсцы Стаўрова над Богінскім возерам на Браслаўшчыне, але ўсё сваё мастакоўскае жыццё правёў у Вільні. Гэта быў яшчэ не літоўскі Вільнюс. Гэта быў «польскі час», гэта быў горад, дзе большасць жыхароў складалі яўрэі, і гэта быў цэнтр беларускага адраджэння, дзе працавалі ці змагаліся — або працавалі ды змагаліся — Адам Станкевіч, Антон Луцкевіч, Максім Танк, Францішак Аляхновіч, Браніслаў Тарашкевіч і іншыя знакавыя беларускія дзеячы.

Сергіевіч вучыўся ва Універсітэце Стэфана Баторыя на факультэце прыгожых мастацтваў пад кіраўніцтвам іншага класіка беларускага мастацтва — Фердынанда Рушчыца, якога лічыў сваім дабрадзеем; там была ягоная майстэрня, і нават афіцыйнае званне заслужанага дзеяча мастацтва ён атрымаў у Літоўскай ССР, а не ў БССР пры ўсёй сваёй падкрэсленай, не фармальнай беларускасці.

### Чужы сярод сваіх

Калі ў Вільне ён быў паважаным і сваім, то іначай было ў БССР, у Мінску. З 600 твораў, якія стварыў мастак за сваё 84-гадовае жыццё, у Беларусі захоўваюцца — прычым некаторыя не выстаўляліся ўвогуле — мала чаго больш за 70, улічваючы і прыватныя зборы.

Першая выстава твораў Пётры Сергіевіча ў Мінску планавалася яшчэ ў 1941 годзе, але рэальна яна была арганізавана ў Дзяржаўным мастацкім музеі толькі ў 1962 годзе па рэкамендацыі Міністэрства культуры Літвы. Уганараваныя званнямі і рэгаліямі мастакі Беларусі звысока глядзелі на сівога калегу з Вільні. Сергіевіч губляўся на адкрыцці сваёй выставы: дзякаваў і не аспрэчваў нічыіх крытычных заўваг. Для ветэранаў нядаўняй вайны і мастакоў-партызанаў Сергіевіч быў падазроны: хоць і не калабарацыяніст, але ж арганізоўваў у Вільні выставу ў 1943 годзе «пад немцамі», працаваў у акупаваным Мінску. Многія шапталіся, што ў пабудаваным перад вайной касцёле ў Солах пад Смаргонню пад чырвонай фарбай, якой новая ўлада хуценька замалявала антыбальшавіцкія роспісы, менавіта Сергіевіч намаляваў «Цуд над Віслай», дзе польскія жаўнеры гоняць бальшавікоў арміі Міхаіла Тухачэўскага. Пры рэстаўрацыі ўжо ў XXI стагоддзі роспісы аднавілі.

У Мінск, аднак, Сергіевіч ездзіў даволі часта. Але сябраваў з нямногімі: Максімам Танкам, Уладзіславай Луцэвіч (жонкай Янкі Купалы) ды з Мікалаем Дучыцам, з якім яны разам працавалі як мастакі ў Чырвоным касцёле ў ваенны час. Ён напісаў партрэты гэтых сваіх мінскіх сяброў, як і многіх іншых, — спевака Міхала Забэйды-Суміцкага, Янкі Шутовіча, Зоські Верас, Антона Луцкевіча... Толькі што гэта ўсё не былі савецкія бонзы.

Заказамі ўлады БССР яго не песцілі. Праўда, сапраўдныя знаўцы мастацтва адчувалі, што маюць справу з вялікім творцам. ►

### Пётра і беларуская Вільня

Сергіевіч, як і Рушчыц, быў шчырым патрыётам Вільні. Калі Сергіевіч прыйшоў да Рушчыца паказаць свае творы, той нават купіў у маладога мастака вучнёўскі малюнак універсітэцкіх муроў, адчуўшы у ім аднадумца, закаханага ў віленскую атмасферу. «Сергіевіч быў сапраўдны віляньчук», — узгадваў дырэктар Віленскага мастацкага музея Рамуальдас Будрыс, ягоны шматгадовы сябра. «Тут, у Вільні, беларускі дух», — часта паўтараў Сергіевіч.

* Такімі словамі карціну апісваў мастацтвазнаўца Барыс Крэпак.

▶ Алена Аладава, дырэктарка Дзяржаўнай карціннай галерэі, якая з часам стане Дзяржаўным мастацкім музеем, пачала купляць творы мастака з партрэта яго стрыечнага брата — партызана Федзі (1946).

Другую карціну — «Аўтапартрэт» (1946), а таксама 4 графічныя творы, Дзяржаўны мастацкі музей купіў з персанальнай выставы толькі праз 32 гады, у 1978-м,, калі музей узначаліў Юрый Карачун. Пасля смерці Пётры Сергіевіча новы дырэктар напісаў ліст спачування да ўдавы і выказаў жаданне наведаць яе для закупкі твораў, але зноў не склалася: перабудова, адсутнасць сродкаў — і ў выніку найлепшыя творы Сергіевіча знаходзяцца цяпер у трох віленскіх музеях. Усяго ж у зборы Дзяржаўнага мастацкага музея цяпер усяго 28 яго твораў, з якіх жывапісу толькі 8, прычым чатыры — падараваныя (у тым ліку партрэты Максіма Танка, Яна Пятроўскага і яго маці Юстыны), два — прададзеныя калекцыянерамі (партрэт ксяндза



**Званар.** 1946 год. Перададзены ў Нацыянальны мастацкі музей з Купалаўскага тэатра ўзамен партрэта народнага артыста БССР Віктара Тарасава пэндзля Яўгена Харытоненкі.

### «Сам мусіць парупіцца…»

Калі сябар Сергіевіча, былы дырэктар музея імя Луцкевіча Янка Шутовіч, рэабілітаваны пасля сталінскіх рэпрэсій у 1958 годзе, спытаўся ў Алены Аладавай, чаму ў экспазіцыі Мастацкага музея ў Мінску няма твораў Сергіевіча, ён атрымаў, як успамінае Шутовіч у сваім эсэ пра Сергіевіча 1961 года, адказ, што «Сергіевіч сам мусіць аб гэтым парупіцца...». У 1962-м, пасля таго, як мастаку да 60-годдзя надалі званне заслужанага дзеяча мастацтваў Літвы, першая ў Мінску персанальная выстава па рэкамендацыі Міністэрства культуры Літвы ўсё ж прайшла ў Мастацкім музеі. Ці сапраўды сам мастак паклапаціўся, ці ўсё ж такі Аладава?..

Станіслава Глякоўскага і партрэт невядомай), графіка ж (9 аркушаў) паступіла з былога Віленскага беларускага музея імя Івана Луцкевіча.

Музей Янкі Купалы, дзе ў свой час гаспадарыла Купаліха — Уладзіслава Францаўна, цётка Уладзя, як яе называлі, удава паэта, — знаходзіўся на пачатку свайго існавання ў 1944-м у трох пакоях на трэцім паверсе Дома прафсаюзаў на плошчы Свабоды, а Карцінная галерэя — у васьмі пакоях на другім паверсе. Цётка Уладзя рыхтавала вялікую экспазіцыю «Янка Купала ў выяўленчым мастацтве» і замаўляла мастакам творы. На працягу 10 гадоў Сергіевіч насіў свае карціны паўз галерэю у музей Купалы, дзе паступова сфармавалася Сергіевічава «купаліяна» з 14-ці карцін.

### Нацыянальны рамантызм

Сергіевіч настолькі розны, што часам не верыцца, што карціны належаць пэндзлю аднаго і таго ж мастака.

Ён і нацыянальны рамантык, і цвёрды рэаліст у гістарычным

жанры, і пейзажыст, і выдатны рысавальшчык, і карыкатурыст, але часам выглядае як «самавук», прадстаўнік так званага наіўнага мастацтва. Асабліва адметны ён як нацыянальны рамантык у сімвалічных карцінах.

У савецкія гады Сергіевіч не афішаваў сваіх творчых дачыненняў з Каталіцкай царквой, хоць выконваў, як ён іх называў, «паліхроміі» для храмаў у Вільні, Павільнюсе (віленскі прыгарад), Горадні, Жодзішках, Смаргоні, Міцкунах, Малых Салечніках і Рэшах пад Вільняй, Солах, Поразаве, Шарашове, Карцы на ўкраінскай Ровеншчыне, дый не толькі. Гаварыць пра гэтую старонку яго творчасці ў савецкі час было небяспечна.

Партрэт ксяндза Станіслава Глякоўскага — самы выразна рамантычны з ягоных партрэтаў. Яго знайшоў на гарышчы свайго дома кампазітар Яўген Паплаўскі. Першыя звесткі пра гэты партрэт змешчаныя ў каталозе штогадовай выставы Віленскага таварыства незалежных мастакоў-пластыкаў,



**Партрэт Івана Луцкевіча.** 1933 год. З калекцыі Нацыянальнага мастацкага музея.

## «Скажам слова ў гісторыі чалавецтва»

Першая сустрэча Пётры Сергіевіча і Станіслава Глякоўскага адбылася ў 1929 годзе: 33-гадовы Глякоўскі вярнуўся ў Вільню з Рыма, і Сергіевіч быў уражаны постаццю ксяндза, яго маладосцю, тэмпераментам, гарачым жаданнем служыць нацыянальнаму адраджэнню. Глякоўскі верыў у сваю нацыю: «Маладыя беларускія адраджэнцы ствараюць сваё асабістае жыццё і жыццё свайго народа. І паколькі нашая Нацыя адорана для вялікіх маршаў…, мы будзем не толькі зайздросціць нашым суседзям, але і перагадольваць іх. Мы ўсё адно скажам слова ў гісторыі чалавецтва», — пісаў святар Глякоўскі ў віленскай беларускай газеце. Глякоўскі распрацаваў цэлую праграму беларусізацыі Касцёла: увёў беларускую мову ў сваім служэнні, выдаваў часопіс для дзяцей «Пралескі», што выклікала незадавальненне польскіх уладаў. А лёс яго быў трагічны: у пачатку нямецкай акупацыі Глякоўскі працаваў у Мінску, 15 снежня 1941 года быў арыштаваны і забіты гестапа. Дакладная дата і абставіны смерці невядомыя.

сапраўдным сябрам якога з'яўляўся Сергіевіч.

Амаль равеснікі і аднадумцы, Сергіевіч і Глякоўскі пасябравалі. У гэтым партрэце — падкрэсленая рамантычнасць і ўнутраны драматызм як прадчуванне лёсу. Разварот фігуры ў профіль, як таго і патрабуе эстэтыка рамантычнага партрэта. Нібы чорнае крыло, спружыніць пад ветрам сутана. Глякоўскі падаваўся Сергіевічу незвычайным рамантычным героем, нейкім Праметэем, які самаахвярна нясе святло ведаў людзям. Апантаны ідэяй герой, змагар за праўду і веру. Хуткасць жывапісу выдатна адчуваецца



**Партрэт Язэпа Драздовіча.** 1932 год. З калекцыі Нацыянальнага мастацкага музея.

ў гэтым палатне, па якім быццам «гуляе вецер». «Да партрэта трэба падыходзіць з налёту, захоўваць першае ўражанне», — гаварыў Пётра Сергіевіч вучням. Менавіта так, з напорам юнацтва, эмацыйна ды хутка напісаны і гэты партрэт, і многія іншыя творы пачатку 1930-х.

Мастацтвазнаўцы адзначылі асаблівасць Пётры Сергіевіча: побач з высокімі партрэтамі і элегантнасцю можа быць «саматужная» карцінка, ▸

## «Не спачну да смерці»

Мастак сам усведамляў недахоп у сябе акадэмічнай школы. Ен наогул быў да сябе вельмі патрабавальны: «Вечна са сваіх прац незадаволены, так мучаюся ад зары да зары. Малюю, не хапае мне часу паесці, неспакойны мой дух — дзе тая граніца? Выйду на вуліцу — хараство, колер захапляе мяне, усё здаецца так проста — бяры фарбы і малюй, а памалюеш, і самому не хочацца глядзець... Нявольнік я вечнага хараства, не спачну да смерці», — пісаў Пётра Сергіевіч у дзённіку 13 чэрвеня 1929 года.



**У карціне «Каліноўскі і Урублеўскі аглядаюць войскі»** (1959 год) Сергіевіч малюе кіраўніка паўстання ў хвіліну велічы і сілы. Захоўваецца ў Літоўскім мастацкім музеі.

што асабліва заўважна ў яго жанравых кампазіцыях 1940-х. «Калі яму не трэба спяшацца, калі ён можа весці спакойны, глыбокі і змястоўны дыялог з натурай, тады ён можа дасягаць жывога гучання колеру, асэнсавана гарманізаванай формы», — пісаў аб ім у 1970 годзе гісторык мастацтва Уладас Дрэма, атлант літоўскага мастацтвазнаўства і былы калега Сергіевіча па музеі Луцкевіча.

## У Кракаве

Пасля трох гадоў вучобы ў Віленскім універсітэце мастак паехаў удасканальвацца ў Кракаўскую акадэмію мастацтваў. Грошы на паездку даў яму прафесар жывапісу Аляксандр Штурман з нечаканай умовай, што калі не атрымаецца хутка аддаць пазыку, то малады мастак будзе даглядаць ягоную магілу. Так і здарылася: Сергіевіч на працягу ўсяго жыцця хадзіў на магілу свайго прафесара-дабрадзея. У Кракаве ж правёў

## Вобразы землякоў

Сергіевіч за 5 гадоў напісаў мноства эцюдаў для вобразаў паўстанцаў. Тыпы паўстанцаў Сергіевіч пісаў з натуры, са сваіх землякоў. У Варшаўскім архіве даследчыкамі пазней быў знойдзены фотаздымак Каліноўскага, якога мастак да гэтага маляваў са свайго брата. У гады панавання трыумфальных карцін на партызанскую і ваенную тэматыку карціны Сергіевіча выглядалі больш грунтоўна і гістарычна пераканаўча, прынцыпова антыпафасна, хоць і надта традыцыйна. У беларускія ж падручнікі па гісторыі ўвайшла карціна на тую ж тэму Адольфа Гугеля і Раісы Кудрэвіч, якая стала хрэстаматыйнай.



толькі год. Прафесар Кракаўскай акадэміі Юзаф Пяткевіч дзівіўся з віхурнага тэмпераменту студэнта: «Нашто так шмат траціць энергіі? Натура ж не ўцячэ!» — гаварыў ён свайму нецярпліваму вучню. Кракаўская акадэмічная школа зрабіла значны ўплыў на Сергіевіча, і пасля Кракава яго ўлюбёны жанр — партрэт — становіцца больш стрыманым, класічным. Такі партрэт Яна Пятроўскага – евангелісцкага пастара ў Дзярэчыне, што паміж Гроднам і Слонімам. Гэты партрэт Сергіевіч напісаў у 1940 годзе — і які кантраст з партрэтам Глякоўскага! Замест віхурнага тэмпу пэндзля — ураўнаважаная класіка, амаль эмблематычнасць.

## Партрэт вярнуў міністр

Ян Пятроўскі ў 1953 годзе забраў з сабой партрэт работы Сергіевіча ў эміграцыю ў ЗША. Гэты вядомы беларускі інтэлектуал, які на эміграцыі зрабіў пераклады з Платона, Марка Аўрэлія, выдаў «Класічны грэка-беларускі слоўнік», у 1993 годзе сам прынёс два партрэты ў падарунак тагачаснаму амбасадару Беларусі, будучаму міністру замежных спраў Сяргею Мартынаву, які ў 2006 годзе ў сваю чаргу перадаў яго ў Дзяржаўны мастацкі музей ад імя Міністэрства замежных спраў.

## Праца ў музеі Луцкевіча

Пётра Сергіевіч працаваў у Беларускім музеі імя Луцкевіча ў Вільні з перапынкамі яшчэ з 1939 года. Калі пасля вайны было вырашана перадаць частку фондаў у Беларусь, ён актыўна садзейнічаў, каб у Мінск трапілі самыя важныя артэфакты.

Так, у 1962 годзе ён падараваў нашаму гістарычнаму музею старажытную грамату 1568 года на пергаменце з прывязанымі пячаткамі, дазволіў Міхасю Сеўруку забраць з музея яго карціну «Жніво», якая цяпер у Мастацкім музеі. Пасля арышту дырэктара Янкі Шутовіча Сергіевіч быў адным з нямногіх знаўцаў музея Луцкевіча і яго экспанатаў. Але калі ў 1946 годзе сакратар па ідэалогіі ЦК КПБ Цімафей Гарбуноў запрасіў яго і іншых супрацоўнікаў музея пераехаць у Мінск, каб працаваць у беларускай сталіцы, мастак адмовіўся. Гэтаксама як адмовіўся пераехаць у Варшаву, куды яго таксама клікалі сябры.



**Партрэт Яна Пятроўскага.** 1940 год. Перададзены ў Нацыянальны мастацкі музей Міністэрствам замежных спраў Беларусі.

## Беларускі Матэйка

Яшчэ напрыканцы 1930-х гадоў Сергіевіч пачаў працаваць над карцінай «Кастусь Каліноўскі». ▶



**Максім Танк.** 1960 год. Палатно з трох кавалкаў — надстаўленае ўнізе і злева. Перадаў у Нацыянальны мастацкі музей сам Максім Танк.

▸ Ён быў амбіцыйны: «Гістарычная тэма ў нас, беларусаў, не распрацаваная. Як шмат працы і таленту трэба ўкласці ў тое, каб прадстаўнікоў лепшых людзей нашага мінулага, у наш час забытых усімі, прадставіць у хвіліны славы, павялічыць памяць пра іх у народзе. Яны гэтага вартыя. Нашы браты рускія, украінцы нас абагналі даўно ў гэтым, а мы павінны іх дагнаць, калі не перагнаць. Гэта творчае спаборніцтва. Калі я задумаў пісаць гістарычную карціну, я кіраваўся не толькі патрыятычнымі стымуламі, але і жаданнем стаць піянерам у гэтай галіне. Нашы беларускія мастакі толькі нядаўна зацікавіліся гэтай тэмай...» Два эскізы, зробленыя ў канцы 1930-х, Сергіевіч бязлітасна знішчыў у пасляваенны час.

Цікавасць падагравалася і будучым 100-годдзем паўстання 1863—1864 гадоў, а ў 1958-м адзначалася 120-годдзе з дня нараджэння Каліноўскага. Тады многія мастакі звярнуліся да гэтай тэмы і ў Літве, і ў Беларусі. У БССР афіцыйную замову на яе атрымалі мастакі муж і жонка Адольф Гугель і Раіса Кудрэвіч. На іх палатне 1958 года Каліноўскі — народны трыбун і агітатар. Сергіевіч таксама ўвасабляе Каліноўскага як палымянага прамоўцу. Карціна «Каліноўскі сярод паўстанцаў 1863 года» (1955, месца захавання — Гродзенскі гісторыка-археалагічны музей) паказвае яго ў лесе на прывале, сялянская світка падкрэслівае блізкасць да народа. У карціне «Каліноўскі і Урублеўскі аглядаюць войскі» (1959, Літоўскі мастацкі музей) Каліноўскі трактуецца як мужны военачальнік, ваяр «у хвіліну славы і надзеі», калі паўстанне толькі набірала моц.

Ці прайграў Сергіевіч творчае спаборніцтва свайго часу? І так, і не. Яго карціны не былі шырока паказаныя ў Беларусі, на што ён, безумоўна, разлічваў. Тым не менш Сергіевіч стаў адным з заснавальнікаў беларускага гістарычнага жывапісу савецкага перыяду. Прызнанне прыйшло пазней: першая прысвечаная Сергіевічу кніга-манаграфія аўтарства Арсеня Ліса, які сябраваў з мастаком больш як 10 гадоў, выйшла толькі ў 1970-м, а ў 1978-м нарэшце адбылася



**Партрэт Зоські Верас.** 1970 год. Згарэў у Лясной хатцы Зоські Верас у 1990 годзе.

### «Беларусі выдзелена нікчэмная частка...»

У лісце ад 12 снежня 1944 года да дырэктара Дзяржаўнай карціннай галерэі Алены Аладавай Пётра Сергіевіч з горыччу піша:
«Літоўская камісія пакідае сабе ўсе экспанаты невядомага паходжання..., хоць гэта і ясна паказвае рэч беларускай творчасці. Пакідаюць сабе экспанаты і іншых нацый, як і польскія, турэцкія, італьянскія, галандскія і г. д. Камісія пакідае і зброю гістарычнага паходжання, як казацкія стрэльбы, шаблі славянскіх дружын і пісталеты. Пакідаюць сабе экспанаты з метрыкай Ашмянскага, Валожынскага і Ваўкавыскага паветаў; па іх якасці шкада іх аддаць. Пакідаюць неацэнныя саксасы [саксас — урачысты строй мітрапаліта. — **Н. У.**] віленскіх уніяцкіх мітрапалітаў 15 і 16 стагоддзяў..., жывапіс, графіку і скульптуру. Беларусі выдзелена нікчэмная частка музея».

доўгачаканая, запланаваная яшчэ на 1975 год вялікая выстава ў Палацы мастацтва, якая ладзілася па ініцыятыве і з дапамогай іншага пакалення — маладых калег, якія самі выбралі і прывезлі у Мінск творы. З той выставы, якая стала святам, шмат раскупіла карцін творчая інтэлігенцыя, а «Аўтапартрэт» набыў Дзяржаўны мастацкі музей. Стары майстар успрымаўся легендай, за ім цугам хадзіла моладзь, да яго ў Вільню ў своеасаблівую пілігрымку ездзіла беларуская нацыянальная інтэлігенцыя: навукоўцы, літаратары, мастакі.

І усё ж дагэтуль няма ні альбомаў, ні сучасных грунтоўных даследаванняў пра яго творчасць.

Прайшло 40 гадоў пасля смерці майстра, некаторым яго творам хутка будзе сто гадоў. Не ўсе творы вытрымліваюць выпрабаванне часам. Але партрэты Сергіевіча і цяпер нібы выпраменьваюць гуманізм — яны сапраўдны мастацкі скарб. Гэтаксама як яго патрыятычная рамантычная купаліяна, інтымныя, пяшчотныя, надзвычай абаяльныя пейзажы. Сапраўдны беларускі класік. ◆



У Сергіевіча з жонкай не было дзяцей. Жонка яго, Станіслава, была родам з-пад Нарачы, з небагатай сям'і. Яе тата працаваў возчыкам у Віленскай беларускай гімназіі. Сергіевіч ласкава называў жонку «цукерачкай». **Пахаваныя яны на віленскіх могілках на Антокалі.**

**«За першымі саветамі»: польска-беларускае памежжа 1939–1941 гг. у вусных успамінах жыхароў Беларусі** / Уклад. Вольгі Івановай; пад рэдакцыяй Алеся Смаленчука. – Мінск: Зміцер Колас, 2019. – 376 с.

Упершыню ў беларускай гістарычнай навуцы пра трагічныя падзеі восені 1939 г. і савецкую палітыку ў Заходняй Беларусі ў 1939–1941 гадах распавядаюць непасрэдныя сведкі гісторыі. У зборніку прадстаўленыя вусныя ўспаміны колішніх грамадзян Польшчы, пераважна беларусаў і палякаў, якія ў выніку савецкай агрэсіі сталі грамадзянамі СССР. Іх памяць стварае альтэрнатыву той пракамуністычнай ідэалагічна заангажаванай пазіцыі, якой усё яшчэ напоўненыя падручнікі беларускай гісторыі XX стагоддзя.

У зборніку прадстаўленыя 106 успамінаў жыхароў Беларусі (усяго 107 рэспандэнтаў) 1920–1930-х гадоў нараджэння. Сярод рэспандэнтаў пераважалі жыхары беларускіх вёсак, сацыяльны склад якіх уключаў як сялян-калгаснікаў з пачатковай адукацыяй ці без яе, так і вясковую інтэлігенцыю (настаўнікаў, медперсанал) і святароў, а таксама былых кіраўнікоў мясцовай адміністрацыі і калгасаў. Апошнія групы звычайна мелі сярэднюю ці вышэйшую адукацыю. Веравызнанне і нацыяльнасць рэспандэнтаў запісваліся паводле іх самаідэнтыфікацыі. У выніку 80 суразмоўцаў назвалі сябе беларусамі/беларускамі, 25 — палякамі/полькамі і па адным рускім і габрэю. Паводле канфесійнай прыналежнасці рэспандэнты падзяліліся на 75 праваслаўных, 29 каталікоў, двух пратэстантаў і аднаго іўдзея.

Для калектыўнай памяці беларусаў характэрнае адначасовае суіснаванне дзвюх супрацьлеглых ацэнак верасня 1939 года — «афіцыйнай» і «неафіцыйнай». Першая – гэта памяць пра «гістарычную перамогу» беларусаў, якой паспрыяла палітыка СССР. Яна з'яўляецца элементам дзяржаўнай ідэалогіі і дамінуе ў школьных падручніках. А вось «неафіцыйная» памяць найперш напоўненая ўспамінам пра пачатак вайны. Гэта таксама памяць пра страх чалавека перад магутнай і бязлітаснай дзяржавай і выразная сацыяльная траўма, якая нават сёння не мае шанцаў быць прагаворанай і пераадоленай. Можна сцвярджаць, што праблема «ўз'яднання Беларусі» яшчэ захоўвае пэўную актуальнасць, прынамсі ў галіне памяці.

Кніга адрасаваная ўсім, каго цікавіць мінулае і хто разважае над будучыняй Беларусі. Яе можна набыць у мінскай кнігарні **«Акадэмкніга»** (пр. Незалежнасці, 72), а таксама ў прыватных распаўсюднікаў і інтэрнэт-кнігарнях.






**21 лістапада, напярэдадні ўрачыстага перапахавання знойдзеных на Замкавай гары парэшткаў паўстанцаў 1863–1864 гадоў у капліцу на могілках Росы, у Вільні адкрылася адмысловая выстава, прысвечаная гэтым людзям. Што на ёй можна пабачыць, піша Васіль Герасімчык.**

# Абуджаныя

## Медальён Каліноўскага, пярсцёнак Серакоўскага, адбітак твару Чаплінскага... Да канца мая ў Вільні працуе ўнікальная выстава

Выставу пад назвай «Абуджаныя: Гісторыя паўстанцаў, якіх знайшлі на гары Гедыміна» зладзілі ў будынку №14 колішняй Віленскай крэпасці (цяпер вуліца Касцюшкі, 1). Магутныя дзверы гэтага будынка з грукатам зачыняюцца, і наведніка выставы паглынае цёмны калідор. Той самы, па якім у 1863—1864 гадах прайшло каля тысячы ўдзельнікаў змагання «За вашу і нашу свабоду». Сярод іх — 8 з 21, пасля пакараных на Лукішскай плошчы.

Як напісана ў афіцыйнай анатацыі, «большую частку выставы складаюць матэрыялы, знойдзеныя падчас археалагічных даследаванняў 2017—2018 гадоў на гары Гедыміна, а таксама дакументы, якія асвятляюць паўстанне, фотаздымкі, прыватныя рэчы паўстанцаў, іншыя паўстанцкія рэліквіі».

### Стаўка на відовішчнасць

Вочы ледзь паспяваюць прызвычаіцца да бляклага святла, якое пранікае ў калідор з прыадчыненых па правым баку камер для зняволеных, як на левай сцяне пачынае разгортвацца сапраўднае відовішча. Над касцёламі і цэрквамі Вільні расцякаецца чырвонае зарыва, з якога праступаюць абрысы Міхаіла Мураўёва-Вешальніка, а за ім — шэраг з 20-ці ахвяраў паводле чарговасці пакаранняў з кароткімі, але ёмістымі подпісамі па-літоўску, па-польску і па-беларуску: «Раймунд Зямацкі, Альберт Лясковіч. 24.05.1863. 11.00; Баляслаў Калышка. 28.05.1863. 11.00; Юльян Лясneўскі. 10.06.1863. 11.00...» Апошні ў шэрагу — Кастусь Каліноўскі: 10.03.1864 (даты падаюцца паводле старога стылю).

Іх змяняюць выявы знойдзеных пры парэштках нацельных медальёнаў і крыжыкаў.

Нарэшце відовішча заканчваецца, і цемра больш не

здаецца настолькі непераадольнай, бо пасярод яе паўстаюць плямы святла. У сярэдзіне кожнай з іх — невялічкія рэчы. Тут і спражка дзягі Ціта Далеўскага, і медальён Кастуся Каліноўскага з выявай Маці Божай Вастрабрамскай, і шлюбны залаты пярсцёнак Зыгмунта Серакоўскага з надпісам «Зыгмунт Апалонія 11 жніўня / 30 ліпеня 1862 г.».

### Твар у вапне

Найбольш нечаканы сярод музейных прадметаў, звязаных з паўстанцамі, — вялізны кавалак застылай вапны з адбіткам твару аптэкарскага вучня Эдварда Чаплінскага, абвінавачанага ў прыналежнасці да кінжальшчыкаў (пра іх глядзі артыкул Васіля Герасімчыка «Забіць Мураўёва» ў № 2/2018 «Нашай гісторыі») і павешанага 28 жніўня (9 верасня) 1863 года. Рэстаўратар Літоўскага нацыянальнага музея Ёнас Петуховас пры дапамозе выяўленага фрагмента здолеў аднавіць форму твару Чаплінскага, ад якога не засталося ніводнага фотаздымка. Дзякуючы гэтаму праз 155 гадоў паўстанец быццам уваскрос і засведчыў тое, якім дзіўным малюнкам пераплятаюцца жыццё і смерць. Нездарма менавіта адноўлены для гісторыі твар Чаплінскага стаў тварам і ўсёй выставы.



**Будынак № 14 Віленскай крэпасці**

па сённяшняй вуліцы Тадэвуша Касцюшкі, 1 першапачаткова належаў магнатам з роду Хадкевічаў. На пачатку XIX стагоддзя канфіскаваны, у ім размясціліся казармы войскаў Расійскай імперыі. У час «Вясны народаў» 1848 года ў будынку з'явіўся падземны ўзровень для ўтрымання палітычных зняволеных. Спачатку гэта былі толькі 33 камеры, да часу паўстання 1863–1864 гадоў іх колькасць павялічылася. Аднак нават пасля канфіскацыі будынкаў каталіцкіх кляштараў месца для арыштаваных паўстанцаў не хапала. Праз будынак № 14 Віленскай крэпасці прайшло больш за тысячу абвінавачаных ва ўдзеле ў падзеях 1863–1864 гадоў. У пачатку 1990-х гадоў у гэтым будынку размясціўся штаб віленскай гарадской паліцыі, да жніўня 2019 года дзейнічаў цэнтр часовага ўтрымання зняволеных, што дазваляе стварыць на выставе аўтэнтычную атмасферу дзейнай турмы. Цяпер гэта — філіял Літоўскага нацыянальнага музея.

Былы цэнтр утрымання.

ФОТА КЯСТУЦІСА СТОСКУСА

**Адноўлены з адбітка на вапне твар Эдварда Чаплінскага стаў тварам і ўсёй выставы**

Якім чынам утварыўся гэты незвычайны экспанат? Справа ў тым, што пры закопванні на Замкавай гары ў Вільні целаў паўстанцаў царскія салдаты сутыкнуліся з вялікай праблемай: зямля тут была поўная будаўнічага смецця, таму капаць ямы можна было далёка не ўсюды. Перашкаджалі і агромністыя валуны, рэшткі пабудоў часоў Вялікага Княства Літоўскага. Таму ў адну з цяжкасцю выкапаную яму маглі кідаць адразу па два і нават тры трупы, у залежнасці ад колькасці пакараных смерцю ў адзін дзень. А паколькі тыя ямы былі не надта глыбокія, ▶

то зверху іх пасыпалі вапнай, каб не толькі паскорыць гніенне целаў, але і пазбегнуць на тэрыторыі крэпасці смуроду. У некалькіх выпадках слой вапны быў настолькі тоўсты, што дазволіў захаваць тэкстуру адзення, а ў выпадку Чаплінскага — і форму ягонага твару.

### Музейная аўтэнтыка

Вандруючы па камерах, наведнік хутка ўсведамляе, што ўсяго некалькі месяцаў таму тут яшчэ ўтрымліваліся зняволеныя. Металічныя дзверы з невялічкімі акенцамі і засаўкамі толькі на знешнім баку, краты на вокнах, нары каля сцен, брудна-жоўтая тынкоўка, спісаная шматлікімі абразлівымі надпісамі і малюнкамі, утвараюць асяроддзе, якое немагчыма ўзнавіць штучна. І гэтая аўтэнтычнасць яшчэ мацней уздзейнічае на наведніка.

**Усяго некалькі месяцаў таму тут яшчэ ўтрымліваліся зняволеныя**

Кожная з камер прысвечана камусьці з паўстанцаў, знойдзеных на Замкавай гары. У адным з памяшканняў цэлая сцяна аздоблена партрэтамі змагароў з Беларусі і Літвы, нары пакрытыя біяграмамі 21 паўстанца, забітага на Лукішскай плошчы. У іншай камеры — адна з нямногіх захаваных харугваў паўстанцкага атрада.

Камера, прысвечаная Кастусю Каліноўскаму, на чатырох мовах (беларускай, літоўскай, польскай і англійскай) распісаная тэкстам «Лістоў з-пад шыбеніцы», якія тут жа можна і паслухаць. На стале ляжыць нумар «Мужыцкай праўды» і зашыфраваная тэлеграма аб месцазнаходжанні лідара паўстання ў Беларусі і Літве. Побач — пячаткі рэвалюцыйнай арганізацыі, на якія жандары ладзілі сапраўднае паляванне.

### З 1864-га ў 1964-ы

Выстава працягваецца на другім паверсе, дзе ўжо няма магчымасці наведаць турэмныя камеры, але можна зазірнуць у іх праз невялічкія адтуліны, дзеля чаго трэба кожны раз схіляць галаву. На месцах для зняволеных бачныя творы мастацтва, створаныя з нагоды стагоддзя паўстання. Тады, увосень 1964 года, некалькі маладых літоўскіх мастакоў (Арунас Тарабільда, Уладас Вільджунас, Вінцас Кісараўскас, Алойзас Стасюлявічус) сабралі ў адным месцы больш за 60 работ, каб паказаць, як адраджаецца памяць пра паўстанне 1863–1864 гадоў, як пра яго распавядаюць і як яно ўплывае на пошукі свабоды. Ключавой постаццю тут з'яўляўся Кастусь Каліноўскі як змагар за чалавечую вольнасць.

Выстава ў 1964 годзе прапрацавала ўсяго некалькі дзён і была забаронена савецкімі ўладамі. Цяпер жа тыя творы зноў прадстаўленыя наведнікам як яшчэ адно сведчанне таго, што немагчыма ні схаваць, ні пахаваць імкненне чалавека да свабоды, якая ўсё роўна абудзіцца. Толькі што на ўсё свой час. ◆

Выстава дзейнічае да 31 мая 2020 года. Час працы: у сераду і чацвер з 12 да 20, з пятніцы да нядзелі з 12 да 18 гадзін. Кошт квітка: 4 еўра (дзіцячы — 2 еўра).

### Зыгмунт і Апалонія

Кіраўнік паўстання на тэрыторыі Жамойці Зыгмунт Серакоўскі быў схоплены расійцамі ў канцы красавіка 1863 года пасля бітвы, у якой ён быў цяжка паранены — куля раздрабіла тры рабрыны. Допыты ягоныя праводзілі ў перапынках паміж аперацыямі. Царскія ўлады на загад Міхаіла Мураўёва імкнуліся прымусіць Серакоўскага выдаць прозвішчы іншых удзельнікаў таемнай арганізацыі. Ён адмовіўся. Тады ваенна-палявы суд прысудзіў яго да расстрэлу, замененага загадам Мураўёва на павешанне. Увечары напярэдадні пакарання, пра дакладны дзень якога Серакоўскі не ведаў, да яго пусцілі цяжарную жонку Апалонію. Тая пра вынесены прысуд таксама яшчэ нічога не ведала. Ім далі ўсяго 15 хвілін на спатканне. На развітанне Зыгмунт прамовіў: «Ахапі мацней шыю, каб у хвіліну, калі пятля будзе зацiскаць яе, я мог узгадаць счапленне тваіх рук! Мне лягчэй будзе паміраць!» А незадоўга да смерці Серакоўскі паспеў перадаць праз расійскага шпітальнага лекара апошні ліст да жонкі, напісаны на вырваным з Бібліі аркушы.
Зыгмунта павесілі 15 (27) чэрвеня 1863 года, а Апалонію непасрэдным загадам Мураўёва саслалі ў вядомы цяжкім кліматам Белазерск Наўгародскай губерні. На спробу дактароў запярэчыць Вешальніку, што цяжарная жанчына проста не зможа перанесці ўмоў утрымання, Мураўёў адказаў: «Тем лучше».
У ссылцы Апалонія нарадзіла дачку, названую Зыгмунтай, але тая пражыла ўсяго год. Сама ж Апалонія Серакоўская пражыла доўгае жыццё і памерла ў 1919 годзе.



ФОТА ВАСІЛЯ ГЕРАСІМЧЫКА

**Шлюбны залаты пярсцёнак Зыгмунта і Апалоніі Серакоўскіх**, знойдзены ў магіле на Замкавай гары.

# Срэбныя сумачкі *з вытанчанай эпохі*

**На мяжы XIX і XX стагоддзяў у моду сярод жанчын-арыстакратак увайшлі сумачкі-кальчужкі. Пра іх піша малодшы навуковы супрацоўнік музея-запаведніка «Нясвіж» Людміла Жук.**

Сваім выглядам вытанчаныя вырабы, якія вібруюць нават пры лёгкім руху, надавалі дзіўныя адчуванні мяккасці і лёгкасці, здавалася б, мала ўласцівыя металу. Тонкія мініяцюрныя колцы, злітаваныя адзін з адным, злучаліся ў вертыкальныя радкі і ўтваралі лёгкія ланцужкі. Затым яны мацаваліся паміж сабой і злучаліся з цвёрдай рамай сумачкі, тым самым нагадваючы старажытнае кальчужнае пляценне.



**Сумачка-кісет** экспануецца цяпер у Нясвіжскай ратушы. Яна мае форму капшучка з зубчастым беражком, упрыгожаным цыліндрычнымі тонкімі падвескамі па краі. Гэтая сумачка выраблена ў Расійскай імперыі ў майстэрні Дзмітрыя Ягоравіча Удальцова – уладальніка майстэрні срэбных вырабаў з 1888 года да пачатку XX стагоддзя.

За гэтымі прадметамі жаночага туалету, прызначанымі для тэатральных і вячэрніх выхадаў, замацаваліся назвы «тэатральныя сумачкі» і «сумачкі-кальчужкі». Яны мелі самыя разнастайныя формы: прамавугольныя, квадратныя альбо авальныя, а часта заканчваліся рухомымі тонкімі стрыжанькамі, металічнымі пэндзлікамі або шарыкамі.

Сумачкі-кальчужкі, створаныя ў выглядзе мяшочкаў і сцягнутыя замест замкоў срэбнымі шнурамі, працягвалі традыцыі больш ранніх узораў жаночых сумачак, якія нагадвалі торбачкі.

У пачатку XX стагоддзя сумачкі, выробленыя з металічнага палатна кальчужнага пляцення, пачалі збіраць на жорсткую замочную пласціну — фермуар, да якога мацаваўся доўгі шнур для нашэння. Фермуары афармлялі, выкарыстоўваючы самыя розныя ювелірныя тэхнікі: гравіроўку, разьбу, чаканку; рознакаляровыя эмалі. Прызначаліся яны для выхаду ў свет. У такіх сумачках дамы трымалі веер і бальную запісную кніжачку (*carnet de bal*). Асаблівыя сумачкі рабілі для паходу ў тэатр: у іх было месца для ларнета або тэатральнага бінокля. Тэатральныя і вячэрнія сумачкі часта былі сапраўднымі творамі мастацтва.

На мяжы XIX–XX стагоддзяў дзяўчаты дапаўнялі свой вобраз маленькай срэбнай сумачкай-кашальком на ланцужку. У ёй зручна было захоўваць візітоўкі, карты, каштоўныя паперы.





**Тэатральную сумачку**, створаную ў Германскай імперыі ў пачатку XX стагоддзя ў тэхніцы кальчужнага пляцення са срэбра 800-й пробы, проста цяпер можна пабачыць у экспазіцыі «Прыватныя калекцыі» Нясвіжскага замка. На яе замочнай раме выгравіраваны надпіс: *«Clara Brandt, Woltersdorf»*. Магчыма, Клара Брант, якая жыла ў Вальтэрсдорфе, была ўладальніцай гэтага прадмета.

Даволі высокі кошт срэбных і залатых сумачак з выкарыстаннем пры іх вырабе розных спосабаў дэкаравання сведчыць пра тое, што яны былі прыналежнасцю гардэроба арыстакратыі. Тэатральныя «сумачкі-кольчужкі» сталі сімваламі вытанчанага жаночага туалета вытанчанай эпохі. ◆



**Сумачка на ланцужку**, якая зараз экспануецца ў кабінеце «Прыватныя калекцыі» Нясвіжскага замка, выраблена ў Расійскай імперыі ў 1908–1917 гадах. На тыльным баку прастаўленыя клеймы: Маскоўскага прабірнага ўпраўлення і кляймо «О. О.» — невядомага майстра. Выканана рэч са срэбра 800-й пробы, прамавугольнай формы з ланцужком. З аднаго боку паверхню прадмета ўпрыгожвае гравіроўка ў выглядзе сонца з промнямі.



Ілюстрацыйнае фота.

SHUTTERSTOCK.COM, BY MILLES STUDIO

# Андрэй Леўчанка. Магутны мінскі гіпнатызёр

**У студэнцкія гады адзіны раз у жыцці мне давялося ўжывую назіраць працу гіпнатызёра, наколькі я магу меркаваць, вельмі моцнага. Вось як гэта было. Піша Наталка Бабіна.**

У 1985 годзе я вучылася на другім курсе інжынерна-фізічнага факультэта Беларускага політэхнічнага інстытута (зараз БНТУ). Аднойчы Аня, дачка гаспадыні, у якой я здымала кватэру, вярнулася дадому вельмі ўзрушаная і распавяла, што ў іх у педагагічным тэхнікуме сёння выступаў гіпнатызёр і паказваў проста неверагодныя рэчы.

Гіпнатызёр раздаваў пасля выступу візітоўкі, адну з якіх Аня і паказала. Там значылася «Леўчанка Андрэй Іванавіч» і быў пазначаны нумар тэлефона. Нядоўга думаючы, я вырашыла пазваніць яму і запрасіць выступіць і да нас у палітэх. Ён адразу ж пагадзіўся. Цяпер з цікавасцю ўспамінаю, што ні з майго, ні з ягонага боку ані слова не прагучала пра грошы. Ён толькі папрасіў заехаць па яго на таксі, бо яму цяжка хадзіць, а таксама паклапаціцца, каб на сцэне стаяла некалькі крэслаў.

Тады я адправілася ў дэканат дамовіцца, каб нам далі залу. Там таксама праблем не ўзнікла. Мы з сяброўкай чарцёжным шрыфтам напісалі вялікую афішу і павесілі на дошцы аб'яў нашага 11А корпуса.

У вызначаны дзень мы з сяброўкай, Аняй Насаненка, злавілі таксоўку і адправіліся па гіпнатызёра. Ён жыў недалёка ад палітэха, на Ленінскім праспекце, 53 (цяпер праспект Незалежнасці), у тым доме, дзе доўгі час было вядомае кафэ «Бульбяная». З пад'езда выйшаў вельмі невысокі, але каржакаваты на выгляд мужчына, які з цяжкасцю накіраваўся да таксоўкі, моцна абапіраючыся на кульбу. Падобна было, ён перанёс калісьці ДЦП.

Тыя некалькі хвілін, пакуль таксі везла нас у палітэх, Леўчанка вёў звычайную размову, жартаваў, але мне падалося, што яго ў той вечар хвалявала нейкая праблема ці думка, не звязаная непасрэдна з будучым выступам.

Мы распрануліся ў гардэробе і павольна, бо ісці яму было няпроста, падняліся ў залу.

Зала была ўжо перапоўненая. Помню, я адзначыла, што прыйшло ўсё наша факультэцкае начальства і выкладчыкі, а студэнты не толькі з нашага факультэта, але і з іншых. Пачалася імпрэза.

Спачатку Леўчанка трохі распавёў пра гіпноз, а потым прыступіў да паказу яго магчымасцяў. Ён папрасіў прысутных сашчапіць рукі, заплюшчыць вочы, сказаў, што зараз ён палічыць да трох і тых, хто пасля гэтага не зможа расшчапіць рукі, папрасіў падняцца на сцэну. Наколькі я бачыла, усе ахвотна ўзяліся ўдзельнічаць у эксперыменце. На мяне гіпноз не падзейнічаў зусім, пасля слова «тры» я рукі з лёгкасцю расшчапіла. Але з дзясятак чалавек з соцень трох прысутных выйшлі да гіпнатызёра на сцэну, бо зрабіць гэтага не змаглі. Некаторых ён, расшчапіўшы ім рукі, адправіў назад у залу, а некаторых пакінуў, рассадзіўшы на крэслах на сцэне. Імгненна пагрузіўшы іх у гіпнатычны стан, ён стаў даваць ім розныя заданні.

«Гэтую сцэну залівае вада. Яна падбіраецца да вашых ног», — і людзі на сцэне ўскоквалі на крэслы, ратуючыся ад паводкі.

«Тут многа куранят. Яны разбягаюцца. Вам трэба іх злавіць», — і людзі насіліся па сцэне, збіраючы іх. Зала смяялася.

«Вы на ненаселеным востраве, вы тут даўно, ваша адзежа сатлела, і вы голыя. І вось на востраве з'яўляюцца маракі з карабля, якія вас выратуюць», — і людзі пачыналі рэагаваць: хто скакаў ад радасці, хто прыкрываўся (бо голыя), хто са слязьмі кідаўся да маракоў абдымацца...

Адной дзяўчыне Леўчанка давёў, што яна — дошка, цвёрдая дошка. Некалькі хлопцаў паклалі яе на спінкі крэслаў так, што яна абапіралася на іх толькі патыліцай і костачкамі ног, а гіпнатызёр усім целам наваліўся на яе, адарваўшы ногі ад падлогі. Яна не зварухнулася. Гэты эпізод запомніўся мне яшчэ і таму, што гэтая дзяўчына потым выйшла замуж за сына аднаго з тагачасных кіраўнікоў БССР.

Я тады моцна сумавала па доме, таму запоўніўся такі нумар. Леўчанка патлумачыў зале, што можа зрабіць так, каб душы загіпнатызаваных зараз апынуліся дома і пабачылі, чым займаюцца ў гэты час іх родныя. І загіпнатызаваныя вельмі рэалістычна распавядалі: тата глядзіць тэлевізар, мама-настаўніца піша план урокаў...

Выступ доўжыўся каля дзвюх гадзін і скончыўся авацыямі залы. Пасля выступу людзі не хацелі разыходзіцца, у фае шчыльным колам акружылі гіпнатызёра, задавалі яму пытанні. Многія звярталіся з медыцынскімі праблемамі, хацелі трапіць да яго на лячэнне. Я бачыла, што пасля выступу Андрэй Іванавіч моцна стомлены, ён быў проста мокры ад поту, як пасля цяжкай фізічнай работы. Адчуваючы, як арганізатарка, пэўную адказнасць за ягоны стан, я паспрабавала неяк адмежаваць яго ад публікі, але ён сказаў, што гэта нічога, што ён тут якраз для таго, каб кантактаваць з людзьмі.

Потым хлопцы-аднагрупнікі зноў злавілі таксі, і мы з сяброўкай адвезлі гіпнатызёра дадому. Ён запрашаў нас на чай. Нам, канечне, і хацелася пагаварыць з ім даўжэй, але, з другога боку, не хацелася і стамляць, бо было відавочна, што яму патрабуецца адпачынак. Таму каля пад'езда мы развіталіся.

Рыхтуючы гэты тэкст, я спрабавала знайсці звесткі ў інтэрнэце пра гэтага сапраўды незвычайнага чалавека, але, на жаль, мне гэта не ўдалося. Ніякіх звестак пра ягоны далейшы лёс я не маю. ◆

**Прымака-Онішк, Анета. Бежанства 1915 года: забытыя ўцекачы** / пераклад з польскай мовы Алекса Моніча. — Смаленск: Інбелкульт, 2019. — 303 с.




Лета 1915 года. Расійская армія пад напорам нямецкага войска мусіць адступаць з тэрыторыі Польшчы, Беларусі, Украіны ўсё далей на захад. Па вёсках і самі сабой, і мэтанакіравана шырацца самыя неверагодныя чуткі пра тое, што германцы нібыта паводзяць сябе зусім бесчалавечна, а таму адзінае выйсце — ратавацца ўцёкамі. Углыб Расійскай імперыі з яе заходніх рэгіёнаў кіруюцца гружаныя фурманкі. З этнічна беларускіх Беласточчыны ды Гарадзеншчыны выязджае нават да 80% насельніцтва. Усяго ў бежанства выправіліся да 2 мільёнаў чалавек.

Яны едуць у спякоце, часта без ежы і вады, церпяць шмат бедаў, масава хварэюць і паміраюць. Пасля тыя, хто гэта ўсё перанёс і выжыў, расцярушваюцца па ўсёй Расіі, так-сяк уладкоўваюць свой побыт. А потым, калі ў Расіі адбываецца рэвалюцыя і разгортваецца крывавая грамадзянская вайна, яны зноў садзяцца на калы і едуць назад – на радзіму, але ўжо новую, не тую, што была калісь. Бо за той час, пакуль іх не было дома, тут ужо паспела ўсталявацца новая ўлада — польская. А ўвесь набытак, што збіраўся пакаленнямі, найчасцей пайшоў з дымам...

Аўтарка гэтай кнігі распавядае гэтую гісторыю з розных перспектыў: людзей, пастаўленых у экстрэмальную сітуацыю, сялян, свет якіх гіне проста на іх вачах, і ўрэшце бежанцаў, уцекачоў, бязвінных ахвяраў розных войнаў.

Кнігу можна набыць у інтэрнэт-кнігарні **arche.by**, у мінскай кнігарні **«Акадэмкніга»** (пр. Незалежнасці, 72), а таксама ў індывідуальных кнігараспаўсюднікаў.




**Анатоль Кашпіроўскі з удзельніцамі сеансаў.** Уздзеянне яго на жанчын было вельмі моцным, некаторыя ездзілі за ім па ўсёй краіне. Лічыцца, што жанчыны ўвогуле больш гіпнабельныя за мужчын.

# КАРОТКАЯ ГІСТОРЫЯ ГІПНОЗУ ад Парацэльса да Кашпіроўскага

**Гэтая з'ява вядомая яшчэ з дапісьмовых часоў, але дзейнасць некаторых савецкіх гіпнатызёраў застаецца загадкай, піша Святлана Курс.**

### Што такое гіпноз?

У вачах навукоўцаў гіпноз не з'яўляецца чымсьці цудоўным. Гэта проста асаблівы рэжым працы мозгу, які ўключаецца і ў людзей, і ў жывёл. Існуюць прынамсі тры станы чалавечай свядомасці: неспаннё, сон (з усімі яго стадыямі) і гіпноз, які не мае нічога агульнага з рэгенерацыйным сном, хоць і паходзіць з грэцкага *hypnos* (сон) ды *osis* (стан).

У найноўшай медыцыне гіпноз паспяхова вывучаюць і выкарыстоўваюць апошнія 200 гадоў. Прытым сучасная навука дае даволі абцякальнае азначэнне гэтай з'явы. Заходні медыцынскі энцыклапедычны слоўнік Мілера-Кіна вызначае яго як «штучна выкліканы, часовы стан зmененай свядомасці, які характарызуецца звужэннем аб'ёму свядомасці, рэзкай канцэнтрацыяй фокусу ўвагі на змесце ўнушэння, зменамі ў функцыі кантролю, а таксама падвышанай рэактыўнасцю на каманды гіпнатызёра».

**Прыкладна штосёмы чалавек асабліва падатны на гіпноз і можа даходзіць да стану самнамбулізму**

Паводле Мілера-Кіна, механізм гіпнозу больш-менш такі: эга чалавека, гэта значыць частка розуму, якая свядома стрымлівае інстынкты, пад уздзеяннем гіпнатызёра часова слабее. Чалавек пачынае рэагаваць на свет залежна ад сваіх біялагічных і псіхалагічных характарыстык. Аслабляючы несвядомыя ахоўныя сілы розуму, гіпноз можа прымусіць некаторых пацыентаў перажываць важныя падзеі дзяцінства, даўно забытыя ці падаўленыя. Прыкладна штосёмы чалавек асабліва падатны на гіпноз і можа даходзіць да стану самнамбулізму.

## Народны гіпноз

У беларускай знахарскай традыцыі гіпноз ужываўся і для навядзення ўрокаў, улякаў ды сурокаў, і для вылечвання ад іх. Знахары і шаптухі зашэптвалі хворага да стану глыбокага выключэння свядомасці, бо так, кажучы сучаснай мовай, лягчэй дабрацца да псіхічнай прычыны хваробы. Дзеля гэтага існавалі шматлікія замовы з іх магічнай і паўтаральнай структурай. Асабліва пагрозлівымі лічыліся г. зв. «смярцёныя сурокі», калі праклён перадаваўся чалавеку праз сон з таго свету. Такія сурокі лячыліся гіпнозам праз люстэрка, калі хворы пагружаўся ў стан, падобны да трупнага здранцвення. Кажучы сучаснай мовай, гэта стан самнамбулізму. З дапамогай шаптальнага і люстэркавага гіпнозу лячылі скурныя, алергічныя, псіхічныя хваробы, залежнасці (кшталту п'янства ці прагульвання грошай), «загаворвалі» зубы і здымалі іншыя болі, у тым ліку родавыя.

Гіпноз часта выкарыстоўваўся і для крымінальных учынкаў. Асабліва славіліся гэтым цыганы, якія з дапамогай гіпнозу маглі выдаць хворага старога каня за гарачага жарабца або заплаціць алавянымі гузікамі. У 1945 годзе мая сям'я так пазбылася прыпасаў, якія тады былі на вагу золата. У хату зайшла цыганка, паабяцала наваражыць, ці вернецца мужык з вайны. Папрасіла нітак, парэзала іх, склала ў крыжык на далоні і пачала шаптаць. Крыжык закруціўся — маладзіца са свякрухаю страцілі прытомнасць, а калі «ачхнуліся», то цыганка ўжо знікла разам з кублом сала і кілбасамі з-за коміна.

Так спаконвеку гіпноз прымяняўся для дзвюх важных чалавечых патрэб: лячэння і зладзейства. Першаадкрывальнікамі гіпнозу былі шаманы, друіды, аракулы, альруны, чараўнікі ўсіх чалавечых плямёнаў на зары гісторыі. Яны валодалі тэхнікамі ўвядзення сябе і іншых у стан трансу, які выкарыстоўвалі для лячэння, абязбольвання, прадказання будучыні са змененага стану свядомасці, увядзення ў баявы транс ваяроў і паляўнічых. Прымяняўся гіпноз і для абясчульвання ахвяры перад ахвярапрынашэннем, каб яна пакорліва і нават радасна прыняла свой горкі лёс.



**Парацэльс.**

Апісаныя практыкі, калі аўстралійскія абарыгены праводзілі ампутацыі, увёўшы хворага ў стан трансу, які зберагаў яго ад болевага шоку і страху. Абязбольваліся роды і перадсмяротныя агоніі. У старажытнагрэцкіх храмах — асклепіядах — хворых апускалі ў сон, ужываючы замовы, бліскучыя прадметы, «чароўныя люстэркі», магічныя крышталі, а таксама *пасы* (ад лац. *passum* — распаўсюджваць) — марудныя рухі жраца ўздоўж галавы і цела, лёгкія дотыкі, правядзенне далонямі перад тварам. Старажытныя габрэі апісвалі стан, дасягнуты ў выніку замоваў і пасаў, так: «ён спіць і не спіць, і хоць адказвае на пытанні, але душой адсутнічае».

## Парацэльс: забіты камянямі

Нягледзячы на сярэднявечныя забароны і рэпрэсіі, еўрапейскія навукоўцы заўжды цікавіліся гіпнозам. Ёсць версія, што менавіта за гэта заплаціў жыццём славуты лекар Парацэльс — Філіп Аўрэол Тэафаст Бамбаст фон Гогенхайм, забіты камянямі на вуліцы 24 верасня 1541 года, на 48-м годзе жыцця. Парацэльс быў адным з найвялікшых лекараў у гісторыі. Ужо ў XVI стагоддзі ён мог лячыць і дыягнаставаць многія недаступныя яго сучаснікам хваробы. Маючы нораў бунтаўніка, нарабіў сабе шмат ворагаў, бо падважваў тагачасную забабонную медыцыну з яе кровапусканнем і п'яўкамі. Гэта прывяло да пераследаў і выгнання. Парацэльс стаў вандроўным лекарам, які вывучаў практыкі знахароў, цырульнікаў, алхімікаў і магаў. ▶




**Драўляны чан з вадой, які выкарыстоўваў у сваёй працы Мэсмер.** У ягоную накрыўку праз спецыяльныя адтуліны ўстаўляліся намагнічаныя жалезныя стрыжні. Некалькі пацыентаў Мэсмера, што размяшчаліся вакол чана, дакраналіся да яго і адзін да аднаго, ствараючы ланцуг, па якім нібыта «цыркуляваў» флюід. А магнетызёр, дакранаючыся да чана, нібыта перадаваў праз яго гаючую энергію ўсім пацыентам адначасова.

Менавіта ён першым распрацаваў тэорыю магнетызму і гіпнозу. Лічыў, што магнітная энергія напаўняе ўвесь свет, пранізвае зоркі, планеты і чалавека. Парацэльс адкрыў, што чалавек у асаблівым стане «з дапамогай магнітнай энергіі ды псіхічнай сілы» можа кіраваць асяроддзем і людзьмі. У гэтым стане чалавек можа імгненна лячыць любыя хваробы, змяняць уласцівасці прадметаў. Так Парацэльс стварыў метады лячэння з дапамогай магнетызму і гіпнозу. Яму належаць першыя даказаныя выпадкі вылечвання з дапамогай гіпнозу, а ягоная тэорыя легла ў аснову ідэй наступнага «ерэтыка ад гіпнозу» — Франца Антона Мэсмера.

## Мэсмер: багаты і пагарджаны

Франц Антон Мэсмер нарадзіўся ў 1734 годзе трэцім з дзевяці дзяцей егера, які жыў каля Бодэнскага возера. Нягледзячы на невысокае паходжанне, ён стаў філосафам, юрыстам і доктарам медыцыны. Мэсмер быў чалавекам усебакова развітым, а да таго ж прынятым у вышэйшых колах дзякуючы ўдалай жаніцьбе. Багаты цесць падарыў яму асабняк у Вене, дзе Франц Антон зладзіў медыцынскую лабараторыю.

Першая навуковая праца Мэсмера тычылася ўплываў планет і зор на лячэнне. Тады ён і ўжыў паняцце флюіду — «псіхічнага току», які вылучае кожны чалавек. Услед за Парацэльсам Мэсмер практыкаваў «жывёльны магнетызм» для лячэння: абкладаў чалавека магнітамі і даваў яму выпіць прэпарат жалеза, які нібыта выцягваў хваробы. Так ён вылечыў некалькіх уплывовых арыстакратаў, а пасля ездзіў у медыцынскія турнэ па Еўропе.

Медыцынская супольнасць, аднак, высмейвала і пераследавала Мэсмера, з-за чаго ён уцёк з Вены ў Парыж, дзе лячыў арыстакратаў цэлымі групамі. Яны сядзелі пад «намагнічаным» дрэвам або бакам з «намагнічанай» вадой, учапіўшыся за «намагнічаныя» правады, і пад гукі шклянога гармоніка Мэсмера ўпадалі ў транс, бачылі мінулае і будучыню, унутраныя органы адзін аднаго, распазнавалі хваробы, смяяліся і плакалі. Таксама Мэсмер зараджаў ваду і прадаваў яе ў бутэльках.

Магнетызм і гіпноз тады набылі рэпутацыю «шарлатанскага» метаду, які дзейнічае на разявак і іпахондрыкаў, але выклікае скептыцызм у вучонай супольнасці. Тым не менш Мэсмер зарабіў 344 тысяч ліўраў і стаў самым багатым і самым пагарджаным вучоным свайго часу. У 1774-м камісія Французскай акадэміі абвясціла Мэсмера махляром, запісаўшы, што «ўяўленне без магнетызму прыводзіць да канвульсій, а вось




**Магнетычны сеанс Пюісэгюра.** Як і ў ягонага настаўніка Мэсмера, пацыенты сядзяць пад «намагнічаным» дрэвам, учапіўшыся за «намагнічаныя» правады.

магнетызм без уяўлення нават канвульсій не дае». Гіпнатызёр быў выкрыты, зганьбаваны, арыштаваны, трапіў у забыццё і ціха сканаў у божым доме, у мафусаілавым па тых часах веку — у 81 год. Аднак ягоную справу працягнулі дзясяткі людзей, пераважна арыстакратаў, якія мелі вольны час і грошы на доследы.

### Маркіз Пюісэгюр і пастух Віктор

Першы дэтальна задакументаваны акт гіпнозу належыць вучню Мэсмера, Арману дэ Шансэнэ, маркізу дэ Пюісэгюру. Ён адкінуў уяўленні пра гіпноз як пра акт магнетызму і стаў трактаваць яго як акт уздзеяння на псіхіку (анімізм).

4 мая 1784 года ён правёў эксперымент з 23-гадовым пастухом Віктарам Расэ. Віктор канаў ад запалення лёгкіх, і Арман Пюісэгюр вырашыў спрабаваць гіпноз. Незнарок ён увёў хворага ў стан, які назваў «самнамбулічным». Пастух здранцвеў як статуя. Але Пюісэгюр не ведаў, як вывесці пацыента з гэтага стану. Калоў іголкамі, абліваў вадою, падносіў нашатыр — марна. Урэшце крыкнуў: «Устань і ідзі!» І Віктор падпарадкаваўся, як аўтамат. Не прыходзячы ў прытомнасць, ён адказваў на пытанні маркіза, паслугоўваючыся добрай французскай мовай. Зніклі ягоныя простая гаворка, заіканне, скаванасць. Перад маркізам паўстаў нязмушаны, культурны чалавек з манерамі і вымовай арыстакрата.

Такім чынам Пюісэгюр зрабіў рэвалюцыйнае адкрыццё: пры глыбокай стадыі гіпнозу ўзнікае г. зв. «рапорт» (ад фр. *rapporter* — «вяртаць») — спецыфічны кантакт паміж гіпнатызёрам і загіпнатызаваным, калі частка асобы гіпнатызёра перадаецца загіпнатызаванаму. Пюісэгюр адкрыў, што ў чалавека пад гіпнозам узнікае ўнутраная і знешняя разняволенасць, бестрывожнасць і спакой, разумовыя і фізічныя магчымасці ўзрастаюць, знікаюць голад, стома і боль.

### У краіне саветаў: медыцына і эстрада

Ад доследаў Пюісэгюра (пачатак XIX стагоддзя) і да пачатку XX стагоддзя гіпноз стаў на Захадзе агульнапрызнаным метадам псіхатэрапіі. Сто гадоў у гэтай галіне не адбывалася нічога экстраардынарнага, апрача шырокай практыкі. Пакінем па-за гэтым тэкстам дасягненні вялікіх практыкаў гіпнозу Джэймса Брэйдэна, Жана-Мартэна Шарко, Іпаліта Бернгайма, Зігмунда Фройда і асабліва Мілтана Эрыксана, які за адзін сеанс мог вылечыць ад цяжкой псіхічнай хваробы. Выпраўляйцеся ў гэтае цікавае падарожжа самастойна, а мы пяройдзем адразу да савецкай школы гіпнозу.


NAROD.RU
Рыгор Гутман.


У 1930-я савецкія навукоўцы ўслед за заходнімі прыйшлі да высновы, што гіпнатэрапія можа лячыць неўрозы, фобіі, залежнасці, скурныя і алергічныя захворванні, гіпертанію. Калі прымяненне анестэтыкаў немагчымае, то гіпноз выкарыстоўваецца падчас лячэння зубоў, фіксацыі пераломаў, пры родах і цяжкіх агоніях.

Але асаблівую кар'еру ў СССР сталінскага часу зрабіў «эстрадны гіпноз». З пачатку 1930-х гіпнатызёры выступалі па ўсёй краіне. Сатырычная сцэна ў «Майстры і Маргарыце» Міхаіла Булгакава пра «сеанс магіі з выкрыццём», дарэчы, спісаная з выступу славутага савецкага гіпнатызёра Рыгора Гутмана, які перад выступам мусіў хвілін з 15 прысвяціць выкрыццю ўласнага майстэрства.

### Рыгор Гутман

Гутман нарадзіўся ў 1895 годзе і ўхітрыўся пражыць у поўным небяспек XX стагоддзі доўгае і даволі спакойнае жыццё. Сканаў ён у спакоі і дабрабыце ў 1979-м, на 85-м годзе жыцця. Ягоным майстэрствам захапляўся сам Сталін, чыю ўдзячную тэлеграму Гутман выкарыстоўваў як ахоўную грамату. Адзін з запісаў выступлення Гутмана ў 1934 годзе даступны і на *Youtube* (гл. па qr-коду).

Сваю дзейнасць сын бакінскага клерка распачаў у 1933-м. Гутман быў бліскучым акцёрам, апрача бездакорнай тэхнікі гіпнозу меў адпаведныя дыкцыю, голас, манеры, выгляд. Шчаслівейшы за сваіх даўнейшых калегаў Парацэльса і Мэсмера, ён 60 год свабодна выступаў, «абслужыўшы» 200 тысяч чалавек, ніколі не быў рэпрэсаваны, быў заможны і меў мноства раманаў і шлюбаў з жанчынамі, ►

▸ маладзейшымі на 25–40 гадоў. А памёр на другі дзень пасля свайго апошняга выступлення на гастролях у горадзе Ліпецку.

Несавецкая паводле сваёй эстэтыкі фігура, Гутман выходзіў на сцэну ў смокінгу і тварыў цуды. Прыкоўваў людзей да крэслаў, праколваў ім рукі без усялякай рэакцыі, ператвараў іх у нягнуткую дошку, па якой скакалі асістэнты, наносіў апёкі з дапамогай простага алоўка.

Дарэчы, здарэнне, якое прыпісваюць вядомаму містыфікатару Вольфу Месінгу, насамрэч ёсць задакументаваным эпізодам з жыцця Рыгора Гутмана. Аднойчы ў рэстаране ён на просьбу сяброў расплаціўся з афіцыянткай папяровымі сурвэткамі. Дзяўчына іх прыняла, але Гутман пасля дагнаў і шчодра ўзнагародзіў яе. Сваю ж жонку Валянціну ён так загіпнатызаваў перад радзільняю, што тая і не заўважыла тых родаў.

Мэтр памёр у 1979-м, а праз некалькі гадоў у СССР эстрадны гіпноз забаранілі. На думку савецкіх медыцынскіх функцыянераў, «эстрадны гіпноз наносіць шкоду псіхічнаму, маральнаму здароўю савецкіх людзей... Падчас такіх сеансаў назіраецца з'ява гіпнанаркаманіі, што прыводзіць да разбурэння структуры асобы, паніжае яе здольнасць да сітуацыйнага аналізу, стымулюе спантанныя нематываваныя паводзіны».

## Анатоль Кашпіроўскі і ягоныя цені

Але забарона гіпнозу пратрымалася літаральна пару гадоў. Прыйшла перабудова, а з ёй — фенаменальная папулярнасць Анатоля Кашпіроўскага і Алана Чумака, з імёнамі якіх прынамсі старэйшае і сярэдняе пакаленне



**Анатоль Кашпіроўскі.** Ягоная каронная фраза падчас тэлесеансаў «Даю ўстаноўку!» ўвайшла нават у народны фальклор.

на постсавецкай прасторы перадусім і асацыюе публічныя масавыя сеансы гіпнозу.

Выхадзец з Украіны Анатоль Кашпіроўскі 25 гадоў працаваў доктарам у псіхіятрычнай бальніцы ў Вінніцы, чатыры гады кіраваў Рэспубліканскім цэнтрам псіхатэрапіі ў Кіеве, падпрацоўваў спартыўным лекарам і займаўся цяжкай атлетыкай (стаў майстрам спорту). Унікальнае спалучэнне гэтых якасцяў — псіхіятра, цяжкаатлета, спартыўнага лекара — у 1984-м узнесла Кашпіроўскага на пасаду псіхолага зборнай СССР па цяжкай атлетыцы. Паводле тагачасных ягоных пацыентаў, дапамагаў ён ім вельмі добра.

Падрыхтоўчым палігонам стала для Кашпіроўскага і членства ва Усесаюзным таварыстве «Веды» ў 1970-х. Лектары гэтага таварыства тады вандравалі па сельскіх клубах і дамах культуры ўсёй савецкай краіны. Усяго Кашпіроўскі ў той час ахапіў сваімі сеансамі каля 100 тысяч чалавек. Таму ягоны будучы поспех быў добра папярэдне падрыхтаваны.

А ўсенародная вядомасць прыйшла тады, калі ў сакавіку 1988-га быў арганізаваны першы тэлемост Масква – Кіеў, падчас якога Кашпіроўскі


RIA.RU

Падчас знакамітага тэлемоста Кіеў — Масква, калі **Анатоль Кашпіроўскі рабіў абязбольванне тэлевізійным гіпнозам**. З гэтага моманту пачалася яго ўсенародная слава. А што гэта было: сапраўды майстэрства, містыфікацыя, змова з хірургамі ці нешта іншае, адназначнага адказу няма дагэтуль. Нават у прафесійных хірургаў розныя версіі, якія часта значна розняцца паміж сабой. У адным, аднак, яны згодныя: дзеянне гіпнозу калі і можа мець тут значэнне, то абмежаванае.

абязбольваў у ходзе хірургічнай аперацыі сваю падначаленую Любоў Грабоўскую, медсястру Вінніцкай псіхіятрычнай бальніцы. Поспех — прынамсі, так, як паказала тэлебачанне — быў фенаменальны, і менавіта пасля гэтага на некалькі гадоў узышла зорка Кашпіроўскага як усенароднага куміра.

## Папулярнасць Анатоля Кашпіроўскага была такая, што падчас яго тэлеперадач пусцелі вуліцы



**Алан Чумак** падчас тэлесеанса.

Праўда, паўтор эксперыменту ў ліпені 1989-га, калі тэлемост злучыў Кіеў і Тбілісі, быў значна менш удалым. З трох гадзін аперацыі гледачам змаглі паказаць толькі 20 хвілін, адмыслова змантаваных Кашпіроўскім. Сам гіпнатызёр сцвярджаў, што ўсё так атрымалася па віне тэлеаператара, які нібыта быў моцна п'яны, але спецыялісты-хірургі ўвогуле скептычна ставяцца да магчымасцяў падобнага абязбольвання, не адмаўляючы яго ў прынцыпе тады, калі гаворка ідзе пра лёгкія выпадкі. Каментуючы першую аперацыю, якая зрабіла такі фурор, маскоўскі хірург Аляксандр Алахвердзян дапускае, што гэта проста была «дробная аперацыя, на падскурнай клятчатцы. Тэарэтычна, калі індывідуум гіпнабельны, тады так, [гэта магчыма]. Але болевыя імпульсы ўсё адно ёсць, і магчымасці нават самага прафесійнага гіпнозу абмежаваныя».

Але да часу тбіліскай няўдачы тэлевізійная кар'ера Кашпіроўскага ішла ўжо поўным ходам. У 1989-м зорны ў той час вядучы Уладзіслаў Лісцьеў запрасіў гіпнатызёра на сваю таксама ў той час звышпапулярную праграму «Взгляд». Падчас яе зрабілі пробны тэлемост з удзелам 12-ці пацыентаў. Людзі трымалі ў руках шклянку з кіпнем і не апякаліся, не адчувалі болю ад праколвання рук і г. д. Прытым яны не былі ў стане трансу, усведамлялі і бачылі, што з імі адбываецца. Пасля таго рэдактар «Взгляда» Вадзім Белазёраў арганізаваў яшчэ шэсць перадач з удзелам Кашпіроўскага, і папулярнасць іх была такая, што падчас трансляцый пусцелі вуліцы.

Пасля, аднак, гіпнатызёр і тэлевізійшчыкі пасварыліся, не падзяліўшы грошы. Кашпіроўскі са «Взгляда» сышоў, а Белазёраў, жадаючы па максімуме скарыстаць узнятую хвалю поспеху, наняў замест яго «экстрасэнса» Алана Чумака, які выступаў у пустым памяшканні, без аўдыторыі і пацыентаў, махаў рукамі і на адлегласці «зараджаў» ваду і крэмы. Гэта то было ўжо чыстае шарлатанства, але на закладзеных Кашпіроўскім драждждах папулярнасць і Чумака была немалая.

У 1989—1993 гадах Кашпіроўскі з Чумаком мала таго што займаліся тэле- і радыёсеансамі, дык яшчэ і прачэсвалі ўсю краіну з гастролямі, даючы ад 3-х да 10-ці сеансаў штодзень. У гарадах да іх стаялі чэргі па 2 км даўжынёй. Але гэткая «масавая псіхатэрапія» не магла не даваць пабочных вынікаў. Сотні і тысячы псіхічна няўстойлівых людзей пасля сеансаў Кашпіроўскага і Чумака скардзіліся, што цяпер нехта нібыта кіруе іх думкамі і рухамі.

Урэшце, на гэта мусілі рэагаваць і ўлады. У 1993 годзе выйшаў спецыяльны ўказ прэзідэнта Расіі Барыса Ельцына аб забароне масавых сеансаў гіпнозу. Падобныя акты прынялі і ў іншых краінах СНД. Пасля гэтага папулярнасць Кашпіроўскага пачала хутка падаць. Але да таго часу ён, паводле ўласнага ▶




Знакаміты сеанс масавага гіпнозу ў дзіцячым мультфільме пра Маўглі: **пітон Каа цалкам падпарадкоўвае сваёй волі дзясяткі малпаў-бандэрлогаў**.

признання, стаў «першым новым рускім і доларавым мультымільянерам». Гэта дазволіла яму ў пачатку 1990-х набыць дом у Каліфорніі і з'ехаць жыць у Амерыку. Тады ж ён уклаў грошы ў акцыі амерыканскіх смеццеперапрацоўчых заводаў, якія, па словах журналіста Аляксандра Няўзорава, кормяць Кашпіроўскага і да сёння. Смецце аказалася не менш прыбытковым за гіпноз. Але асабістае жыццё цяпер 80-гадовага гіпнатызёра цяжка назваць паспяховым: сын Сяргей таксама жыве ў Амерыцы, носіць чужое прозвішча і рэдка кантактуе з бацькам, а дачка Алена скончыла жыццё самагубствам у Канадзе.

### У чым сакрэт поспеху?

Чаму папулярнасць гіпнатызёраў і экстрасэнсаў у часы распаду СССР была такой вялізнай? Галоўная прычына — сацыяльная. Час тады быў пераломны. У камуністычнай партыі выпадала з рук улада, а ва ўсёй краіне настаслі выключна цяжкія часы. У крамах бракавала самага неабходнага, у бальніцах было састарэлае абсталяванне, не хапала нават перавязачнага матэрыялу і ежы. Вядомыя выпадкі, калі шпіталі пазычалі адзін у аднаго па меху сухароў, каб карміць пацыентаў. Людзі баяліся хварэць, маглі спадзявацца толькі на сябе або на цуд. А гіпнатызёры цуды якраз і прапаноўвалі.

Ёсць версіі, што і самі ўлады, асцерагаючыся народных бунтаў, спрыялі сеансам Кашпіроўскага і Чумака, каб людзі маглі «выпускаць пару». Як сцвярджае гісторык спецслужбаў Валерый Маляваны, усе гіпнатызёры, парапсіхолагі і экстрасэнсы непасрэдна супрацоўнічалі з савецкімі спецслужбамі. Гэта за год да смерці, у 2016-м, пацвярджаў і Алан Чумак. Ён прызнаўся, што куратары распрацоўвалі для яго маршруты, вызначалі цэны выступленняў, іх тэмы, а таксама забіралі львіную долю даходаў.

Існуе нямала скептыкаў, якія называюць сеансы Кашпіроўскага ніякай не тэрапіяй, а толькі масавым псіхозам. Характэрна, што сам ён шматразова адмаўляўся паддацца прафесійным даследаванням

## Сем фактаў пра гіпноз

- Цяпер практыкуюць некалькі методык гіпнозу: слоўны, позіркавы, метад левітацыі (пасы), дырэктыўны, эрыксанаўскі гіпноз і трансбэгляйтунг — трансавае падарожжа ў падсвядомасць.
- Гіпноз налічвае тры стадыі: лёгкую, сярэднюю (гіпнатаксія) і глыбокую (самнамбулізм, ад лац. *somnus* — сон, *ambulare* — шпацыраваць, літаральна «сонахаджэнне»). Характэрнымі прыкметамі самнамбулізму з'яўляюцца амнезія (часовая страта памяці) і галюцынацыі з заплюшчанымі вачыма. У самнамбулізм упадае толькі штопяты-штосёмы пацыент.
- Кваліфікаваны гіпнатызёр рана ці позна зможа ўвесці ў гіпноз амаль любога, хто хоча ў яго ўвайсці. Аднак гіпнозу можна супрацьстаяць, не выконваючы інструкцый гіпнатызёра, спяваючы, танцуючы. Загіпнатызаваць чалавека супраць яго волі складана: у аб'екта ёсць дастаткова часу, каб распазнаць гіпнатызёра-махляра і сысці.
- Гіпноз не прыносіць ніякай карысці ў расследаванні крымінальных спраў. Спробы атрымаць паказанні пад гіпнозам праваліліся, бо нават у глыбокай стадыі пацыент здольны выдумляць, хлусіць ці дагаджаць гіпнатызёру.
- Гіпноз выкрывае ў чалавеку толькі тое, што ў ім ужо ёсць. Немагчыма прымусіць загіпнатызаванага пайсці супраць яго маральных прынцыпаў ці інтарэсаў. Гіпноз не ператварае нас у іншую асобу. Ён толькі дапамагае скінуць з сябе псіхалагічныя кайданы, максімальна расслабіцца і дасягнуць трансу.
- Гіпноз уздзейнічае не толькі на думкі і пачуцці, але і на фізіялагічныя функцыі — у чалавека, якому ўнушылі, што ён выпіў літр вады, часова змяняецца склад крыві і мачы; у таго, хто з'еў кавалак уяўнага торта, павялічваецца канцэнтрацыя цукру ў крыві.
- Гіпноз бяспечны для здароўя. Гіпнатычны стан — натуральны стан гармоніі, спакою і расслабленасці. На працягу дня чалавек неаднаразова ўпадае ў стан кароткачасовага трансу, не заўважаючы таго.

свайго дару. Але праўда, відаць, усё ж недзе пасярэдзіне. Таленавітым псіхатэрапеўтам Кашпіроўскі насамрэч быў, а вось усёмагутным цудатворцам, вядома, не. Праблема была перадусім у тым, што свае несумненныя здольнасці ён , гонячыся за славай і грашыма, спрафанаваў і дыскрэдытаваў.

**Кваліфікаваны гіпнатызёр рана ці позна зможа ўвесці ў гіпноз любога, хто сам хоча ўвайсці ў гіпноз**

Сам Кашпіроўскі называе свой метад праграмаваннем унутраных рэзерваў чалавечага арганізма на самавылячэнне, а працу з аўдыторыяй — практычнай філасофіяй. І афіцыйная медыцына не пярэчыць некаторым сцверджанням Кашпіроўскага, прызнаючы эфектыўнасць гіпнозу пры лячэнні атлусцення, неўрозаў усіх формаў, дэпрэсій, фобій, псіхасаматычных захворванняў, залежнасці ад курэння і алкаголю. Пад уплывам гіпнозу сапраўды можна праводзіць невялікія аперацыі без наркозу з мінімальнай стратай крыві, а таксама стаматалагічнае лячэнне для тых, у каго алергія на абязбольвальнікі. Але сур'ёзныя хваробы гэтым не вылечыш, тым больш раз і назаўсёды. І ён звычайна можа быць толькі дапаможным, але не асноўным метадам лячэння. Пра што тыя, хто ў часы перабудовы зарабляў на гэтым мільёны, натуральна, людзям не казалі. ◆

# Гіпнатызёр у Рублі: як гэта было

**Успамінамі пра спатканне ў дзяцінстве з гіпнозам дзеліцца Аляксандр Пашкевіч.**

Месца, дзе адбывалася дзеянне, — вялікае палескае сяло Рубель на Столінішчыне, бацькава радзіма, дзе я звычайна праводзіў у дзеда з бабай большую частку летніх канікул. Гэта было лета 1990 года, а мне было без пары месяцаў 12 гадоў.

У адзін з тых летніх дзён баба пайшла па нейкіх справах у Сяло (так завецца цэнтральная частка вёскі з усімі асноўнымі гандлёвымі, культурнымі і адміністрацыйнымі ўстановамі, даволі далёкая ад ускраінных зарэцкіх Жыдоў, дзе жылі мае дзед з бабай). Якія справы яе туды пагналі, дакладна не скажу, але можна здагадвацца: былі акурат часы вельмі напружанага таварнага дэфіцыту познесавецкай эпохі, калі з крамаў папрападала большасць тавараў і, каб нешта набыць, трэба было ці адстаяць у вялізных чэргах, ці мець у крамах знаёмых. Не прыгадаю, ці здабыла тады баба тое, па што хадзіла, — цалкам верагодна, што так, бо яна была жанчына разваротлівая і прабіўная. У кожным разе для нас было найбольш цікава тое, па што яна яўна не хадзіла, але што пры нагодзе набыла, не змогшы, відаць, прайсці міма чаргі — некалькі квіткоў на выступленне нейкага заезджага эстраднага гіпнатызёра.

Хто такія гіпнатызёры, мы добра ведалі: за год да таго па ўсім Саюзе пакацілася слава Анатоля Кашпіроўскага і Алана Чумака, і ў той час яна была на самым піку. Папулярнасць іх тэле- і радыёсеансаў была ў той час такаяаграмадная, што я сумняюся, ці знойдзецца хоць хтосьці з людзей, якія тады жылі, хто б ніводнага разу іх не глядзеў ці не слухаў. На мяне, праўда — як, наколькі ведаю, і на ўсю маю радню, — той гіпноз не дзейнічаў аніяк, глядзелі тыя перадачы проста як незвычайнае, а таму і цікавае шоу. Адпаведна, быў і скепсіс, што гэта толькі дурэнне галавы, а насамрэч ніякага гіпнозу ў прыродзе няма.

Але гіпнатызёр у тэлевізары і гіпнатызёр жыўцом — рэчы ўсё ж іншыя. І добра памятаю радасць ад таго, што тых бабіных квіткоў хапіла, каб у сямейную дэлегацыю на імпрэзу патрапіць і мне. Дзед з бабай былі людзі пажылыя і кансерватыўныя, ім на такія сходкі хадзіць было, як яны самі лічылі, не па чыне. Таму ні на што ад пачатку і не прэтэндавалі. А вось бацьку са мной і сястрой было самы раз.

У прызначаны для выступлення гіпнатызёра вечар даволі ўмяшчальная зала Рубельскага сельскага дома культуры была забітая, як і трэба было чакаць, біткам. Гіпнатызёрам аказаўся невысокі поўненькі дзядзька з бародкай, узростам мо гадоў пад 50. Прозвішча ягонага, на жаль, я не памятаю ды нават не ўпэўнены, што ведаў і тады. Ён быў жвавы і вясёлы, перад выступленнем сказаў, здаецца, нейкае ўступнае слова, змест якога ў маёй галаве не пакінуў аніякага следу. А пасля таго прыступіў да справы. Зразу ▶

адзначу, што выступленне не мела ніякага лячэбнага характару, не памятаю, каб на гэта нават намякалася: чыста забаўляльнае мерапрыемства. Магчыма, пра гэта казаў і сам гіпнатызёр ва ўступным слове.

А непасрэдная праграма, дзеля якой усе і сабраліся, пачалася са скандалу. Гіпнатызёр сказаў усім падняць рукі ўгару, сашчапіўшы пальцы і заплюшчыўшы вочы, і пачаў нешта гаварыць. Але раптам перарваўся і стаў крычаць, патрабуючы вывесці з залы нейкага мужчыну з першых радоў, які, як аказалася, штосьці з'едліва гаварыў яму пад руку і не даваў засяродзіцца. Мужыка пасля некаторай замінкі вывелі, нягледзячы на ягоныя пратэсты і запэўніванні, што ён «больш не будзе».

Пасля таго спатрэбіўся нейкі час, каб гіпнатызёр супакоіўся і быў гатовы да працягу праграмы. Зноў была тая ж каманда, і гэтым разам уносіць у сцэнар свае карэктывы ніхто не асмеліўся. Праз нейкі непрацяглы час выступоўца запрасіў тых, у каго пальцы на руках «зліпліся» і ён не можа іх самастойна разняць, на сцэну. Ні ў мяне, ні ў каго-кольвек з маіх сваякоў нічога падобнага, як і трэба было чакаць, улічваючы папярэдні нуль рэакцыі на Кашпіроўскага, не адбылося. Але з дзясятак чалавек з усёй залы ўсталі і выйшлі на сцэну. Там гіпнатызёр выбраў з іх чалавек мо з пяць, а астатнім «разляпіў» рукі, проста сказаўшы, што цяпер могуць гэта зрабіць, і адправіў назад у залу.

І пасля пачалося... Людзей, якія засталіся на сцэне, гіпнатызёр цалкам падпарадкоўваў сваёй волі, прымушаючы іх рабіць усё, што яму ўздумаецца. У праграме было нямала пунктаў, і ўсе яны мне, вядома, не запомніліся. Але некаторыя ў памяці ўсё ж захаваліся. Так, з адной жанчынай гіпнатызёр нібыта выйшаў на прагулку ў лес ці ў поле і, апісваючы ёй мясцовасць, казаў нешта рабіць. Напрыклад: наперадзе ў нас равок, трэба цераз яго пераскочыць. Яна і пераскоквае, хоць, натуральна, ніякага раўка там няма ані блізка.

Іншай жанчыне ён увёў у галаву, што яна спявачка, паставіў да мікрафона, — і яна стала спяваць пад фанаграму. Нават песню памятаю, якая праз тую фанаграму гучала, — «Балалайка» Алы Пугачовай («Плим-плим-плим-плим, я не ревную тебя...»).

А перад яшчэ адной дзяўчынай гіпнатызёр прытварыўся яе цёткай і адпаведна з гэтай легендай таксама нібыта кудысьці з ёй хадзіў і пра нешта размаўляў. Тады ў мяне гэта нават здзіўлення не выклікала на фоне іншых дзівосаў — проста звычайны эпізод у шэрагу. І толькі праз гады, калі той эпізод у мяне чамусьці ўсплыў у галаве, раптам убачылася супярэчнасць: у гэтай жа дзяўчыны цётка яўна павінна быць простай вясковай жанчынай, якая наўрад ці ахвотная ды нават і проста здольная гаварыць пра тое і рабіць тое, што рабіў гіпнатызёр. Ды і размаўляе яна яўна, як і ўсе ў вёсцы, на рубельскім дыялекце, а не на рускай мове, якой карыстаўся гіпнатызёр. На апошняй яна, хутчэй за ўсё, гаварыць увогуле не патрапіць. Аж пад гіпнозам, як выглядае, нават гэта не мае ніякага значэння.


SHUTTERSTOCK.COM, BY EVERETT COLLECTION

Пасля прагляду таго відовішча веры ў цудатворныя лекарскія здольнасці Кашпіроўскага і Чумака ў мяне асабіста не з'явілася, але тое, што ўвогуле існуюць такія людзі, якія рэальна могуць нават на публіцы падпарадкоўваць сваёй волі свядомасць іншых людзей, стала відавочным. Як і тое, што моцна дзейнічаюць усе гэтыя «чары» толькі на некаторых людзей, а большасць да іх больш-менш устойлівая. Прынамсі, іх не ўзяць «лабавой атакай».

Містыфікацыю і махлярства ў гэтым канкрэтным выпадку цяжка западозрыць. Калі б гэта адбывалася ў вялікім горадзе з выпадкова сабранай аўдыторыяй, то можна было б думаць пра тое, што тыя людзі, з якімі працаваў выступоўца на сцэне, былі «падсаднымі качкамі» — знаёмымі гіпнатызёра з акцёрскімі здольнасцямі, якіх проста папярэдне рассадзілі па зале, каб яны спачатку выдавалі сябе за выпадковых людзей, а пасля ішлі на сцэну іграць загадзя зрэжысіраваны спектакль. Але ў выпадку вёскі — хай сабе і вельмі вялікай, на той час больш за 5 000 жыхароў, — гэта зусім не працуе. У кожнага з тых, хто выйшаў на сцэну, у зале былі сваякі, суседзі, аднакласнікі ці калегі па працы, урэшце проста знаёмыя. Таму нейкай папярэдняй змовы і містыфікацыі тут яўна быць не магло, гіпнатызёр сапраўды дэманстраваў свае рэальныя магчымасці. А вось ці здолеў бы ён іх гэтак жа паспяхова прадэманстраваць праз тэлевізійны экран — казаць не бяруся. ◆


















# Падпісны індэкс 00469



















## Калі часопіса не засталося ў «Саюздруках» і на поштах, пытайцеся яго ў кнігарнях

**Мінск**
Symbal.by (пр. Машэрава, 18)
«Мой модны кут» (Цэнтр «Маскоўска-Венскі», павільён 333 — гэта каля ЦУМа, метро «Плошча Якуба Коласа», пр. Незалежнасці, 58)
«Акадэмкніга» (пр.Незалежнасці, 72, метро «Акадэмія навук»)
Філіял «Акадэмкнігі» на вул. Багдановіча, 46
Гандлёвы цэнтр «Купалаўскі» (пад Кастрычніцкай плошчай), крамы 37, 41–42 і 44–45
«Галіяфы» (вул. Няміга, 3, крама № 47 на цокальным паверсе)
Кніжны кірмаш па вул. Даўмана, 23 (субота 00.00–14.00), месца 78б
«Рагна» (вул. Сухая, 4, метро «Фрунзенская»)
«Кніжная шафа» (пр. Дзяржынскага, 9)
«Светач» (пр. Пераможцаў, 11)
«Цэнтральная кнігарня» (пр. Незалежнасці, 19)
«Кнігі і кніжачкі» (пр. Незалежнасці, 14)
«Эўрыка» (вул. Куйбышава, 75)

**Поштай ці з дастаўкай на дом** вы можаце яго замовіць праз Halijafy.by, Knihi.by, Kniger.by, Akademkniga.by

**Гродна**
«Цудоўня» (вул. Кірава, 3).
«Кругагляд» (б-р Ленінскага камсамола, 29а)
«Раніца» (вул. Маставая, 33)

**Брэст**
«Князь Вітаўт» (вул. Савецкая, 55)
«Асвета» (пр. Машэрава, 57)
«Дружба»(б-р Касманаўтаў, 120)
«Іскра» (вул. Пушкінская, 4)

**Гомель**
«Кніжны свет» (пр. Леніна, 45)

**Віцебск**
«Светач» (вул. Кірава, 10)
«Глобус» (вул. Замкавая, 21–30)

**Магілёў**
«Гасцінец» (Віцебскі праспект, 48)

**Бабруйск**
«Крыніца ведаў» (вул. Горкага, 31)

**Баранавічы**
«Кнігі» (вул. Савецкая, 73)

**Маладзечна**
«Спадчына» (вул. Прытыцкага, 7)

**Ліда**
«Кніжны свет» (пр. Перамогі, 33)

**Наваполацк**
«Дом кнігі» (вул. Маладзёжная, 145)
«Усход» (вул. Кірава, 4)

**Пінск**
«Мой модны кут» (вул. Леніна, 31)

Акрамя таго, праз сайт **ARCHE.BY** часопіс можна купіць у ПДФ, у электроннай версіі.



# Аляксандр Гаравец

## Лётчык-беларус, які на памяць чытаў аднапалчанам «Тараса на Парнасе»

**Пра легендарнага авіятара часоў Другой сусветнай вайны піша вайсковы гісторык Віталь Чырвінскі.**

Увечары 6 ліпеня 1943 года ў небе паміж Курскам і Белгарадам адбыўся бой савецкага знішчальніка Ла-5 супраць двух дзясяткаў бамбавікоў Ju-87 (так званых «юнкерсаў»). Гэты бой увайшоў у гісторыю савецкай авіяцыі як самы выніковы за ўсе гады Другой сусветнай вайны. Лётчык 8-й гвардзейскай знішчальнай дывізіі 5-га знішчальнага авіяцыйнага корпуса, намеснік камандзіра эскадрыллі гвардыі лейтэнант Аляксандр Гаравец у адным баі збіў 9 самалётаў праціўніка.

Маршал авіяцыі Сцяпан Красоўскі, выхадзец з Быхаўскага раёна на Магілёўшчыне, напіша праз гады: «У баявой практыцы савецкіх лётчыкаў адзначана нямала выпадкаў, калі знішчальніку ўдавалася за адзін вылет збіваць па 5–6 варожых самалётаў. Але ж паветраны бой гвардыі лейтэнанта Гараўца па сваёй адвазе, храбрасці і баявым майстэрстве з'яўляецца беспрэцэдэнтным».

Гвардыі лейтэнант Аляксандр Гаравец, які правёў гэты беспрэцэдэнтны бой, таксама быў нашым земляком. Але пра ўсё па парадку.

### Курская дуга

У красавіку 1943 года лінія савецка-германскага фронту, якая ссоўвалася ў заходнім кірунку, на некаторы час спынілася. Канфігурацыя фронту застыла, утварыўшы ў раёне горада Курск вялікі выступ у бок праціўніка (200 км па фронце, 150 км углыбіню). Гэты выступ увайшоў у гісторыю як Курская дуга. На ўсім фронце ўсталявалася стратэгічная паўза, і праціўнікі пачалі рыхтавацца да вырашальнага сутыкнення.

Нямецкі фюрар Адольф Гітлер ускладаў значныя спадзяванні на вялікае летняе наступленне. Перамога яму была патрэбная як паветра, каб вярнуць стратэгічную ініцыятыву, узняць баявы дух сваіх армій і аднавіць веру ў моц германскай зброі ў сатэлітаў Трэцяга рэйху. Пасля дадатковых мабілізацый колькасць салдат і афіцэраў гітлераўскай арміі дасягнула 5,32 млн чалавек (амаль столькі ж, колькі было ў чэрвені 1941 года перад нападам на



**Гаравец — удзельнік мастацкай самадзейнасці.** 1930 год.

Савецкі Саюз). З'явілася новая тэхніка — цяжкі танк «Тыгр», сярэдні танк «Пантэра», самаходная артылерыйская ўстаноўка «Фердынанд». Быў падрыхтаваны план наступальнай аперацыі пад кодавай назвай «Цытадэль». На Курскай дузе планавалася адначасова нанесці два сустрэчныя ўдары на Курск: адзін з раёна Арла на поўдзень, другі — з боку Харкава — Белграда на поўнач. Пры станоўчым выніку ў нямецкае акружэнне траплялі б войскі адразу двух савецкіх франтоў — Цэнтральнага і Варонежскага.

Бітва на Курскай дузе пачалася 5 ліпеня 1943 года і працягвалася амаль 50 дзён. Скончылася яна тым, што, знясіліўшы ўдарныя танкавыя групоўкі праціўніка, савецкія войскі перайшлі ў паспяховае контрнаступленне. Былі разбітыя 30 дывізій праціўніка з 70-ці, знішчана 3 500 самалётаў.

Менавіта на Курскай дузе завяршыўся карэнны перавалом у нямецка-савецкай вайне. Пасля гэтай бітвы гітлераўскія войскі будуць ужо толькі абараняцца і адступаць.

**Аляксандр Гаравец** нарадзіўся 12 сакавіка 1915 года ў шматдзетнай сялянскай сям'і ў Машканах — вёсцы на Сенненшчыне пад Віцебскам. Скончыў мясцовую сямігодку. Падчас вучобы, якая прыпала акурат на часы беларусізацыі, ён, па ўспамінах старэйшай сястры Ніны, з задавальненнем удзельнічаў у школьнай мастацкай самадзейнасці. Іграў у спектаклях «Паўлінка», «Мікітаў лапаць», «Савецкая рэпка». Выступаў нават у Віцебску, куды іх школьны тэатр дабіраўся возам (а гэта 40 км у адзін бок). Пасля заканчэння школы Гаравец паступіў у Полацкі лясны тэхнікум, але, захварэўшы на тыф, быў вымушаны вярнуцца дамоў. Пераехаў да сястры ў Віцебск, дзе працаваў слесарам і адначасова вучыўся ў 1-й Беларускай школе па падрыхтоўцы пілотаў для грамадзянскай авіяцыі (пазней ператворана ў Віцебскі аэраклуб). У 1932 годзе яго прызвалі ў Чырвоную армію, і там ён стаў лётчыкам ужо вайсковым. З жонкай Валянцінай Андрэеўнай сустрэўся ў Растоўскай вобласці, яна працавала там тэлефаністкай на шахце. Дачку Гараўцы назвалі Інгай. На фронце да таго гістарычнага дня, як лётчык-знішчальнік Гаравец здзейсніў 74 баявыя вылеты, удзельнічаў у дзесяці баях, знішчыў два самалёты праціўніка асабіста і шэсць у складзе групы.

### Храналогія подзвігу

На паўднёвым фасе Курскай дугі на зямлі і ў небе другі дзень запар грымела, дыміла і шугала полымем вырашальная бітва.

**Фас** — бок умацавання, павернуты да праціўніка, а таксама прамалінейныя ўчасткі драцяных загародаў, акопаў, супрацьтанкавых равоў і г. д.

6 ліпеня, на гадзінніку 19.40. Эскадрылля знішчальнікаў пасля выкананага задання па прыкрыцці наземных войскаў Варонежскага фронту вярталася на базу. Аляксандр Гаравец, які ляцеў замыкаючым, заўважыў вялікую групу нямецкіх бамбавікоў Ju-87 і спрабаваў паведаміць пра гэта свайму вядучаму — лейтэнанту Васілю Ракунову. Але сувязь не працавала. Тады беларус вырашыў самастойна атакаваць праціўніка, тым больш што «юнкерсы» на вышыні 2 500 метраў ішлі да фронту без прыкрыцця знішчальнікаў.

Гаравец атакаваў тады, калі самалёты пачалі перастройвацца



У гэтым месцы 6 ліпеня 1943 г. адбыўся апошні бой А. Гараўца

Аўтар схемы Антон Чырвінскі

для бомбакідання. У першай атацы ён знішчыў флагмана групы. Потым, па-майстэрску манеўруючы, падыходзячы ўсутыч да варожых машын і расстрэльваючы іх кароткімі чэргамі, збіў яшчэ сем пікіроўшчыкаў. Апошні «юнкерс» быў знішчаны таранам — беларус нанёс удар вінтом па хвасце з чорнай свастыкай.

Вытраціўшы ўвесь боезапас, савецкі лётчык узяў курс на свой аэрадром, але раптам сам быў атакаваны чацвёркай нямецкіх самалётаў-знішчальнікаў Ме-109 («месершмітаў»). Па іншай версіі, гэта былі знішчальнікі FW-190.

На гадзінніку каля 20.00. Падбіты самалёт беларуса падаў уніз. Перад самай зямлёй машына выйшла з піке, затым, быццам параненая птушка, то задзіраючы нос, то хілячыся на крыло, рэзка дала нырца, амаль пад прамым вуглом урэзаўшыся ў рыхлы чарназём агарода на ўскраіне хутара Зорынскія Двары (цяпер Белгарадская вобласць Расіі). Да свайго аэрадрома лётчык не дацягнуў усяго 4 км. Далей Курская бітва працягвалася без яго...

Савецкі знішчальнік **Ла-5**, на якім ваяваў Аляксандр Гаравец, быў мадыфікацыяй ранейшай цэльнадраўлянай мадэлі канструктарскага бюро Сямёна Лавачкіна. Удасканаленне самалёта адбылося ў 1942 годзе: усталявалі рухавік з паветраным ахалоджваннем, які вытрымліваў шматразовыя патрапляннi куляў. Самалёт быў разлічаны на аднаго пілота, меў на ўзбраенні дзве 20-міліметровыя аўтаматычныя гарматы ШВАК, на кожную з якіх у боезапасе прыпадала па 170 снарадаў. Савецкія лётчыкі ласкава называлі гэты самалёт «лавачкіным».




### Духоўны допінг па-беларуску

Сваім баявым сябрам Аляксандр Гаравец запомніўся чалавекам упэўненым у сабе, стройным, са светла-русымі завіткамі валасоў і мяккім, добразычлівым позіркам. Гаварыў па-руску з моцным беларускім акцэнтам.

І для яго не прайшоў дарма вучнёўскі ўдзел у школьнай самадзейнасці. Прытым самадзейнасці не якой-небудзь, а нацыянальна беларускай. Засвоенае тады пасля дэманстравалася і па-за межамі Беларусі, прытым таксама па-беларуску.

## Аднапалчанам Аляксандр на памяць чытаў «Тараса на Парнасе»

Захаваліся пасляваенныя ўспаміны лётчыка-знішчальніка, намесніка камандзіра 3-й эскадрыллі старшага лейтэнанта Пятра Высочына, які прыгадаў адзін з імправізаваных канцэртаў, што ладзілі лётчыкі ў вольную хвіліну: «Спачатку ён (Гаравец) чытаў нясмела, з аглядкай на тое, ці разумеюць беларускую мову таварышы. І не дзіва.




Нямецкі бамбавік і штурмавік **Ju-87** «штука» (ад нямецкага *Sturzkampfflugzeug* — абазначэнне ўсіх пікіруючых бамбавікоў). Аднаматорны, двухасабовы (пілот і задні стралок-радыст). Адметнымі рысамі былі крылы «перакуленая чайка», фіксаванае шасі, якое не складвалася, і сірэна пры пікіраванні. На ўзбраенні меў два нерухомыя 7,92-мм кулямёты MG17 у кансолях крылаў і рухомы 7,92-мм кулямёт MG15 стралка-радыста. Бомбавая нагрузка — 1 000 кг.
Сярод савецкіх лётчыкаў меў некалькі мянушак: «лапцёжнік» або «лапатнік» (нерухомыя шасі тырчалі з падбрушша самалёта быццам ногі, абутыя ў лапці), а таксама «пявун» або «шарманка» (з-за выцця сірэны пры пікіраванні).

У палку служылі людзі розных нацыянальнасцяў. Акрамя рускіх і ўкраінцаў, тут былі прадстаўнікі іншых народаў... Але неўзабаве Аляксандр, мабыць, адчуў, што беларуская мова ўспрымаецца жыва. І, увайшоўшы ў смак, чытаў нязмушана, лёгка, натхнёна, імкнучыся жэстамі і мімікай бачна перадаць вобразы персанажаў. А чытаў ён на памяць дзіўна сакавітыя, на мой погляд, вершы пра прыгоды “на тым свеце” беларускага селяніна-лесніка. Мне не давялося потым сутыкацца з гэтай паэмай,

### Пісьменнік-зямляк

Дарэчы, амаль у той жа час, што і Аляксандр Гаравец, у той жа вёсцы Машканы на Сенненшчыне гадаваўся Анатоль Вялюгін (1923–1994), які пасля стаў беларускім пісьменнікам. Песня на ягоныя словы «Бярозка» («Снягі і зоры за акном, паснулі ў хаце ўсе даўно...») у выкананні славутых «Песняроў» набыла ў 1970–1980-я гады ўсенародную вядомасць і папулярнасць. Вялюгін таксама прайшоў праз вайну, служыў сярод іншага на Сталінградскім фронце. У адрозненне ад славутага земляка, вярнуўся з яе жывы, у тым ліку каб змагчы напісаць і гэтыя патрыятычна-ўзнёслыя радкі: «Беларусь — мая маці і мова, паветра і хлеб! // Гэта зважана сэрцам, // на нервах расстайных дарог, // дзе не раз пад агнём задыхаўся ад дыму і слеп, // даставаўся здалёку, слязою абмыўшы парог».

але да гэтага часу памятаю вясёлыя сцэнкі з баляваннем і скокамі багоў. Некаторыя моманты прасілі паўтарыць. Такія імправізаваныя канцэрты прыкметна ўздымалі наш настрой. Можа быць, цяпер гэта будзе смешна, але пасля такіх вось духоўных допінгаў мы сыходзілі на баявое заданне з падвоенай энергіяй».

Паэму «Тарас на Парнасе» (а менавіта яе слухаў Пятро Высочын са сваімі баявымі таварышамі) Аляксандр Гаравец добра ведаў яшчэ са школьнай лавы. Неаднойчы дэкламаваў яе і ў роднай хаце, дзе прымушаў покатам катацца са смеху сваіх родных. То парадзіруючы аднаго з п'яных багоў: «А Зеўс тым часам насцябаўся, што носам чуць зямлю не рыў, — ён вочы плюшчыў і ківаўся ды быццам нешта гаварыў», —то кідаўся ў скокі разам з галоўным героем паэмы: «Як стаў прытаптываць атопкам, аж рот разявілі багі: то ён прысвісне, то прытопне, то шпарка пойдзе у кругі».

### 14 гадоў без вестак

На наступны дзень пасля таго славутага бою на загад камандзіраў 88-га знішчальнага авіяцыйнага палка і 8-й знішчальнай авіяцыйнай дывізіі былі створаны пошукавыя каманды. Але выявіць самалёт Аляксандра Гараўца, а таксама знайсці цела лётчыка ў іх не атрымалася. Абшукалі меркаванае месца гібелі «лавачкіна» і байцы 242-й танкавай брыгады, але акрамя кавалка хваставога апярэння Ла-5 нічога не знайшлі. Зрэшты, займацца гэтым доўга не выпадала: цяжкія баі на тым кірунку прымусілі спыніць пошукі.





НАГРАДНОЙ ЛИСТ.

**Гэты дакумент на ўзнагароджанне Аляксандра Гараўца ордэнам Чырвонага Сцяга** ў лютым 1943 года падпісаў камандзір 166-га знішчальнага авіяцыйнага палка гвардыі маёр Стэфан Рымша, таксама ўраджэнец Віцебшчыны. Ён пераджыве свайго земляка Аляксандра Гараўца толькі на два дні. 8 ліпеня 1943 года Рымша сам павядзе эскадрыллю знішчальнікаў на прыкрыццё наземных войскаў і гераічна загіне.

## Нягледзячы на фармулёўку «знік без вестак», Аляксандру Гараўцу пасмяротна прысвоілі званне Героя Савецкага Саюза

20 жніўня 1943 года Аляксандр Гаравец загадам Галоўнага ўпраўлення кадраў быў выключаны са спісаў Чырвонай арміі як зніклы без вестак. Нягледзячы на гэтую акалічнасць, па хадайніцтве камандавання авіяцыйнага палка, дзе служыў Гаравец, 28 верасня 1943 года «за бяспрыкладны подзвіг, здзейснены ў апошнім баі», яму пасмяротна прысвоілі званне Героя Савецкага Саюза. То-бок ніякіх сумневаў у тым, што ён менавіта загінуў, а не патрапіў у палон, ні ў кога, як выглядае, не было.

Паўтара дзясятка гадоў сяляне, якім належаў той агарод, куды на іхніх вачах урэзаўся савецкі самалёт, нават не спрабавалі адшукаць яго рэшткі, працягваючы на гэтым месцы штогод саджаць гародніну. ▸

## Ці можна паставіць подзвіг пад сумнеў?

Некаторыя сучасныя даследчыкі аспрэчваюць колькасць самалётаў Люфтвафэ, збітых у апісаным баі. Трэба сказаць, што аргументы ў іх дастаткова важкія. Бо ў той дзень, 6 ліпеня 1943 года, лётчыкі 8-й гвардзейскай знішчальнай авіядывізіі, дзе служыў лейтэнант Гаравец, заявілі аб знішчэнні 18 варожых «юнкерсаў», што і было адзначана ў баявых данясеннях (аднак гэта без уліку 9 збітых самалётаў, якія потым прыпісалі Гараўцу). У той жа час, паводле нямецкіх дадзеных, 4-ы паветраны флот, які дзейнічаў у гэтым раёне, за дзень увогуле страціў толькі 10 самалётаў Ju-87.
Дзе праўда і каму верыць? Упэўнена можна казаць толькі пра тое, што няроўны паветраны бой адзінокага савецкага самалёта быў — гэта неаспрэчны факт. Бо нябесную баталію назіралі з зямлі сотні байцоў і камандзіраў Варонежскага фронту, а таксама жыхары мясцовых вёсак. Захаваліся іх успаміны. На зямлю побач з траншэямі і акопамі нашых войскаў сыпаліся адзін за адным падбітыя нямецкія «штукі», а колькі іх было насамрэч у той вечар — 9, 8 або 7, — не так ужо і істотна, сам факт подзвігу беларуса тут відавочны.
Першае паведамленне пра рэдкі па напружанасці паветраны бой прыйшло камандзіру 8-й гвардзейскай знішчальнай авіядывізіі са штаба фронту, які ў сваю чаргу атрымаў інфармацыю з назіральных пастоў 1-й танкавай і 6-й гвардзейскай армій, а таксама ад іншых наземных часцей. Сустракаюцца сведчанні, што за гэтым боем з зямлі асабіста назіраў нават сам камандуючы войскамі Варонежскага фронту генерал арміі Мікалай Ватуцін.




**Аляксандр Гаравец у 1941 годзе (злева) і перад адпраўкай на фронт (1942 год).**

▶ Толькі ў кастрычніку 1957 года жыхары хутара Зорынскія Двары адкапалі на метровай глыбіні абломкі самалёта, перакуленага кабінай уніз. З цяжкасцю выцягнулі рухавік. «Выцягнулі — і халодныя дрыжыкі прайшлі па целе. Пад маторам ляжалі боты, а ў ботах — быццам абсечаныя галёнкі. Рэшткі цела прыкрывала сатлелая гімнасцёрка з пацямнелымі ордэнам Чырвонага Сцяга і гвардзейскім знакам», — успамінаў мясцовы селянін Сяргей Сяргееў.

Разам з парэшткамі адважнага лётчыка сяляне знайшлі пісталет ТТ з патронамі, планшэт з картаю, выцвілую фотакартку, палявую ашчадную кніжку, бартавы журнал, пасведчанне асобы і лісты. У нагрудным кішэні гімнасцёркі выявілі партыйны білет на імя Гараўца Аляксандра Канстанцінавіча. Таксама паднялі на паверхню пагнутыя гарматы і кулямёты без боепрыпасаў. Ліхтар кабіны (шкляны купал) быў адкрыты. Магчыма, лётчык спрабаваў выскачыць з парашутам, але перабітыя стропы не ўтрымалі купала, які вырваўся з кабіны. ◆

## Гараўцы і Гагарыны

У той жа Курскай бітве загінуў і малодшы брат Аляксандра. Маці Амалія Міхайлаўна пасля гэтых трагедый доўга не пажыла, памёршы адразу пасля вайны. Засталіся сёстры Зіна, Ніна, Соф'я, Ліда, Валя і іх бацька Канстанцін Іванавіч.
У красавіку 1961 года персанальны пенсіянер Канстанцін Гаравец, уражаны палётам у космас Юрыя Гагарына, пазваніў па тэлефоне ягоным бацькам Аляксею Іванавічу і Ганне Цімафееўне, каб павіншаваць. Паміж сем'ямі Гараўцоў і Гагарыных завязалася сяброўства. Яны ездзілі адзін да аднаго ў госці, перазвоньваліся, перапісваліся. І так супала, што і Гаравец-бацька памёр, і Юрый Гагарын загінуў у адзін і той жа год — 1968-ы.

## Напішыце пра жонак

Шчыры дзякуй вам за Вашу працу! Набываю кожны нумар і з задавальненнем адкрываю для сябе новыя старонкі гісторыі Бацькаўшчыны. Такіх якасных часопісаў вельмі не хапала!

Вырашыў таксама прапанаваць адну тэму для будучыні. Распавядзіце пра жыцці жонак нашых вялікіх князёў і каралёў! Хто яны былі, якімі яны былі, як склалася іх «сямейнае шчасце», ды і якім было іх штодзённае жыццё.

Сам маю за плячыма адукацыю гісторыка, але ж для мяне гэтыя жанчыны так і засталіся «ценямі за спінамі мужчын». Крыху вядомыя Марыя Віцебская, Ульяна Цвярская, Бірута, Сафія Гальшанская, Алена Іванаўна... Хочацца даведацца больш! Можна зрабіць адным артыкулам альбо пачаць новую штомесячную тэму.

**Алег Дуброў, Мінск**



**Калі ідзеш у паход, узважваеш кожную рэч, якую збіраешся ўзяць. «Наша Гісторыя» важыць 200 грамаў і дакладна вартая таго, каб заперці яе на вышыню 4 625 метраў. Непал, Manang, ледавік. Фота Рамана Брудскага.**

Андрэй Філіпчык, Instagram

## «Мы і ёсць гісторыя»

Шаноўны спадар Рэдактар!

Здаецца, Вас зацікавіць тэма «Беларусы і яўрэі на тэрыторыі Беларусі ў час Другой сусветнай вайны». У ёй шмат аспектаў, ад якіх нельга ўхіліцца: пра тых пакутнікаў, якія загінулі, ратуючы яўрэяў; беларусы, якія даносілі на яўрэяў; тыя, хто не даносіў, але, маючы інстынкт самазахавання, і не вельмі дапамагаў.

Ведала дзвюх жанчын — на жаль, іх ужо няма — праведніц народаў свету. Годныя, надзвычай сімпатычныя дамы.

У артыкуле пра «Пінскую шляхту» ўспамінаецца прозвішча Я. Тарановіча. Даволі цікавая гісторыя яго сям'і. Яго сын, Л. Я. Тарановіч, быў адным з першых кандыдатаў медыцынскіх навук, унучкі — дактары, унук загінуў у вайну. Жывыя праўнукі. Здаецца, знаходзяцца ў сваяцтве з Максімам Багдановічам. Мы і ёсць гісторыя, чаму б на прыкладзе шараговай сям'і не пагаварыць пра гэта?

Чакаю артыкул пра зорныя часы тэатра імя Янкі Купалы, калі на сцэну адначасова выходзілі 6 народных артыстаў СССР, пры тым што Масква не вельмі і песціла нацыянальныя кадры.

А наогул, Вы — вялікія малайцы! Вас чытаюць, любяць нават рэкламшчыкі. Прачыталі пра галандцаў з-пад Брэста — з'явілася рэклама пра сыр. Ну і ну!

**Чытачка, Мінск**

## «Хачу сам паспрабаваць»

«Наша гісторыя» трымае марку. Афігенная вокладка (№ 11/2019), бачна, што цікавыя артыкулы. Буду чытаць.

Усё хачу сам паспрабаваць нешта напісаць у часопіс, але ж там друкуюцца нават дактары і кандыдаты навук, а я ж нават не гісторык, а так, аматар.

**Арамаіс Міракян, Мінск**

**Ад рэдакцыі.** Наш адзіны крытэрый — каб было цікава і фарматна. Ступені хоць пры аўтарах і пазначаюцца, калі тыя іх маюць, але пры адборы тэкстаў да друку ў разлік ніяк не бяруцца. Так што спрабуйце.

**Ад рэдакцыі**

Дарагія чытачы, дасылайце нам тэмы ды ідэі артыкулаў, успаміны, сямейныя гісторыі (і нават рэцэпты!) на **history@nn.by**. А таксама падпісвайцеся, каб штомесяц гарантавана атрымліваць «Нашу гісторыю» ў паштовую скрыню. Падпісны індэкс **00469**.




# «Каб на хмель не мароз...»

## Хмельнікі былі раней неад’емнай часткай беларускага пейзажу, а якія мелі традыцыі!

**Без уласнай развітай культуры хмеляводства рэнесанс крафтавага ды хатняга піваварства, прыкметны ў Беларусі ў апошнія гады, мае досыць эфемерную прыроду, лічыць доктар гісторыі Алесь Белы.**

### Шлюбны саюз Соладу і Хмелю

Самай старой песняй у нашых суседзяў-палякаў лічыцца вясельная песня пра хмель:

Oj, chmielu, chmielu, ty bujne ziele,
Nie będzie bez cię żadne wesele,
Oj, chmielu, oj, nieboźę,
To na dół, to ku górze,
Chmielu nieboźę!

Беларусу гэтая песня зразумелая, бадай, без перакладу. А гісторыкі польскай мовы лічаць, што ёй больш за 1000 гадоў. Значыць, ужо тады хмель быў для славян адным з найбольш важных сімвалаў іх Сусвету.

У нашым фальклоры падобных песень таксама нямала. І яны таксама пераважна вясельныя. Як, напрыклад, вось гэтая:

Цяпер буду жаніціся:
Хмель на тычынку ўжо павіўся,
Ячмень на ніўцы ўжо наліўся,
Дачушка ў мамкі нагулялася,
А мне, маладому, спадабалася.

А вось як народная песня высмейвала нежанатага хлопца (або маладога на вяселлі), параўноўваючы яго з няўдалым піваварам:

А хто ж у нас нежанаты ходзіць?
Сямёнка ў нас нежанаты ходзіць:
Ён браў хмялёк у святы дзянёк,
Саладзіў солад на пярэклеце,
Мыў катлы на сінім моры,
Сушыў бочкі на сонейку.
Доля яго няшчасная:
Козы, оўцы хмель паелі,
Куры, гусі солад падзяўблі...

І справа тут не толькі ў тым, што піва было абавязковым атрыбутам вясельнага застолля. Здаецца, сам працэс піваварства сімвалічна супастаўляўся з вяселлем, са шлюбам, са святым саюзам двух супрацьлеглых і канкурэнтных, але ўзаемна неабходных пачаткаў — Соладу і Хмелю. Солад (і само збожжа, піва наогул, піўная бочка) у народным фальклоры і традыцыйнай вобразнасці выступае ўвасабленнем жаночага — салодкага! — пачатку і ў піве, і ў жыцці наогул. Ну, а хмель — пачатак мужчынскі.

Строга кажучы, у піваварстве можна было б абысціся і адным соладам — таксама было б піва. Саладкавае, як назойлівая матчына ласка... але ўсё роўна яно п’яніла б, насычала і здавальняла смагу. Але ўсё ж такі ў ім чагосьці б бракавала... Як кажуць: «Д’ябал солад саладзіў, ды бабе не дагадзіў...»

**Працэс піваварства параўноўвалі са шлюбам, саюзам двух супрацьлеглых, але ўзаемна неабходных пачаткаў — Соладу і Хмелю**

У рэшце рэшт чалавек здагадаўся, што ў піве бракуе горычы. А таксама, як высветлілі нашмат пазней, антыбактэрыяльнай устойлівасці — хоць, магчыма,

продкі інтуітыўна здагадваліся і пра гэта, толькі не ўмелі выказаць навукова. І сёння большасць гатункаў піва немагчымая без хмелю. Які чыста па-мужчынску ўвесь час кудысьці лезе і чапляецца. Чулі, напрыклад, такую прымаўку: «*Каб на хмель не мароз, дык бы тын перарос*»?

## Славянскі прыярытэт

Агульным стандартам дадаванне хмелю ў піва ў Еўропе стала не адразу. Доўгі час у розных краінах і рэгіёнах у якасці араматызатараў (і часткова антыбактэрыяльных сродкаў) ужывалі самыя розныя, часта «сакрэтныя» зёлкі. Нават у гісторыі беларускага півоварства вядомыя ў якасці альтэрнатывы хмелю багун, ядловец, гваздзікі, мацярдушка, аер, «бабкі» (лаўровае лісце) — праўда, хоць колькі масавымі яны ніколі не былі.

Стандартным кампанентам піваў Германіі хмель зрабіўся да XII стагоддзя, у Нідэрландах — да XIII-га, а ў Англіі — толькі ў XVI-м. Галоўнай прычынай, чаму *Reinheitsgebot* 1516 года, баварскі закон аб чысціні піва, надаў манаполію менавіта хмелю, быў банальны пратэкцыянізм: баварскія герцагі клапаціліся, каб іншаземныя зёлкі не стваралі канкурэнцыі прадукцыі тутэйшых хмельнікаў.

Але ў славян яшчэ за шмат стагоддзяў да гэтага склаўся стандарт абавязковага дадавання хмелю і ў піва, і ў пітны мёд. Паводле адной з гіпотэз, менавіта славяне першымі здагадаліся выкарыстаць хмель у півоварстве, а германцы навучыліся гэтаму ўжо ў нашых продкаў.

Прысмак, які надаюць піву шышкі расліны *Humulus lupulus*, урэшце зліўся ў масавай свядомасці з дурманам любога алкаголю. Бо іншых алкагольных напояў доўгі час проста не ведалі. Віно прыйшло з хрысціянствам, але піла яго асноўная маса нашых продкаў толькі на прычасце і не ў той колькасці, каб алкаголь закружыў галаву. А гарэлка стала адносна даступнай толькі ў XVII стагоддзі. Вось адкуль само тое слова — «захмялець». Хмель успрымаўся не толькі як сімвал мужчынскага пачатку, але і як носьбіт алкагольнага эфекту ва ўсіх вядомых напоях.

**Хмель звычайны** (Húmulus lúpulus) — від травяністых шматгадовых раслін роду Хмель сямейства каноплевых. Шматгадовая ліяна, сцябло якой дасягае 7 м у даўжыню. Сцябло хмелю ўецца па гадзіннай стрэлцы, яно чатырохграннае і полае ўнутры, карэнішча доўгае і паўзучае.
Плод — арэх са спіральна згорнутым зародкам, спее ў жніўні — верасні. Расліна шырока распаўсюджана ва ўмераным клімаце Еўразіі і Паўночнай Амерыкі; сустракаецца таксама на поўначы Афрыкі (у Марока). У дзікай прыродзе расце па далінах рэк, ярах, у прырэчных і сырых шыракалістых лясах, па хмызняковых зарасніках, у вербалозе.
Таксама здаўна разводзіцца на спецыяльных плантацыях, бо шырока прымяняецца ў гаспадарчых мэтах, перадусім у півоварстве і пячэнні хлеба. Даўней таксама са сцяблін хмелю атрымлівалі валокны, а плады-шышкі выкарыстоўвалі для афарбоўкі тканін. Акрамя таго, рэчывы хмелю прымяняюцца ў медыцыне, а сцябло выкарыстоўваюць як дэкаратыўную расліну.

Народныя загадкі пра хмель таксама намякаюць на ягоныя выразна «мужчынскія» якасці:

*«Быў такі Радзівон, радзіў дзяцей адзін ён. Пайшлі дзеці да Бога, Бога не дасталі, вушы паспускалі».*

*«Дзень добры, дзень добры, над зялёным вяночкам круцігалава».*

*«Без рук, без ног, без чэрава, а такі ўлез на дзерава».*

## Росквіт літоўскіх хмельнікаў

З XVI стагоддзя, калі пачаўся імклівы рост бровараў ▸




**Юльян Фалат. Збіранне хмелю.** 1884 год. Акварэль на паперы. Нацыянальны музей у Варшаве.

у Польшчы і свайго хмелю там пачынае не ставаць, вырошчванне гэтай працаёмкай і патрабавальнай культуры ў ВКЛ зрабілася прыкметнай і прыбытковай галіной эканомікі. Прывілеі на зямельныя наданні феадалам пачатку XVI стагоддзя нязменна згадваюць: «і са ўсімі іх землямі пашнымі і бортнымі і з сенажацямі, і з лясы, і з дубровамі, *і з хмельнікі*, і з бары, і з ловы звярынымі і пташымі...».

Літоўская метрыка зафіксавала адзін цікавы скандал: у 1508 годзе смаленскі манастыр Святой Тройцы скардзіўся вялікаму князю Жыгімонту Старому, што ягоныя ўраднікі не выдаюць манахам традыцыйную штогадовую мерку хмелю з гаспадарскага скарбу, як было заведзена з часоў яго брата Аляксандра. Жыгімонт загадаў аднавіць справядлівасць.

У часы, калі па ўсёй Еўропе пракацілася хваля «рэвалюцыі цэнаў», гандаль хмелем у ВКЛ пачаў быў засяроджвацца ў руках гарадскога купецтва. Але магнаты, тагачасныя наменклатурныя алігархі, хуценька апамяталіся і прыбралі гэтую галіну эканомікі, як зрэшты і іншыя, да сваіх рук, выцесніўшы з яе заможных гараджан. Устава 1522 года, якая забараніла віленскім мяшчанам гандаль хмелем, была толькі адным звяном у ланцугу эканамічных рэпрэсій супраць зародкаў нацыянальнай буржуазіі, якая ў выніку так і не афармілася як клас.

Большая частка хмельнікаў месцілася на захадзе Беларусі, дакладней кажучы — у гістарычнай Літве. У 1605 годзе толькі праз Гарадзенскую мытню прайшло «343 камені, 35 вантухоў і 61 з паловай вазы» хмелю. Калі ў 1561 годзе ВКЛ уступіла ў Інфлянцкую вайну, мытны збор за вываз хмелю, усталяваны ў памеры «ад каменю хмелю два грошы», зрабіўся адной з важных крыніц папаўнення дзяржаўнага скарбу. Трэці Літоўскі Статут прадугледжваў досыць сур'ёзную адказнасць за пашкоджанне хмельнікаў: «Хто бы каму хмелішчы падраў або парубаў... таковы маець гвалту плаціці дванадцать рублей грошай. А еслі бы дзерэва не пасек, толькі хмель падраў, то маець тры рублі грошай заплаціці».

## «Чаромхі, пасплятаныя вянкамі хмелю»

Большая частка хмелю тады, відаць, расла ў бяскрайніх лясах Беларусі і Літвы ў дзікім або напаўдзікім стане. Пры тагачасных шчыльнасці насельніцтва і стане эканомікі хапала і гэтага. Нават яшчэ ў XIX стагоддзі, калі хмель ужо пераважна культываваўся, не было праблемай хутка знайсці яго побач у лесе. Як піша Адам Міцкевіч у паэме «Пан Тадэвуш»:

> А ў той жа час ля іх ва ўсёй красе бясконцай
> Літоўскія лясы шумелі ў бляску сонца.
> Чаромхі, пасплятаныя вянкамі хмелю,
> Рабіны, што румянцам маладым гарэлі.
>
> *(Пераклад Пятра Бітэля)*

У «Пане Тадэвушу», дарэчы, хмель згадваецца сама меней 8 разоў. Вялікі хмельнік каля панскага дома ва ўяўленым Сапліцове адыгрывае вялікую сімвалічную ролю ў звязках паміж эпізодамі. У ім увесь час нехта знікае, быццам за кулісамі, калі аўтару трэба перавесці ўвагу чытача на наступны персанаж і іншую сюжэтную лінію. Вось як, напрыклад, уцякае з захопленага Сапліцова Пратазы ў кнізе 8-й:

> Праз момант у каноплях бліснуў шапкай белай,
> Што, нібы голуб, хутка ў цемры праляцела.
> Даў выстрал Конаўка па ёй, ды не пацэліў.
> Вось тычкі трэснулі — Пратазы ўжо у хмелі.
> «Я пратэстую!»— крыкнуў. Не баяўся болей,
> Бо далей меў ён рэчку, луг балотны, поле.

**Камень** — адзінка масы сыпкіх рэчываў і штучных тавараў у рознічным гандлі ВКЛ і Рэчы Паспалітай. З XIV стагоддзя найбольш ужываліся аўстрыйскі (11,203 кг) і прускі (для лёгкіх рэчываў 5,145 кг, для цяжкіх 10,290 кг) камень.

**Вантух** (скажонае нямецкае *lantuch*) — вялікі мех, куль.



Хмелевая плантацыя ў Замшанах Маларыцкага раёна, 2017 год.

PIVO.BY, ФОТА ВЯЧАСЛАВА РАДНЁНАВА

А ў пэўны момант паэмы Міцкевіч нават палічыў абавязковым даць тлумачэнне выключнай важнасці зараснікаў хмелю і канопляў у вайсковай справе:

Таму ў час бітвы ці наездаў, дратаванняў
Бакі абодва не шкадуюць намаганняў,
Каб толькі затрымаць каноплі за сабою,
Бо тым яны карысныя ў хвіліну бою,
Што з хмелевым далей злучаюцца спляценнем,
Спрыяючы атакам ды і адступленням.

Так што для класічнага панскага фальварка «залатых часоў» хмель і хмельнік — такі ж абавязковы атрыбут, як і для традыцыйных славянскіх вясельных песень.

### Канец «залатых часоў»

У часы, калі пісалася паэма Міцкевіча, у Панямонні былі асабліва вядомыя вялікія хмельнікі вакол Шчорсаў, дзе месціўся славуты бровар графаў Храптовічаў, ды ў Жалудку. Але эканамічная кан'юнктура ўжо была да іх неспрыяльнай. Бо спажыванне піва, у параўнанні з гарэлкай, большую частку XIX стагоддзя, пад уладай Расійскай імперыі, у нас занепадала, а разам з ім і мясцовая культура хмелю. Усё гэта — праз абсурдную падатковую палітыку, якая аддавала яўную перавагу гарэлцы.

Толькі ліберальныя рэформы Аляксандра II 1860-х спынілі гэты працэс, але вынікі гэтага сталі адчувальнымі толькі праз пакаленне, у 1880-я. Тады спажыванне піва ізноў пачало імкліва расці і зноў пачалі закладацца прамысловыя хмельнікі. Мінская губерня на рубяжы XIX і XX стагоддзяў займала трэцяе месца ў імперыі па валавым зборы хмелю. І, відаць, не так уся губерня, як перадусім яе паўднёвыя




**Уборка хмелю.** Гравюра з нямецкага выдання 1889 года.

паветы — Пінскі і Мазырскі. Якія суседзілі з Валынскай губерняй — імперскім лідарам хмелегадоўлі, якую там развівалі чэшскія каланісты. Да таго ж яны мелі больш цёплы і вільготны клімат і больш урадлівыя глебы, што вельмі важна для прамысловага хмелю.

Нашым землякам, праўда, навыкаў гэтага промыслу ўжо бракавала. І рашэнню гэтай задачы спрыяла, напрыклад, стварэнне Пятровіцкай школы пладаводства і хмеляводства ў Бабруйскім павеце, пераведзенай пазней у павятовы цэнтр — Бабруйск. Стаўка на развіццё гэтай галіны была адной з ініцыятыў Мінскага таварыства сельскай гаспадаркі, вядомага такімі сваймі славутымі постацямі, як Эдвард Вайніловіч і Раман Скірмунт.

Не толькі старасвецкія фальваркі, але і заможныя сялянскія гаспадаркі стараліся забяспечыць сябе ўласным хмелем. **Вось як успамінаў пра Сакольшчыну пачатку XX стагоддзя Баляслаў Грабінскі:**
«Піва было духмянае, бо дзед не шкадаваў хмелю. Хмель быў свой, рос у садку каля плота і віўся па тычках. Увосені, як даспеў, нашым дзіцячым абавязкам было сабраць кунюты [парасткі], злажыць у драўляны кадлубак і накрыць вечкам, каб не выветраў. Півам частаваў дзед некаторых суседзяў, гасцей, якіх мы мелі заўсёды на Вялікдзень, і сваёю сям'ёю пілі са два тыдні па святах».

### Савецкія арэлі

Пасля рэвалюцыі хмеляводства было адной з першых галін, у якой пачалі пераважаць калектыўныя формы гаспадарання. Напрыклад, пад Калінкавічамі вырошчваннем хмелю займаліся габрэйскія сельгаскамуны. Захаваліся фота міжваеннага часу, на якіх хмель даглядаюць і збіраюць шчаслівыя камунары, усім сваім выглядам дэманструючы аптымізм і ўпэўненасць у перавагах сацыялізму.

Але пасля вайны наша гадоўля хмелю зазнала чарговы заняпад, і толькі ў пачатку 1970-х пазначыўся новы ўздым. Менавіта тады ў строй увялі большасць новых піўных бровараў Беларусі: Полацкі, Слуцкі, Рэчыцкі, Мінскі № 2 («Крыніца»), Брэсцкі. Тады ж пад Маладзечнам, каля вёскі з сімвалічнай назвай Літва, быў закладзены і пачаў прыносіць адчувальную аддачу хмельнік плошчай 50 га, які даваў 107 тон высакаякаснай сыравіны штогод. Было і яшчэ некалькі даволі буйных: каля іншай вёскі Літва, ужо Ляхавіцкага раёна, а таксама ў Камянецкім і Бярозаўскім раёнах. Дзе-нідзе рады бетонных слупоў-шпалераў і дагэтуль нагадваюць пра былыя маштабы той гадоўлі. ▶



**Збор хмелю ў 1950-я гады ў былой вёсцы Астравы** (цяпер у складзе аграгарадка Міханавічы) Мінскага раёна. Фота паходзіць з сямейнага архіва вядомага беларускага мастацтвазнаўца Сяргея Харэўскага, дзед якога, Аркадзь Паўлавіч Баркоўскі, пасля вайны быў галоўным хмеляводам Мінскага раёна, кантралюючы якасць сыравіны і паставак на піўзавод «Беларусь» (цяперашняя «Аліварыя»). На хмелевых плантацыях працавалі і абедзве бабулі Харэўскага, Гэлена Сымонаўна Баркоўская і Анастасія Кірылаўна Харэўская.

▸ Тады Беларусь выраблялa 0,3 працэнта ад сусветнай вытворчасці хмелю, узровень вытворчасці быў нароўні з Турцыяй, Канадай і Паўднёвай Карэяй і ўтрая большы, чым у Аўстраліі. Гэта складала 40–50 % ад уласных патрэбаў, а ў асобныя гады нават і больш. Але падчас гарбачоўскай антыалкагольнай кампаніі нашы хмельнікі, у які ўжо раз, ізноў былі дашчэнту зведзеныя.

### Хібная стаўка на імпарт

Сёння гадоўляй хмелю ў Беларусі займаецца фактычна толькі адна сям'я — нашчадкі піянера прыватнага хмельніцтва Уладзіміра Антановіча (памёр у 2016 годзе). Яны маюць вялікія хмельнікі на Берасцейшчыне, у Маларыцкім і Пружанскім раёнах. Пры спрыяльнай кан'юнктуры яны маглі б даваць штогод да 100 тон хмелю ці нават больш — але гэта толькі недзе каля 15–20% ад патрэбаў усёй Беларусі. Сённяшняе наша піваварства працуе пераважна на імпартным хмелі і прытым на даволі малой разнастайнасці гатункаў, асабліва араматычных. Для параўнання: суседняя Польшча збірае штогод 2 500 тон шышак хмелю, Чэхія — 5 500, а Германія — 32 500.

## Сёння гадоўляй хмелю ў Беларусі займаецца толькі адна сям'я

А самае прыкрае (хоць у размове пра хмель «прыкрасць» можа выглядаць недарэчным каламбурам), што хмель з усім сваім глыбокім гістарычным і этнаграфічным сімвалізмам амаль не прысутнічае як вобраз у сённяшняй папулярнай культуры, не выклікае ў сучаснага беларуса аніякіх асацыяцый. У адрозненне ад нас, у Еўропе шмат дзе ёсць музеі хмелю, дзе можна зразумець усю складанасць і шляхетнасць гэтага старажытнага промыслу, самому расцерці шышкі паміж пальцамі, адчуць розніцу паміж рознымі гатункамі, прайсціся паміж радамі шпалераў і адчуць сябе ў ролі зборшчыка.

Прыгадваецца нядаўні лозунг: «Культура паляпшае жыццё». Мне здаецца, што без уласнай развітай культуры хмелю і рэнесанс крафтавага ды хатняга піваварства, прыкметны ў Беларусі ў апошнія гады, мае досыць эфемерную прыроду. Хочацца спадзявацца, што сярод тых, хто чытае гэты артыкул, знойдуцца і людзі, якія ў будучыні змогуць забяспечыць Беларусь і якасным хмелем уласнай вытворчасці, і годным сімвалічным асэнсаваннем гэтай старажытнай і годнай культуры. ◆

### Гавары з хмелем па-нашаму!

У свой час мяне ўразіла рэклама польскага піва *«Tyskie»* 2015 года са слоганам *«Polski chmiel polska dusza»*. Яна сцвярджае, што сапраўды нацыянальнае піва — гэта тое, якое зварана з айчынных кампанентаў, і ці не ў першую чаргу — з айчыннага хмелю. У роліку стары хмелявод раіць маладому: маўляў, каб хмель лепш рос, ты з ім шмат размаўляй. «А як?» — пытаецца малады. — «Ды па-нашаму, па-польску», — адказвае дасведчаны. І малады ходзіць паміж высокіх радоў хмелю і апантана «загаворвае» хмель класічнымі польскімі скорагаворкамі.

БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ КІНАФОТАФОНАДАКУМЕНТАЎ

# «Гнецца плыт дугою, прэ яго да гаку...»

## *Цяжкая і небяспечная праца нёманскіх плытагонаў*

**Да канца 1960-х неадменным сезонным элементам пейзажу на Нёмане і іншых вялікіх рэках Беларусі былі плыты, звязаныя з бярвёнаў. Сплавам дрэва займаліся прафесіяналы — плытагоны ці плытнікі. Пра гэтую старадаўнюю, але зніклую прафесію піша Андрэй Вашкевіч.**

### Замест стрэльбаў — бомы

Не сумняюся, што шмат хто памятае знакамітае рэвалюцыйнае пяцірадкоўе Якуба Коласа:

Я — мужык, а гонар маю,
Гнуся, але да пары.
Я маўчу, маўчу, трываю,
Але скора загукаю:
«Стрэльбы, хлопчыкі, бяры!»

Заклік да стрэльбаў гучыць тут неяк не асабліва натуральна, надта ўжо па-партызанску, таму я не асабліва здзівіўся, калі аднойчы дазнаўся, што ў пачатковай версіі верша замест стрэльбаў Колас заклікаў мужыкоў брацца за бомы. Бома ж — гэта доўгая жэрдка, кол з трохі завостраным канцом, традыцыйная прылада працы плытагонаў, якая пры нагодзе магла стаць і зброяй.

Якуб Колас вырас на Нёмане, сярод плытагонаў. Нават бацька ягоны, хоць і служыў пазней леснікам, у маладосці паспытаў гэтага хлеба. Пра гэта сам паэт згадвае ў паэме «Новая зямля», пішучы пра Міхала: «Хадзіў на сплаў ён, на віціны, // Разоў са два схадзіў у Прусы // — Куды не трапяць беларусы?». Менавіта плытагонам маланды настаўнік Кастусь Міцкевіч чытаў свае першыя беларускія вершы, і менавіта яны пасля расказалі пра яго рэдактару «Нашай Нівы» Аляксандру Уласаву.

### Плыты, румы і віціны

Адным з галоўных скарбаў Панямоння заўсёды быў лес. Гэта можна смела сцвярджаць, проста нават гледзячы на старыя паштоўкі з выявамі берагоў Нёмана ў Гродне, якія заўсёды былі закладзеныя бярвеннем. Яго апрацоўвалі на тартаках (так па-беларуску называлі яшчэ лесапільні, пільніцы) і ў самім горадзе, частку грузілі на чыгуначныя платформы, але большасць сплаўлялі далей — да Балтыйскага мора.

Спілаванае ў Налібоцкай, Белавежскай, Ліпічанскай або Гродзенскай пушчах дрэва (часцей за ўсё елка) не паспявала даплыць да мора за адзін сезон. У канцы лета бярвенне выцягвалі з вады і складалі на берагах у так званых румах (адсюль назва многіх прынёманскіх мясцовасцяў — Рум). Вясной яно, зноў звязанае ў плыты, накіроўвалася далей.

Плыты звязвалі дротам, вяроўкамі, а яшчэ раней бярозавымі галінамі, якія ▸

#### Аляксандр Уласаў і мікалаеўскія плытнікі

«Ехаў я... трэцяй класай. Раптам увальваецца лапцяватая грамада беларусаў з Нёмана. Загналі плыты ў Коўню, едуць назад па Нёмане, каб ізноў гнаць дрэва. Мяне тады распірала, як кажуць цяпер, ад агітацыі; разгаварыўся скора, чытаў вершы Мацея Бурачка. Тады не было яшчэ ні Купалы, ні Коласа. Плытнікі з вёскі Мікалаеўшчына. Гэта вёска дастаўляла не толькі “рачных ваўкоў”, але і вучыцеляў народных, як м. Валожын рабінаў. Мне гавораць: “А ў нас адзін настаўнік смешна чытае па-нашаму”».

*Якуб Колас і «Наша Ніва»*

**Бома** — доўгая жэрдка, кол з трохі завостраным канцом, традыцыйная прылада працы плытагонаў.
**Рум** — месца на беразе ракі, дзе складалі на захоўванне лес.
**Віці** — пругкія бярозавыя галінкі, якімі звязвалі плыты.
**Рапы** — перакаты, дзе рака была асабліва хуткай, а дно — пакрытае камянямі.
**Сола** — вялікі камень, які выступае з вады, або астравок з пяску ды жвіру.
**Бусак** — тое, што па-расейску называецца «багор».




**Плыты каля Старога моста ў Гродне.** Пачатак XX стагоддзя. Паштоўка з калекцыі Фелікса Варашыльскага.

называліся віці. Гледзячы па ўсім, гэтыя галіны спрадвек выкарыстоўваліся і для будоўлі старадаўніх нёманскіх грузавых караблёў — віцінаў, адсюль і паходзіць іх назва.

### Водныя дарогі

Асабліва цяжкай была дарога плытоў з Валыні. Спачатку дрэва сплаўлялася па правых прытоках Прыпяці да вусця Ясельды і там зімавала. Вясной плыты прыкладна тры тыдні ішлі ўверх па Ясельдзе і Агінскім канале да Шчары. Сплаў па Шчары ішоў таксама тры тыдні, і недзе тры, а то і пяць тыдняў — па Нёмане да Коўна. Ад Коўна да вусця Нёмана шлях займаў каля двух тыдняў. Такім чынам, толькі на дарогу ў адзін бок ішло каля трох месяцаў па высокай вадзе ў канцы вясны і пачатку лета.

Нёман быў шляхам для плытоў не толькі ад вусцяў Шчары, Росі ці Котры. Лес гналі па ім ужо з самай Стаўбцоўшчыны. Тут найбольш займалася гандлем дрэвам адміністрацыя Радзівілаў, але з часам гэты занятак усё больш пераймалі яўрэйскія прадпрымальнікі, якія адкуплялі ў Радзівілаў права на высечку і сплаў пэўных дзялак лесу.

### Моцныя, спрытныя і абазнаныя

Каб плыт паспяхова дайшоў да Балтыкі, ім трэба было кіраваць. Гэтым і займаліся адважныя людзі — плытагоны. Праца плытагона была ў тым, каб цэлымі днямі накіроўваць плыт пры дапамозе бомы, якой трэба было адштурхоўвацца ад дна ракі і часам берага. Праца нялёгкая і небяспечная: на мокрым бярвенні лёгка было паслізнуцца. Упадзеш у ваду, а тоўстае бервяно як садане па галаве... Таму плытагону трэба было не толькі мець вялікую фізічную сілу, але таксама быць вельмі спрытным чалавекам.

Патрабаваліся яшчэ і спецыяльныя веды, асабліва з тых, што тычацца фарватару Нёмана. Трэба было ведаць усе нечаканыя павароты ракі, мелі, а таксама найбольш небяспечныя яе ўчасткі, рапы — месцы, дзе рака была асабліва хуткай, а яе дно пакрывала каменне. На рапе лёгка было разваліць плыт і пакалечыцца. Такіх небяспечных месцаў хапала па ўсім Нёмане, і плытагоны іх добра ведалі. Напрыклад, каля Гродна ў раёне вёскі Пышкі былі рапы Грымячка і Рапін, аднак самыя небяспечныя знаходзіліся далей па цячэнні, на тэрыторыі сучаснай Літвы, каля Румшышак і Дваралішак.

**На рапе лёгка было разваліць плыт і пакалечыцца**

Трэба было таксама сачыць за тымі месцамі, дзе ў Нёман упадалі большыя ручаіны ды рэчкі. Там вада віравала і стварала небяспечныя пярэспы пяску, якія час ад часу змянялі сваё месцазнаходжанне. Дарэчы, ад розных утварэнняў на рацэ займелі назвы і некаторыя вёскі ды мясцовасці. Вялікі камень, які выступае з вады, або астравок з пяску ды жвіру называліся сола ці солка (адсюль назва вёскі Солы), а цячэнні, якія разыходзіліся ад такога каменя ці вострава, называліся вусы (вусікі). Мясцовасць з назвай Вусікі некалі была на беразе ракі ў гродзенскім лесапарку Пышкі. Асабліва вялікі камень, які ўзвышаўся з вады, называўся веліч, а глыбокае месца каля берага, дзе віравала вада, — адвой.

Плытагоны ў пераважнай большасці былі сялянамі з наднёманскіх вёсак, але існавалі і адмысловыя яўрэйскія каманды плытагонаў «плынт-трайбераў».

Побыт плытагонаў быў просты. Жылі яны ў пабудаваных на плытах будах — шалашах з яловай кары. Тут жа на вялікіх пляскатых камянях яны гатавалі


**Плытагоны на Нёмане** каля вёскі Морына (Іўеўскі раён). 1950-я гады.

ГРОДЗЕНСКІ ГІСТОРЫКА-АРХЕАЛАГІЧНЫ МУЗЕЙ



**Плытагон 1930-х гадоў**, ужо з калгаснай брыгады.

БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ КІНАФОТАФОНАДАКУМЕНТАЎ

Вельмі цікава перадаў у напісаным у 1907 годзе вершы «Плытнікі» побыт і мову нёманскіх плытагонаў пачатку XX стагоддзя Якуб Колас. Ён любіў гэтых прадстаўнікоў вясковага пралетарыяту і пастаянна сутыкаўся з імі ў сваім дзяцінстве і маладосці:

Клунак за плячамі,
Згорбленыя спіны, —
Валіць чарадамі
Люд на сплаў, віціны.

Босыя іх ногі,
Твар іх загарэлы,
Вопратка убога,
Чуць прыкрыты целы.

Ззаду ледзь ступае,
Хлеб вязе кабыла.
Нокае, гукае
На яе Кірыла...

Жарыць-скварыць сонца,
Ліст не скалыхнецца,
Горача бясконца,
Рагамі пот льецца.

Срэбрам адлівае,
Як люстэрка, Нёман,
Зранку не сціхае
Над вадою гоман.

Ад крыку-лаянкі
Аж дрыжыць паветра:
— На «барбару», Янка!
— Гартоль бяры, Петра!

— Закідай шырыгу!
— Прысам папхні ўліва!
Варушыся! Мігам!
Не спі ў шапку! Жыва!

А заднік без толку
Бусаком махае.
Галаўнік Міколка
Бэсціць яго, лае.

Гнецца плыт дугою,
Прэ яго да гаку,
Быстраю вадою
Ломіць, як вужаку.

На мель узагнала.
Крык, сярдзіты голас.
Порткі паскідалі,
Ўсе ў вадзе па пояс.

Бомы ўсе пабралі:
— Рразам, хлопцы! Рразам!
Ну, яшчэ! Што сталі?
Ну, яшчэ наляжам!

Вецер загуляе –
Хвойнік, лозы гнуцца.
Плытнік спачывае,
Як сабака ў будцы.

Плытнік гнецца ў полі,
Мерзне ён у холад,
Ведае нядолю,
Ведае і голад.

Што ж? Бядота гоніць,
Толькі сілы траціш,
Толькі косці ломіць,
Як хваробу схваціш.

* * *

Эх ты, доля, доля!
Голад ты, галота!
Не свая тут воля,
Не свая ахвота.



**Нямецкія салдаты на плыце ў Гродне.** 1916 год. Паштоўка з калекцыі Фелікса Варашыльскага.

▶ сабе ежу. Калі ж плытоў аднаго гаспадара ішло вельмі шмат, то на адным з іх стаяла збудаваная з дошак буда, дзе жыў пісар, які плаціў плытагонам грошы і забяспечваў іх прадуктамі. На стандартным плыце, як правіла, ішлі два чалавекі, якія за сплаў яго амаль ад вёскі Пясочнае на Капыльшчыне да Гродна атрымлівалі ў царскія часы 35 рублёў на дваіх. Не самая вялікая аплата за такую цяжкую і небяспечную працу.

Плытагону цяжка было дажыць да сталага ўзросту, але сярод аднавяскоўцаў яны лічыліся бывалымі людзьмі, што пабачылі свет і ведалі, як жывуць людзі не толькі ў Беларусі, але і далёка за яе межамі.

### Плытніцкая мова

Плытнікі ўвогуле, можна сказаць, складалі асобную сацыяльную групу з-за спецыфікі сваёй працы. Мова нёманскіх рачных рабочых была насычаная спецыяльнымі словамі да такой ступені, што простаму чалавеку цяжка, а часам і немагчыма было яе зразумець. Гэта было звязана як з наяўнасцю спецыфічнай, у тым ліку і тыпова судаходнай, іншамоўнай і мясцовай лексікі, так і са змяшэннем моваў, паколькі сярод плытагонаў, апрача беларусаў і яўрэяў, былі і палякі, і літоўцы, і немцы. Напрыклад, «сесці на гак» азначала «сесці на мель», разгрузіць карабель на мелі — «правесці ліхтугу» (ад нямецкага *Leichtung* — аблягчэнне). Мелкія месцы плытагоны і віціннікі пазначалі галінамі — «варамі», а глыбокія, зручныя для суднаходства — саламянымі вехамі, «вянкамі». Вельмі шмат было прафесіяналізмаў — канструктыўных тэрмінаў, якія абазначалі часткі плыта або карабля: апачына, барбара, шарыга, фляксоны, швэлі і іншае.

**Мова нёманскіх плытагонаў была насычаная спецыяльнымі словамі да такой ступені, што простыя людзі яе не разумелі**

### Адміранне прафесіі

Плыты ішлі па Нёмане да канца 1960-х гадоў, калі яшчэ на поўную магутнасць працаваў дрэваапрацоўчы камбінат у Мастах. Вясковыя пралетарыі-плытнікі пераўтварыліся ў калгасныя брыгады, якія займаліся сплавам дрэва. Але па меры скарачэння запасаў якаснай драўніны на берагах ракі і развіцця іншых сродкаў транспарту плытагонства прыйшло ў заняпад. Цяпер пра яго засталася толькі памяць. ◆

Від на раскоп у Навасёлках.

# Хто жыў пад Навасёлкамі 40 тысяч гадоў таму

## Археолагі адшукалі новы пачатак нашай гісторыі!

**Знаходкі каля вёсак Абідавічы, Свяцілавічы, Бердыж (Падлужжа), якія мы вывучаем у школе, адносяцца да сярэдняга палеаліту, які звычайна звязваюць з неандэртальцамі. А ў Веткаўскім раёне археолагі знайшлі сляды першых *Homo sapiens*. Расказвае ўдзельнік экспедыцыі Алесь Гаршкоў.**

### Першыя *Homo sapiens* на тэрыторыі Беларусі, з Афрыкі на Гомельшчыну

Археалагічны помнік у Навасёлках Веткаўскага раёна Гомельскай вобласці быў адкрыты ў 2011 годзе супрацоўніцай акадэмічнага аддзела археалогіі Сярэдніх вякоў і Новага часу Ганнай Цімафеенка. Яна паказала свае крамянёвыя знаходкі навуковаму супрацоўніку аддзела археалогіі першабытнага грамадства Алесю Вашанаву. Ён зацікавіўся артэфактамі і разам з калегам два гады таму пачаў з імі працаваць.



Нягледзячы на тое, што помнік вывучаецца нядаўна, мы ўжо можам казаць пра яго палеалітычны ўзрост. Гэта пацвярджаюць і замежныя калегі, бо матэрыялы ўжо былі прадстаўленыя на буйной міжнароднай канферэнцыі —

**Палеаліт** (ад грэчаскай мовы палеас — старажытны, літас — камень, старажытнакаменны век) — самы старажытны і самы працяглы археалагічны перыяд у жыцці чалавека, які пачынаецца ад вырабу першых каменных прылад працы (2,6 мільёна гадоў таму) і да пачатку новай геалагічнай эпохі — галацэну (10 тысяч гадоў таму), калі апрацоўка прылад выйшла на іншы ўзровень развіцця.

палявым семінары ў расійскім Бранску.

Знешні выгляд знаходак і ступень захаванасці дазваляюць атаясамліваць іх з арыньякскай культурай, з чым пагаджаюцца і замежныя археолагі. Гэта археалагічная культура існавала ў Еўропе, Азіі і Афрыцы 43–38 тысяч гадоў таму. Яе паходжанне звязваецца з дзейнасцю першых людзей сучаснага антрапалагічнага тыпу — *Homo sapiens* (краманьёнцамі па старой тэрміналогіі).

З гэтага вынікае, што на дадзены момант мы зафіксавалі матэрыяльную культуру першых *Homo sapiens* на тэрыторыі Беларусі і адну з хваляў міграцыі з Афрыкі.

## Што знайшлі

Падчас паверхневых збораў і раскопак былі знойдзеныя скрабкі, разцы, розныя крамянёвыя пласцінкі і адшчэпы. На першы погляд, гэта стандартны набор, які ёсць на любых помніках каменнага веку. Але не ўсё так проста. Для дадзенай культуры характэрна тое, што спецыфічныя высокія скрабкі не выкарыстоўваліся для апрацоўкі скуры, а разцы — для косці ці дрэва. З іх атрымлівалі загатоўкі — мікрапласціны. Пасля з іх рабілі састаўныя прылады: наканечнікі дзідаў, рэжучыя, колючыя інструменты.

Але трэба адзначыць, што ў носьбітаў арыньякскай культуры прылады былі не толькі з крэменю, але і з костак. Напрыклад, спецыфічныя наканечнікі стрэлаў з раздвоеным насадам. Было ў іх развіта і мастацтва. Прыкладам з'яўляюцца так званыя арыньякскія вульвы, рэльеф жанчыны з рогам, схематычныя выявы жывёл, сцэны палявання, высечаныя на вапнавых плітках.

## Як тыя людзі выглядалі

На тэрыторыі Беларусі яшчэ не было знойдзена парэшткаў чалавека гэтай археалагічнай культуры. Але яны ёсць на іншых тэрыторыях. Адно з найбліжэйшых да нас пахаванняў даследавана на помніку Касцёнкі-14 (Маркіна гара), што знаходзіцца каля сяла Касцёнкі Хахольскага раёна Варонежскай вобласці Расіі.

Цікавасць яго ў тым, што яма, зробленая для пахавання, прасякала пласт вулканічнага попелу. Гэты попел з'явіўся ў выніку вывяржэння вулкана на Флегрэйскіх палях (Італія). Ён датуецца 39,8 тысячы гадоў таму. Самі ж парэшткі маюць дату 33–32 тысячы гадоў таму.

Косткі ў пахавальнай яме ляжалі ў позе эмбрыёна. Ніякіх прылад працы з ім пакладзена не было. Антраполагі вызначылі пол і ўзрост пахаванага. Гэта быў мужчына ва ўзросце 25–30 гадоў, ростам каля 160 см. Ён меў праблемы са здароўем праз малую насычанасць арганізму кальцыем. Хутчэй за ўсё, чалавек пакутаваў ад сутаргаў і здранцвення канечнасцяў, у яго балела спіна. Па стане зубоў было вызначана, што мужчына харчаваўся цвёрдай ежай.

Яшчэ ў 1950-я гады была зроблена рэканструкцыя яго аблічча па чэрапе, якая дазволіла меркаваць пра падабенства выгляду гэтага мужчыны з абарыгенамі Аўстраліі. Але даследаванні ДНК паказалі, што ўвогуле да тых абарыгенаў ён не мае аніякага дачынення і з'яўляецца адным са старажытных прадстаўнікоў *Homo sapiens* ва Усходняй Еўропе.

Зыходзячы з гэтых дадзеных, можна казаць пра несумненную вартасць помніка пад Навасёлкамі і неабходнасць працягу даследаванняў на ім. Не выключана, што ўвядзенне матэрыялаў у навуковы зварот дасць магчымасць археолагам скарэктаваць мадэль засялення *Homo sapiens* не толькі тэрыторыі сучаснай Беларусі, але таксама і ўсёй Еўропы. ◆



**Рэканструкцыя юнака** з Маркінай гары (Касцёнкі-14).



ФОТА А. ВАШАНАВА

**Нуклеус** з раскопак ліпеня 2019 года.

# Поле бітвы бронзавага веку



Крэмневы наканечнік стралы ўвайшоў у **костку маладога воіна.**



**Так даліна рэчкі Талензе выглядае цяпер.** Татальнай меліярацыі тут не было, і краявід збольшага застаўся такі ж, як 3000 гадоў таму. Археолагі выявілі ў тоўшчы торфу сляды старадаўняй гаці, якая перацінала рэчку ў даўнія часы. Гаці тады гацілі, як і ў ХХ стагоддзі: зямлю высцілалі хмызамі і камянямі.

**Ці ведаеце вы, дзе адбывалася Грунвальдская бітва? Гісторыкі і археолагі дагэтуль шукаюць — дакладнае месца пакуль не знойдзена. А што ўжо казаць пра ранейшыя часы! Старажытныя бітвы вядомыя толькі з пісьмовых крыніц, і не знойдзена пакуль ніякіх матэрыяльных пацвярджэнняў ні элінскіх войнаў, ні блізкаўсходніх баталій… Але ёсць выключэнне, пра якое піша Аляксей Ластоўскі.**

Адзінае вядомае поле бітвы старажытнай Еўропы знайшлі адносна нядаўна — у 2008 годзе, у даліне ракі Талензе, якая ўпадае ў Балтыйскае мора, на поўначы Германіі. Гэтая знаходка змяніла ўяўленні гісторыкаў пра эпоху бронзавага веку. Вучоныя ўяўлялі тагачасную Еўропу маланаселенай.

І вось у даліне ракі знаходзяць больш за 12 000 фрагментаў мужчынскіх касцей, якія належалі па меншай меры 140 індывідам — і ўсе маладыя і фізічна падрыхтаваныя! Ясна, што гэта была вялікая бітва: калі столькі касцей засталося ляжаць у адным месцы, значыць, у бітве сышліся тысячы людзей. А раз тысячы, то хтосьці мусіў



**Фантазійнае ўяўленне, як магла выглядаць бітва пад Талензе.** Толькі варта ўлічыць, што людзі тады былі нашмат драбнейшыя і фізічна слабейшыя, чым цяпер. Тагачасныя волаты нам здаліся б рахітычнымі здыхлікамі.



Чарапы і косткі ў месцы, дзе пераможцы **пакідалі трупы пераможаных у рэчку**.



Чэрап, прабіты стралою.

імі камандаваць, ім трэба было харчаванне, забеспячэнне. Значыць, была высокая арганізацыя. Гэта сведчыць, што тагачасныя грамадствы былі значна больш арганізаваныя, чым нам уяўлялася. Радыекарбонны аналіз стрэл дазволіў вызначыць прыкладную дату бітвы — каля 1300–1250 гадоў да н. э.

Істотнае пытанне: гэта было міжусобнае змаганне ці сутыкненне з прыхаднямі? Пакуль што археолагі лічаць, што гэта была сутычка паміж дзвюма групамі воінаў, адна з якіх мела тутэйшае паходжанне, а другая была сабраная з розных мясцін.

Пацвярджэннем гэтай версіі сталі даследаванні ДНК (адзін з найбольш перспектыўных кірункаў у сучаснай археалогіі), якія сведчаць, што некаторыя ваяры паходзілі з поўдня Еўропы, а другія — з раёна цяперашняй Польшчы і Скандынавіі.

І вось 15 кастрычніка 2019 года ў кембрыджскім часопісе «*Antiquity*» быў апублікаваны артыкул пра яшчэ адну археалагічную знаходку на полі бітвы ля ракі Талензе. У 2016 годзе ля чалавечых парэшткаў быў знойдзены камплект з 31 бронзавага прадмета, якія, хутчэй за ўсё, былі сабраныя ў нейкі мяшок, а пасля пакінутыя. Сярод гэтых прадметаў — шыла, долата, нож, некаторыя бронзавыя фрагменты, якія маглі выкарыстоўвацца як сыравіна для перапрацоўкі. Вылучаецца ўпрыгожаная бронзавая каробачка, такія звычайна насілі на поясе.

Што цікава, сярод знаходак было некалькі бронзавых цыліндраў, якія выкарыстоўвалі для захоўвання асабістых рэчаў. Прадметы такога тыпу маюць аналагі толькі ў паўднёвай Германіі ці ўсходняй Францыі. Гэта значыць, падымаюцца стаўкі тых навукоўцаў, якія даказваюць, што гэта бітва мела міжрэгіянальнае вымярэнне, што гэта была не лакальная паўночнагерманская сутычка. Магчыма, такія высновы пададуцца сціплымі, але поле бітвы ля ракі Талензе не мае аналагаў, а таму вучоным даводзіцца вельмі карпатліва аднаўляць кантэкст гэтай унікальнай археалагічнай знаходкі. ◆





Турысты, якія наведваюць месца бітвы на рэчцы Талензе, могуць таксама **адпачыць на балтыйскім узбярэжжы Мекленбурга.**

# АПОШНІ ВАМПІР

ЧАСТКА 9


Мінск, канец 1940-х. Сірата Лёня Рудзіцкі дазнаецца, што ён – прыроджаны вампір з вялікімі здольнасцямі. На яго палке НКВД, вярхоўка якога таксама складаецца з вампіраў. Даведаўшыся пра таямніцу свайго паходжання і пра сапраўднае сваё імя – Людвік, – ён хаваецца ад пераследу НКВД на хутары пад Валожынам, пасля ўцякае ў Мінск пад іншымі імем і прозвішчам. Усё ж злоўлены НКВД, Людвік адмаўляе прапанову самога Лаўрэнція Цанавы аб супрацоўніцтве і трапляе ў турму НКВД, дзе праводзіць шмат гадоў. Пасля смерці Сталіна Людвіка вызваляе незнаёмы афіцэр НКВД, які не з'яўляецца вампірам, перадае Людвіку дакументы ягонага бацькі і па падземных каналах дапамагае збегчы. Людвік таемна жыве ў Мінску, падпрацоўвае выпадковымі заробкамі і, навучыўшыся чытаць адмысловы бацькаў шыфр, з дакументаў дазнаецца, што недзе на двары знішчанага бацькоўскага дома захоўваецца скрыня са складнікамі эліксіру, які здольны пераўтварыць усіх вампіраў у звычайных людзей. Людвік вырашае паспрабаваць вырабіць эліксір і выкарыстаць яго падчас першамайскай дэманстрацыі...



















НАСТУПНЫЯ ДНІ ПРАЛЯЦЕЛІ ЯК У СНЕ...
Я І НЕ ВЕДАЛА РАНЕЙ, ШТО ТАК МАГУ!
Я ТАКСАМА, ПАКУЛЬ НЕ СУСТРЭЎ ЦЯБЕ...


ШТО Ў КВАТЭРЫ ПАД НАМІ?
ТАМ ЖЫВЕ... ПАЛКОЎНІК-АРТЫЛЕРЫСТ. ЁН СПІЦЬ, СНІЦЬ ВАЙНУ. ЖОНКА ЯГО СНІЦЬ...
...ЗНАЁМАГА ФІНАГЕНТА. А КОТ МЫШ ПІЛЬНУЕ КАЛЯ НАРЫ.
...А МЫШ СПІЦЬ САБЕ І ВЫХОДЗІЦЬ НЕ ЗБІРАЕЦЦА.


Я ДУМАЎ, ШТО АДЗІН ТАКІ НА ЎСІМ СВЕЦЕ.
Я ЎВОГУЛЕ НЕ ВЕДАЛА, ШТО Я ТАКОЕ. ДЗЕТДОМАЎСКАЯ, БАЦЬКОЎ НЕ ПАМЯТАЮ.
НА УРАЛЕ З ГОЛАДУ ЎКУСІЛА СУСЕДКУ ПА ПАЛАЦЕ – ЛЕДЗЬ НЕ ЗВАР'ЯЦЕЛА АД ГЭТАЙ СІЛЫ.


ТЫ З ПРЫРОДЖАНЫХ ВАМПІРАЎ. МАГЧЫМА, З НЕЙКАГА СТАРОГА РУСКАГА ЦІ ЎКРАІНСКАГА РОДУ. КАЛІ МЫ РАЗАМ, МЫ ПАДСІЛКОЎВАЕМ АДНО АДНАГО.
УЯВІ, ЯКОЕ ЖЫЦЦЁ НАС ЧАКАЕ! МЫ МОЖАМ УСЁ!


НЕ, КАЦЯ, НЕ МОЖАМ...
ІНШЫЯ ВЫКАРЫСТОЎВАЮЦЬ ТАКУЮ Ж СІЛУ ДЛЯ ЗЛЫХ СПРАВАЎ...
А ШТО НАМ ДА ІХ? ДА ГЭТЫХ ІНШЫХ? ЁСЦЬ ТОЛЬКІ МЫ!


ГЭТА НАШ ШАНЦ ЗМЯНІЦЬ СВЕТ ДА ЛЕПШАГА!
А ТЫ ЛЕПШ БУДЗЕШ ЖЫЦЬ БЕЗ ГЭТАЙ СІЛЫ? А Я? КІМ МЫ БУДЗЕМ? НІКІМ!


КАЦЯ, МЫ БУДЗЕМ ЛЮДЗЬМІ!..
ГЭТАЯ ЗЯМЛЯ - НЕ ДЛЯ ЛЮДЗЕЙ!


"НЕ ДЛЯ ЛЮДЗЕЙ"... ЭХ, КАЦЯ...


1 МАЯ. ЛЮДВІК ЗБІРАЎСЯ ЗДЗЕЙСНІЦЬ ЗАДУМАНАЕ...
ЧАС! СЁННЯ ЎСЁ І АДБУДЗЕЦЦА!


АЛЕ ЁН НЕ ВЕДАЎ, ШТО ЗА ІМ НАЗІРАЕ ЯГОНЫ...
РУДЗІЦКІ! ТЫ ВЕЛЬМІ ЗМЯНІЎСЯ...
АЛЕ АД МЯНЕ НЕ СХАВАЕШСЯ! ЦЯПЕР ТЫ ЗА ЎСЁ АДКАЖАШ!


...НАЙГОРШЫ ВОРАГ!
ШТО ГЭТА Ў ТВАЁЙ РУЦЭ? АГА!.. ТЫ ЎСЁ Ж ЗДОЛЕЎ АТРЫМАЦЬ БАЦЬКАЎ ЭЛІКСІР, АЛЕ ЁН БУДЗЕ МАІМ! І ТАДЫ ЦЯБЕ НІЧОГА НЕ ВЫРАТУЕ АД МАЁЙ ПОМСТЫ!


І ВОСЬ...
ПАРА!
А НУ, СТАЯЦЬ!!!


ДАВАЙ СЮДЫ ЭЛІКСІР МАГУТНАСЦІ АБО ЗАБ'Ю ЯЕ!!!
НАЗАД!!!
ПАЛКОЎНІК?! ПАШКАДАВАЛІ МЫ ЦЯБЕ ТАДЫ, ПОГАНЬ! ВІДАЦЬ, ДАРЭМНА!
ДЫ ЯКІ ЯШЧЭ «ЭЛІКСІР МАГУТНАСЦІ», ГЭТА...
ДАВАЙ – АБО ЁЙ НЕ ЖЫЦЬ!!!
ДОБРА-ДОБРА...


А ЦЯПЕР БЫВАЙ, ВЫРАДАК!
ШТО ТЫ РОБІШ...
СПЫНІСЯ!.. ДУРАНЬ...
НАРЭШЦЕ!..


















## КАНЕЦ

СЮЖЭТ: АНДРЭЙ СКУРКО
МАСТАК: ФІЛІП КАКОША


Аўтар Алесь Кудрыцкі
Наша Пластыляндыя
Падыходзьце!
Купляйце!
Глядзіце: стары знаёмы. Што ён там прадае?


Рабы! Купляйце рабоў!


Танака і сябры пабачылі жахлівую карціну. Разбойнікі прадавалі на рынку сям'ю слімакоў, якіх яны захапілі ў палон.
Добры тавар! Гы-гы!


Прададзім нядорага.


Вызваліце іх!
Ды як вам не сорамна!


Яны такія ж слімакі, як вы.
Гэта рабы! Я раблю з імі што хачу.


Купляйце ці правальвайце адсюль.


Трэба іх ратаваць.
Але як?


Мы прадалі бурштын! Вось ваша доля.


Купец Гаўрыла перадаў Танаку цэлы збан срэбных грошай.


Давайце выкупім рабоў і дадзім ім волю.


Танака выклаў за рабоў усе грошы, якія зарабілі ён і сябры.
Трэба болей!


Торвальд прапанаваў разбойнікам свой плашч, а Зорачка – сваю заколку-ружу. Але тым было ўсё мала.
Мала!


І тады Танака вырашыў аддаць самае каштоўнае, што ў яго было.


Гэта сякера Перуна. Аддаю яе за гэтых слімакоў.
Давай!

Забірайце сваіх рабоў, дурні! Хе-хе-хе!

Дзякуем вам, сябры. Вы выратавалі нас.
Мы жылі ў Полацку. Разбойнікі схапілі нас і прывезлі сюды на продаж.

Э, дык мы землякі! Можам завезці вас дахаты на нашым караблі.
Гэта было б цудоўна!

І тут з'явілася чароўная ракавінка. Надышоў час вяртацца дадому.
Шчаслівай дарожкі вам, Танака і Зорачка!

Бывайце здаровенькія, сябры!














Проста цуд нейкі!

Хто працуе, таму і шанцуе, кхе-кхе...

Калі не лянуешся, то і без чароўнай сякеры можна абысціся.

www.tanaka.by

Гісторыя пра вандроўку з варагаў у грэкі скончылася. Але прыгоды Танакі і Зорачкі будуць працягвацца!